ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 7

№ 7



МІНСК

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1939



ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XIII

№ 7
Ліпень 1939 г.



ЗМЕСТ

Стар.

**Аб мерапрыемствах па развіццю грамадскай жывёлагадоўлі ў калгасах.** (Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б)) . . . 2
**Перадавы**—Магутны флот магутнай дзяржавы . . . . . . . . . 16
**М. Кулагін**—Па-большэвіцку сустрэць Трэці ўсесаюзны з'езд калгаснікаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 21
**Б. Зельцэр**—За большэвіцкае кіраўніцтва калгасамі . . . . . . 31
**С. Новік**—Рашуча змагацца з разбазарваннем грамадскіх зямель калгасаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 40
**С. Гурэвіч**—Нястомна ўмацоўваць абаронную магутнасць нашай краіны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 48
**Ю. Балбатун**—Як я вывучаю гісторыю ВКП(б) . . . . . . . . 53

*Кансультацыі*

**Дваццацігоддзе першай сусветнай імперыялістычнай вайны** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 55
**П. Рубінчык** — Аб кнізе Леніна „Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 71

*Адказы на пытанні*

**С. Топаз**—Што такое матэрыялізм і ідэалізм . . . . . . . . . 88
Тлумачэнне некаторых філасофскіх тэрмінаў, якія сустракаюцца ў артыкулах П. Рубенчыка і С. Топаза, змешчаных у гэтым нумары журнала . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 98

*Рэцэнзіі*

Кніга аб вялікай перамозе . . . . . . . . . . . . . . . . . 101

Адрас рэдакцыі:
Менск, вул. Карла Маркса,
Памяшканне Парткурсаў пры ЦК КП(б)Б,
пакой 13.
Тэлефоны рэдакцыі: нам. рэдактара—камутатар
20-000, даб. 271; агульны—24-887.






# Аб мерапрыемствах па развіццю грамадскай жывёлагадоўлі ў калгасах

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б).*

Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) адзначаюць сур'ёзныя поспехі калгасаў у справе развіцця грамадскай жывёлагадоўлі. Колькасць калгасных жывёлагадоўчых ферм складае цяпер больш 400 тысяч, а пагалоўе жывёлы ў фермах вырасла з 1933 г. па 1938 год: па буйнай рагатай жывёле на 79 проц., па авечках, козах і свіннях на 168 проц. На 1-е студзеня 1939 года ў калгасных фермах мелася буйнай рагатай жывёлы 12,9 мільёна галоў, авечак і коз 27,2 мільёна, свіней 6,6 мільёна.

Праведзена вялікая работа па паляпшэнню пароднага састава жывёлы і павышэнню яе прадукцыйнасці. У 1938 годзе ў калгасных фермах ужо 90 проц. кароў было пакрыта племяннымі вытворнікамі, 86 проц. авечак—племяннымі баранамі, а ўсё матачнае пагалоўе свіней было ахоплена метызацыяй.

У калгасах вырасла армія перадавікоў, арганізатараў соцыялістычнай жывёлагадоўлі, ауладаўшых справай правільнага вядзення грамадскай жывёлагадоўчай гаспадаркі.

У рэзультаце велізарнай дапамогі, аказанай калгаснікам Партыяй і Урадам, ліквідавана бескароўнасць у калгаснікаў, і значна ўзрасла колькасць усіх відаў жывёлы і птушкі, якія знаходзяцца ў асабістым карыстанні калгаснікаў.

Але побач з гэтымі поспехамі ёсць і сур'ёзныя недахопы ў развіцці калгаснай жывёлагадоўлі. Значная частка калгасаў да гэтага часу зусім не мае жывёлагадоўчых ферм, а многія калгасы абзавяліся толькі найдрабнейшымі фермамі, якія не даюць ні належнай таварнасці, ні належнай даходнасці калгасам, не гледзячы на тое, што ў іх ёсць велізарныя нескарыстаныя магчымасці для развядзення грамадскай жывёлы і арганізацыі вялікіх і даходных жывёлагадоўчых ферм.

Так, напрыклад, у Кіргізскай ССР не маюць зусім ніякіх жывёлагадоўчых ферм 45 проц. усіх калгасаў, у Таджыкскай ССР—62 проц., у Разанскай вобласці—17 проц., у Акцюбінскай вобласці—13 проц., у Кіраўскай вобласці—11 проц., у Горкаўскай вобласці—10 проц. Маюць менш 10 кароў у ферме 50 проц. калгасаў Варонежскай вобласці, 50 проц.—Орлоўскай вобласці, 50 проц.—Разанскай вобласці, 46 проц.—Маскоўскай вобласці, 45 проц.—Яраслаўскай вобласці, 43 проц.—Горкаўскай вобласці, 38 проц.—Калінінскай вобласці і 21 проц.—Валагодскай вобласці. У Азербайджанскай ССР 50 проц.

калгасаў не маюць грамадскага стада авечак, у Чэчэна-Інгушскай АССР—49 проц., ва Узбекскай ССР—35 проц., у Палтаўскай вобласці—40 проц., у Іркуцкай—34 проц., у Одэскай—32 проц., у Горкаўскай—27 проц.; у Казахскай ССР калгаснікі маюць у асабістым карыстанні ад 25 да 150 галоў авечак на адзін калгасны двор, у той час, як напрыклад, у Гур'еўскай вобласці Казахскай ССР толькі каля 30 проц. калгасаў маюць больш 100 галоў авечак і коз на калгасную ферму; ва Узбекскай ССР колькасць ферм, якія маюць звыш 100 галоў авечак, налічваецца ўсяго 28 проц.; у Іркуцкай вобласці ўсяго 24 проц. калгасаў маюць аўцагадоўчыя фермы з пагалоўем звыш 100 галоў, 42 проц. калгасаў маюць аўцагадоўчыя фермы з пагалоўем менш 100 галоў, а 34 проц. калгасаў зусім не маюць аўцагадоўчых ферм. Такое-ж становішча з калгаснай аўцагадоўляй мае месца ў Омскай, Новасібірскай, Курскай, Каменец-Падольскай і Чэрнігаўскай абласцях.

Толькі 12,5 проц. калгасаў Маскоўскай вобласці маюць больш 5-ці галоў свінаматак на калгас, другія 12,5 проц. маюць менш 5-ці галоў свінаматак, а астатнія 75 проц. калгасаў зусім не маюць грамадскай свінагадоўлі; у Смаленскай вобласці менш 7 проц. калгасаў маюць звыш 5-ці галоў свінаматак на калгас, 28 проц. калгасаў маюць менш 5-ці галоў свінаматак, а 65 проц. зусім не вядуць грамадскай свінагадоўлі; у Кіраўскай вобласці 9 проц. калгасаў маюць больш 5-ці галоў свінаматак на калгас, 22 проц.—менш 5-ці галоў свінаматак, а 69 проц. калгасаў зусім не маюць грамадскай свінагадоўлі. Такое-ж нецярпімае становішча з калгаснай свінагадоўляй ёсць у абласцях: Горкаўскай, Іванаўскай, Яраслаўскай, Тульскай, Чкалаўскай, Чэлябінскай, Ленінградскай, Тамбоўскай, Орлоўскай, Новасібірскай, Калінінскай, Іркуцкай і ў Краснаярскім краі.

Справе развіцця калгаснай жывёлагадоўлі перашкаджае, перш за ўсё, дзеючая сістэма абавязковых паставак мяса дзяржаве калгасамі, якая вылічвае размеры мясапаставак па колькасці пагалоўя жывёлы ў калгасных фермах і адпаведна з ростам гэтага пагалоўя. Гэта сістэма, па якой размеры мясапаставак у кожны год павялічваюцца для калгасаў, маючых прырост пагалоўя ў фермах, і памяншаюцца для калгасаў, скарачаючых пагалоўе жывёлы, ставіць у нявыгаднае становішча перадавыя калгасы, знішчае іх зацікаўленасць у росце грамадскай жывёлагадоўлі і, наадварот, ставіць у ільготнае становішча адсталыя калгасы, якія не маюць жывёлагадоўчых ферм або не даюць росту пагалоўя жывёлы ў фермах.

Для таго, каб знішчыць гэту перашкоду на шляху развіцця грамадскай жывёлагадоўлі ў калгасах, неабходна існуючую сістэму мясапаставак ліквідаваць і замяніць новай сістэмай мясапаставак, якая-б вылічвала размеры мясапаставак не па наяўнасці пагалоўя жывёлы ў калгасах, а па памерах зямлі, якая знаходзіцца ў карыстанні калгасаў. Такая сістэма стварыла-б выгаднае становішча для перадавых калгасаў, якія маюць добрыя фермы і павялічваюць штогод пагалоўе жывёлы ў фермах, паставіла-б у нявыгаднае становішча адсталыя калгасы, якія не маюць добрых ферм і не клапоцяцца аб павелічэнні пагалоўя жывёлы, і прымусіла-б адсталыя калгасы абзавесціся добрымі фермамі, павялічваць штогод пагалоўе грамадскай жывёлы і стаць, такім чынам, перадавымі калгасамі.

Але існуючая сістэма мясапаставак не з'яўляецца адзінай прычынай, перашкаджаючай развіццю грамадскай жывёлагадоўлі ў калга-

сах. Справе развіцця калгаснай жывёлагадоўлі перашкаджае таксама неарганізаванасць кармавой базы, моцнае адставанне механізацыі працэсаў сенаўборкі і самой жывёлагадоўлі, у параўнанні з агульным узроўнем механізацыі сельскай гаспадаркі. Вялікія сенакосныя плошчы астаюцца часта няўбранымі або ўбіраюцца са спазненнем, з прычыны малой насычанасці МТС машынамі і ўборкі сенакосных плошчаў уручную. Напрыклад, у Казахскай ССР штогод убіраецца ўручную больш 2-х мільёнаў гектараў сена. Апрача таго, вытворчасць сенаўборачных машын знаходзіцца ў запушчаным стане і ні ў якой меры не адпавядае патрэбнасці сельскай гаспадаркі. МТС самаўхіліліся ад справы сенаўборкі, у рэзультаце чаго велізарныя рэсурсы кармоў для жывёлы не скарыстоўваюцца, прападаюць марна, а грамадская жывёлагадоўля забяспечана кармамі недастаткова. Нарэшце, усё яшчэ нездавальняюча пастаўлена справа павышэння ўраджайнасці кармавых культур, паляпшэння лугоў і пастбішчаў і арганізацыі вытворчасці насенаводства кармавых траў.

У мэтах далейшага развіцця і ўмацавання грамадскай жывёлагадоўлі ў калгасах і ліквідацыі маючыхся недахопаў у сістэме мясапаставак, Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) **пастанаўляюць:**

## I.

### Аб развіцці калгасных жывёлагадоўчых ферм.

1. Лічачы пажаданым і мэтазгодным мець у кожным калгасе тры жывёлагадоўчыя фермы, адну—буйнай рагатай жывёлы, другую—аўцагадоўчую і трэцюю—свінагадоўчую, устанавіць, што кожны калгас павінен мець па крайняй меры не менш двух жывёлагадоўчых ферм, з іх: адну ферму буйнай рагатай жывёлы і другую—аўцагадоўчую або свінагадоўчую ферму.

2. Калгасная **ферма буйнай рагатай жывёлы** павінна мець мінімум пагалоўя:

а) у калгасах Беларускай ССР, Украінскай ССР, Башкірскай АССР, Крымскай АССР (за выключэннем раёнаў паўднёвага берагу), Паўночна-Асецінскай АССР, Комі АССР, АССР Немцаў Паволжжа, Кабардзіна-Балкарскай АССР, Бурат-Мангольскай АССР, Калмыцкай АССР, Якуцкай АССР, Алтайскага, Краснаярскага, Орджанікідзеўскага і Краснадарскага краёў, Іркуцкай, Новасібірскай, Омскай, Усходне-Казахстанскай, Гур'еўскай, Заходне-Казахстанскай, Паўночна-Казахстанскай, Кустанайскай, Паўладарскай, Куйбышэўскай, Архангельскай, Валагодскай, Чкалаўскай, Саратаўскай, Сталінградскай, Растоўскай, Алмаацінскай, Акцюбінскай, Карагандзінскай, Пермскай, Свердлоўскай, Чэлябінскай і Чыцінскай абласцей—

з зямельнай плошчай да 200 га—не менш 10 кароў,

з зямельнай плошчай звыш 200 га, але не больш 500 га—не менш 20 кароў,

з зямельнай плошчай звыш 500 га, але не больш 1000 га—не менш 40 кароў,

з зямельнай плошчай звыш 1000 га, але не больш 2000 га—не менш 60 кароў,

з зямельнай плошчай звыш 2000 га, але не больш 3000 га—не менш 80 кароў,

а з зямельнай плошчай звыш 3000 га—не менш 100 кароў;

б) у калгасах Кіргізскай ССР, Азербайджанскай ССР (за выключэннем раёнаў субтрапічных культур), Грузінскай ССР (за выключэннем раёнаў Заходняй Грузіі), Армянскай ССР, Карэльскай АССР, Прыморскага і Хабараўскага краёў, Варонежскай, Горкаўскай, Іванаўскай, Калінінскай, Ленінградскай, Маскоўскай, Курскай, Паўднёва-Казахстанскай, Орлоўскай, Пензенскай, Разанскай, Тамбоўскай, Тульскай, Смаленскай і Яраслаўскай абласцей—

з зямельнай плошчай да 150 га—не менш 8 кароў,
з зямельнай плошчай звыш 150 га, але не больш 400 га—не менш 16 кароў,
з зямельнай плошчай звыш 400 га, але не больш 800 га—не менш 28 кароў,
з зямельнай плошчай звыш 800 га, але не больш 1500 га—не менш 45 кароў,
а з зямельнай плошчай звыш 1500 га—не менш 60 кароў;

в) у калгасах астатніх рэспублік, краёў і абласцей—

з зямельнай плошчай да 120 га—не менш 5 кароў,
з зямельнай плошчай звыш 120 га, але не больш 200 га—не менш 7 кароў,
з зямельнай плошчай звыш 200 га, але не больш 500 га—не менш 15 кароў,
з зямельнай плошчай звыш 500 га, але не больш 1000 га—не менш 25 кароў,
а з зямельнай плошчы звыш 1000 га—не менш 35 кароў.

3. Калгасная **свінагадоўчая ферма** павінна мець мінімум пагалоўя:

а) у калгасах Украінскай ССР, АССР Немцаў Паваложжа, Краснадарскага і Орджанікідзеўскага краёў, зернавых раёнаў Кустанайскай, Паўночна-Казахстанскай і Усходне-Казахстанскай абласцей, Растоўскай і Сталінградскай абласцей—

з зямельнай плошчай да 200 га—не менш 6 свінаматак,
з зямельнай плошчай звыш 200 га, але не больш 500 га—не менш 10 свінаматак,
з зямельнай плошчай звыш 500 га, але не больш 1000 га—не менш 18 свінаматак,
з зямельнай плошчай звыш 1000 га, але не больш 2000 га—не менш 26 свінаматак,
а з зямельнай плошчай звыш 2000 га—не менш 34 свінаматак;

б) у калгасах Беларускай ССР, Башкірскай АССР, Крымскай АССР, Кабардзіна-Балкарскай АССР, Мардоўскай АССР, Татарскай АССР, Чувашскай АССР, Алтайскага і Краснаярскага краёў, Іркуцкай, Навасібірскай, Омскай, Чэлябінскай, Чкалаўскай, Куйбышэўскай, Саратаўскай, Варонежскай, Курскай, Тамбоўскай, Орлоўскай, Разанскай, Тульскай і Смаленскай абласцей—

з зямельнай плошчай да 150 га—не менш 4 свінаматак,
з зямельнай плошчай звыш 150 га, але не больш 400 га—не менш 6 свінаматак,
з зямельнай плошчай звыш 400 га, але не больш 800 га—не менш 10 свінаматак,

з зямельнай плошчай звыш 800 га, але не больш 1500 га—не менш 18 свінаматак,

а з зямельнай плошчай звыш 1500 га—не менш 26 свінаматак;

в) у калгасах астатніх рэспублік, краёў і абласцей—

з зямельнай плошчай да 150 га—не менш 2 свінаматак,

з зямельнай плошчай звыш 150 га, але не больш 400 га—не менш 4 свінаматак,

з зямельнай плошчай звыш 400 га, але не больш 800 га—не менш 8 свінаматак,

з зямельнай плошчай звыш 800 га, але не больш 1500 га—не менш 12 свінаматак,

а з зямельнай плошчай звыш 1500 га—не менш 18 свінаматак.

4. Калгасная **аўцагадоўчая (козагадоўчая) ферма** павінна мець мінімум пагалоўя:

а) у калгасах Казахскай ССР, Кіргізскай ССР, Туркменскай ССР, Паўночна-Осецінскай АССР, Бурат-Мангольскай АССР, Дагестанскай АССР, Кабардзіна-Балкарскай АССР, Калмыцкай АССР, Орджанікідзеўскага і Алтайскага краёў, Растоўскага і Сталінградскай абласцей—

з зямельнай плошчай да 300 га—не менш 80 матак,

з зямельнай плошчай звыш 300 га, але не больш 1000 га—не менш 160 матак,

з зямельнай плошчай звыш 1000 га, але не больш 2000 га—не менш 250 матак.

з зямельнай плошчай звыш 2000 га, але не больш 3000 га—не менш 350 матак,

а з зямельнай плошчай звыш 3000 га—не менш 500 матак;

б) у калгасах Азербайджанскай ССР (за выключэннем раёнаў субтрапічных культур), Армянскай ССР, Грузінскай ССР (за выключэннем раёнаў заходняй Грузіі), АССР Немцаў Паваложжа, Крымскай АССР, Чэчэна-Інгушскай АССР, Башкірскай АССР, Краснадарскага і Краснаярскага краёў, Чыцінскай, Іркуцкай, Новасібірскай, Омскай, Чэлябінскай, Чкалаўскай, Куйбышэўскай і Саратаўскай абласцей—

з зямельнай плошчай да 300 га—не менш 60 матак,

з зямельнай плошчай звыш 300 га, але не больш 1000 га—не менш 120 матак,

з зямельнай плошчай звыш 1000 га, але не больш 2000 га—не менш 180 матак,

з зямельнай плошчай звыш 2000 га, але не больш 3000 га—не менш 240 матак,

а з зямельнай плошчай звыш 3000 га—не менш 350 матак;

в) у калгасах Таджыкскай ССР, Узбекскай ССР, Украінскай ССР, Мардоўскай АССР, Татарскай АССР, Варонежскай, Курскай, Пензенскай, Орлоўскай і Тамбоўскай абласцей—

з зямельнай плошчай да 150 га—не менш 30 матак,

з зямельнай плошчай звыш 150 га, але не больш 400 га—не менш 50 матак,

з зямельнай плошчай звыш 400 га, але не больш 1000 га—не менш 80 матак,

з зямельнай плошчай звыш 1000 га, але не больш 2000 га—не менш 140 матак,
з зямельнай плошчай звыш 2000 га, але не больш 3000 га—не менш 200 матак,
а з зямельнай плошчай звыш 3000 га—не менш 280 матак;

г) у калгасах астатніх рэспублік, краёў, абласцей і раёнаў—
з зямельнай плошчай да 150 га—не менш 20 матак,
з зямельнай плошчай звыш 150 га, але не больш 400 га—не менш 30 матак,
з зямельнай плошчай звыш 400 га, але не больш 1000 га—не менш 50 матак,
з зямельнай плошчай звыш 1000 га, але не больш 2000 га—не менш 80 матак,
а з зямельнай плошчай звыш 2000 га—не менш 100 матак.

5. Устанаўліваемы гэтай Пастановай мінімум пагалоўя жывёлы на фермах павінен быць дасягнут калгасамі не пазней канца 1942 г., а да канца 1940 г. мінімальнае пагалоўе жывёлы на фермах павінна скласці не менш 60 проц. устаноўленага мінімума пагалоўя жывёлы ў фермах.

6. Калгасам, якія маюць тры жывёлагадоўчыя фермы—рагатай жывёлы, свінагадоўчую і аўцагадоўчую, з мінімумам пагалоўя жывёлы, устаноўленым данай Пастановай, змяншаць нормы мясапаставак дзяржаве на 10 проц.

7. Адмяніць п. 3 Пастановы СНК СССР ад 2 лістапада 1937 г. «Аб ільготах па абавязковых пастаўках малака дзяржаве», які прадугледжвае зніжэнне норм паставак малака для калгаснікаў, у калгасах якіх ёсць фермы буйнай рагатай жывёлы.

8. Рэкамендаваць калгасам, апрача грошовай аплаты па дзяржаўных закупачных цэнах, налічваць калгаснікам за цёлку, здануюімі для папаўнення фермы, да 10 працадзён і за нецеля да 20 працадзён, у залежнасці ад якасці зданай цёлкі або нецеля.

Працадні, налічваемыя калгаснікам за праданых ферме цёлак і нецеляў, не ўключающца ў абавязковы мінімум працадзён у годзе, які павінен мець кожны працаздольны калгаснік і калгасніца, згодна Пастанове ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 27 мая 1939 г. «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання».

9. Рэкамендаваць калгасам, якія выканалі гадовы план мясапаставак і дзяржаўны план развіцця жывёлагадоўлі, рашэннем агульнага схода калгаснікаў дадаткова налічваць працадні старшыням калгасаў, зоатэхнікам і ветфельчарам—членам калгасаў паасобку кожнаму:

а) за кожную маючуюся на ферме на канец года звыш плана карову—5 працадзён, свінаматку—3 працадні, авечку—чвэрць працадня;

б) за павышэнне ўдою на ферме ў параўнанні з папярэднім годам за кожныя 100 літраў малака, надоеных дадаткова ў сярэднім на 1 фуражную галаву,—3 працадні.

10. Рэкамендаваць калгасам увесці для членаў жывёлагадоўчых брыгад і зоаветперсанала калгасаў, працуючых непасрэдна на ферме, грашовыя прэміі з сум, атрыманых калгасам у выглядзе прэмій-надбавак за праданую дзяржаве прадукцыю жывёлагадоўлі ў парадку дзяржзакупак у наступных размерах:

а) 30 проц. агульнай сумы прэмій-надбавак, атрыманых калгасам ад продажу прадукцыі буйнай рагатай жывёлы і свінагадоўлі;

б) ад 15 проц. да 30 проц. агульнай сумы прэмій-надбавак, атрыманых калгасам ад продажу прадукцыі аўцагадоўлі.

## II.

### Аб развіцці кармавой базы калгаснай жывёлагадоўлі.

11. Для ліквідацыі адставання ў развіцці кармавой базы, для механізацыі сенаўборкі, поўнага забеспячэння грубымі і сакавітымі кармамі калгаснай жывёлагадоўлі і павышэння яе прадукцыйнасці, СНК СССР і ЦК ВКП(б) абавязваюць Наркамзем СССР арганізаваць у саставе МТС у раёнах з вялікімі сенакоснымі масівамі **машына-сенакосныя атрады,** забяспечыўшы іх камплектам сенаўборачных машын. На чале гэтых атрадаў паставіць начальнікаў атрадаў. Арганізаваць к уборачнай кампаніі 1940 г.— 500 машына-сенакосных атрадаў і к уборачнай кампаніі 1941 г.—450 атрадаў з наступным размеркаваннем па рэспубліках, краях і абласцях:

| | 1940 год | 1941 год |
|---|---|---|
| Казахская ССР | 150 | 110 |
| УССР | 30 | 40 |
| Хабараўскі край | 20 | 15 |
| Прыморскі край | 18 | 10 |
| Чыцінская вобласць | 20 | 10 |
| Бурат-Мангольская АССР | 15 | 10 |
| Іркуцкая вобласць | 15 | 10 |
| Краснаярскі край | 10 | 5 |
| Алтайскі край | 20 | 20 |
| Новасібірская вобласць | 20 | 15 |
| Омская вобласць | 20 | 20 |
| Чэлябінская вобласць | 10 | 10 |
| Чкалаўская вобласць | 15 | 10 |
| Свердлоўская вобласць | 7 | 5 |
| Пермская вобласць | 5 | 10 |
| Кіраўская вобласць | 7 | 15 |
| Горкаўская вобласць | 7 | 15 |
| Ленінградская вобласць | 7 | 15 |
| Архангельская вобласць | 5 | 10 |
| Смаленская вобласць | 9 | 10 |
| БССР | 10 | 15 |
| Варонежская вобласць | 5 | 10 |
| АССР Немцаў Паваложжа | 5 | 10 |
| Саратаўская вобласць | 15 | 10 |
| Сталінградская вобласць | 15 | 10 |
| Калмыцкая АССР | 15 | 10 |
| Растоўская вобласць | 15 | 10 |
| Орджанікідзеўскі край | 10 | 10 |

12. Абавязаць Наркамат сярэдняга машынабудаўніцтва і Наркамат агульнага машынабудаўніцтва зрабіць па заказу Наркамзема СССР у другім паўгоддзі 1939 г. і ў першым паўгоддзі 1940 года:

| | | |
|---|---|---|
| Шыроказахватных сенакасілак | 2.000 | штук |
| Шыроказахватных грабель | 1.500 | " |
| Трактарных валакуш | 1.000 | " |
| Конных сенакасілак | 50.000 | " |
| Конных грабель | 50.000 | " |
| Кустарэзаў | 200 | " |
| Канавакапацеляў | 150 | " |
| Карчавалак трактарных | 500 | " |
| Балотных кустарнікавых плугоў | 1.800 | " |
| Фрэз | 100 | " |
| Сіласарэзак трактарных | 3.000 | ", |

а таксама прадугледзець сур'ёзнае разгортванне вытворчасці сенаўборачных машын у 1941—1942 гг.

13. Абавязаць Наркамлес СССР зрабіць і адгрузіць Наркамзему СССР у 1940 г.—1.000 стандартных драўляных сіласных вежаў, ёмкасцю да 300 кубаметраў кожная.

14. Абавязаць Дзяржплан СССР прадугледзець у плане вытворчасці мясцовай прамысловасці на 1940 г. выраб 2.000 штук кранавых стогаметацеляў і 1.000 штук конных сіласарэзак для продажу калгасам.

15. Абавязаць Наркамзем СССР разгарнуць работу па механізацыі працаёмкіх працэсаў жывёлагадоўлі, у асаблівасці водаснабжэння і кормаздабывання, забяспечыўшы правядзенне гэтай работы, у першую чаргу, на буйных фермах і ў прыгарадных зонах.

Для гэтай мэты абавязаць Дзяржплан СССР прадугледзець у плане 1940 г. пастаўку Наркамзему СССР:

| | | |
|---|---|---|
| Ветрарухавікоў | 6.000 | штук |
| Саломарэзак | 15.000 | " |
| Карнярэзак | 10.000 | " |
| Жмыхадрабілак | 2.000 | " |
| Зернадрабілак | 2.000 | " |
| Кормазапарнікаў | 8.000 | " |
| Газагенератарных рухавікоў | 1.000 | " |
| Конных прыводаў | 7.000 | " |
| Механічных даільных машын | 600 | агрэгатаў |
| Труб газавых | 10.000 | тон |
| Абсадных труб | 5.000 | тон |

16. Ускласці на селекцыйныя станцыі вывядзенне новага і паляпшэнне існуючага сартавога насення кармавых культур, а на райнасенгасы—размнажэнне гэтага насення згодна загада Наркамзема СССР, апублікаванага ў газеце «Социалистическое земледелие» ад 8.VII 1939 г. за № 152.

Сортавыпрабаванне вікі, жытняка, магара, суданкі, цімафееўкі і экспарцэта ўскласці на Дзяржкамісію па сортавыпрабаванню зернавых культур, абавязаўшы яе разгарнуць гэтую работу на сваіх участках.

17. Павысіць загатоўчыя цэны на насенне аднагадовых траў і ўстанавіць наступныя: на насенне суданкі—60 рублёў за цэнтнер, магара—35 рублёў і вікі—20 рублёў за цэнтнер.

# III.

## Аб мясапастаўках.

### *А. Па калгасах*

18. Адмяніць існуючую сістэму вылічэння мясапаставак дзяржаве па колькасці пагалоўя жывёлы ў калгасных фермах і ўстанавіць з 1 студзеня 1940 г. вылічэнне абавязковых мясапаставак дзяржаве калгасамі з кожнага гектара зямельнай плошчы (пахаці, у тым ліку сады і агароды, лугі і пасбішчы), замацаванай за калгасамі.

19. Устанавіць па рэспубліках, краях і абласцях з аднаго гектара зямельнай плошчы (пахаці, у тым ліку сады і агароды, лугі і пасбішчы), замацаванай за калгасамі, наступныя сярэднегадовыя нормы мясапаставак калгасамі дзяржаве ў кілограмах жывой вагі з разліку сярэдняй укормленасці:

I.

1. Украінская ССР
2. Краснадарскі край
3. Кабардзіна-Балкарская АССР

} 4,5

II.

4. Растоўская вобласць
5. Орджанікідзеўскі край
6. Паўночна-Осецінская АССР
7. Дагестанская АССР
8. Армянская ССР

} 4

III.

9. Беларуская ССР
10. Крымская АССР
11. Чувашская АССР
12. Свердлоўская вобласць
13. Грузінская ССР
14. Азербайджанская ССР
15. Туркменская ССР

} 3,5

IV.

16. Варонежская вобласць
17. Курская вобласць
18. Орлоўская вобласць
19. Смаленская вобласць
20. Пермская вобласць
21. Комі АССР
22. Алтайскі край
23. Новасібірская вобласць
24. Омская вобласць
25. Чэлябінская вобласць

} 3

V.

26. Архангельская вобласць
27. Валагодская вобласць
28. Ленінградская вобласць
29. Маскоўская вобласць

} 2,5

30. Разанская вобласць
31. Тульская вобласць
32. Тамбоўская вобласць
33. Пензенская вобласць
34. Горкаўская вобласць
35. Іванаўская вобласць
36. Яраслаўская вобласць
37. Калінінская вобласць — 2,5
38. Кіраўская вобласць
39. Башкірская АССР
40. Удмуртская АССР
41. Карэльская АССР
42. Татарская АССР
43. Мардоўская АССР
44. Марыйская АССР

VI.

45. Куйбышэўская вобласць
46. Чкалаўская вобласць
47. Сталінградская вобласць
48. Саратаўская вобласць
49. АССР Немцаў Паваложжа
50. Іркуцкая вобласць
51. Краснаярскі край — 2
52. Бурат-Мангольская АССР
53. Чэчэна-Інгушская АССР
54. Таджыкская ССР
55. Кіргізская ССР
56. Узбекская ССР

VII.

57. Калмыцкая АССР
58. Прыморскі край — 1
59. Хабараўскі край
60. Чыцінская вобласць

VIII.

61. Казахская ССР
62. Якуцкая АССР — 0,5
63. Мурманская вобласць

20. Абавязаць Соўнаркомы саюзных і аўтаномных рэспублік, краявыя і абласныя выканаўчыя камітэты, на аснове ўстаноўленай для рэспублікі, края, вобласці пагектарнай нормы мясапаставак, устанавіць параённыя гадавыя нормы абавязковых мясапаставак калгасамі з гектара зямельнай плошчы і пасля зацвярджэння іх Наркамзагам СССР апублікаваць к 1 верасня 1939 года.

21. Зацверджаныя Наркамзагам СССР параённыя нормы абавязковых мясапаставак прымяняць, як правіла, для ўсіх калгасаў раёна.

Для асобных калгасаў, у парадку выключэння, дапускаць, з зацвярджэння ўпаўнаважаных Наркамзага СССР у абласцях, краях і рэспубліках (не маючых абласнога падзелу) адхіленні ў бок павелічэння або змяншэння параённай гадавой нормы мясапаставак у межах да 30 проц., пры абавязковым захаванні па раёну зацверджанай гадавой нормы мясапаставак у сярэднім для раёна.

22. Раённы ўпаўнаважаны Наркамзага СССР устанаўлівае абавязацельствы кожнага калгаса па мясапастаўках дзяржаве на падставе ўстаноўленай для калгаса нормы мясапаставак і размеру зямельнай плошчы (пахаці, у тым ліку сады і агароды, лугі і пасбішчы), замацаванай за калгасам. Пасля зацвярджэння ўпаўнаважанымі Наркамзага СССР у абласцях, краях і рэспубліках (не маючых абласнога падзелу) абавязацельства па мясапастаўках дзяржаве ўручаецца калгасу раённым упаўнаважаным Наркамзага СССР.

23. Прадаставіць права Наркамзагу СССР у першы год дзеяння гэтай Пастановы, г. зн. у 1940 годзе, дазваляць калгасам у асобных выпадках замену мяса зярном па эквіваленту:

8 кілаграмаў зярна за 1 кілограм мяса ў жывой вазе, у адносінах свіней—9 кілаграмаў зярна за 1 кілограм мяса ў жывой вазе.

### *Б. Па калгасных дварах і аднаасобных гаспадарках.*

24. Устанавіць, пачынаючы з 1940 г., наступныя нормы абавязковых мясапаставак дзяржаве калгаснымі дварамі і аднаасобнымі гаспадаркамі ў кілограмах жывой вагі:

| | Калгасныя двары | Аднаасобныя гаспадаркі |
|---|---|---|
| 1. У зоне зернавых, бавaўняных, ільняных і канапляных, бураковых, бульба-гароднінных, чайных і табачных раёнаў | 32 | 64 |
| 2. У зоне земляробчых раёнаў з развітай жывёлагадоўляй | 36 | 72 |
| 3. У зоне раёнаў некачавой і поўкачавой жывёлагадоўлі, дзе земляробства мае невялікае значэнне, а жывёлагадоўля адыгрывае рашаючую ролю ў гаспадарцы | 40 | 80 |
| 4. У зоне раёнаў качавой жывёлагадоўлі, дзе земляробства не мае амаль ніякага значэння, а жывёлагадоўля з'яўляецца ўсеабдымнай формай гаспадаркі | 45 | 90 |

Аднясенне раёнаў да зон праводзіцца Наркамзагам СССР у адпаведнасці з устаноўленымі Наркамземам СССР зонамі па вызначэнню норм жывёлы ў асабістым карыстанні калгаснікаў, згодна Статута сельскагаспадарчай арцелі.

25. Устанавіць, што пражываючыя ў сельскай мясцовасці і дачных пасёлках члены прамысловых, рыбалавецкіх арцелей і арцелей кааперацыі інвалідаў, а таксама рабочыя і служачыя, якія працуюць на пастаяннай (не сезоннай) рабоце ў дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемствах і маюць у асабістым карыстанні жывёлу, прыцягваюцца да абавязковых мясапаставак дзяржаве:

а) па нормах, устаноўленых для калгасных двароў данага раёна, калі пагалоўе жывёлы, якое знаходзіцца ў іх асабістым карыстанні, не перавышае колькасці, прадугледжанай Статутам сельгасарцелі для калгаснікаў данага раёна;

б) па нормах, устаноўленых для аднаасобных гаспадарак, калі пагалоўе жывёлы, якое знаходзіцца ў іх асабістым карыстанні, больш колькасці, прадугледжанай Статутам сельгасарцелі для калгаснікаў данага раёна;

в) аднаасобнікі, якія працуюць на сезоннай рабоце або на пастаяннай менш аднаго года к моманту ўручэння абавязацельстваў, прыцягваюцца да абавязковых мясапаставак па нормах, устаноўленых для аднаасобных гаспадарак.

26. Саматужнікі-адзіночкі, якія пражываюць у сельскай мясцовасці і дачных пасёлках і маюць прысядзібны або палявы ўчастак зямлі, прыцягваюцца да мясапаставак дзяржаве па нормах, устаноўленых для аднасобных гаспадарак данага раёна.

27. Устанавіць, што да абавязковых мясапаставак дзяржаве не прыцягваюцца:

а) гаспадаркі жыхароў гарадоў, рабочых пасёлкаў і інш. паселішчаў, аднесеных урадамі саюзных рэспублік да ліку паселішчаў гарадскога тыпу, калі гэтыя гаспадаркі не маюць заданняў па пасевах на палявых участках або не абкладаюцца сельгаспадаткам і калі маюць не больш адной каровы і цёлкі да аднаго года і адной свінаматкі;

б) настаўнікі і аграномы, зоатэхнікі, землеўпарадчыкі, медыцынскія і ветэрынарныя ўрачы і фельчары, меліяратары і тэхнікі па сельскай гаспадарцы, інжынеры, старшыя механікі і дырэктары МТС, МТМ і соўгасаў, а таксама раённыя кіруючыя работнікі ў колькасці не больш 30 чалавек на раён па спісках, вызначаемых аблкрайвыканкомамі і СНК рэспублік (не маючых абласнога падзелу), калі іх гаспадаркі не маюць заданняў па пасевах на палявых участках, не абкладаюцца сельскагаспадарчым падаткам і маюць у асабістым карыстанні пагалоўе жывёлы, не перавышаючае колькасці, прадугледжанай Статутам сельгасарцелі для калгаснікаў данага раёна;

в) члены прамысловых рыбалавецкіх арцелей і арцелей кааперацыі інвалідаў, якія пражываюць у сельскіх мясцовасцях і дачных пасёлках і не маюць прысядзібных або палявых участкаў;

г) гаспадаркі непрацаздольных з прычыны старога ўзросту калгаснікаў, рабочых, служачых і аднаасобнікаў (мужчыны, дасягнуўшыя 60-гадовага ўзросту і жанчыны—55-гадовага ўзросту), якія не маюць іншых працаздольных членаў сям'і, занятых у данай гаспадарцы, а таксама гаспадаркі прэстарэлых мужчын і жанчын, сыны якіх знаходзяцца на сапраўднай ваеннай службе ў радах Чырвонай Арміі або Чырвонага Флота, а ў сем'ях асталіся іх жонкі з дзецьмі да 7 год;

д) гаспадаркі пенсіянераў, атрымліваючых пенсію ад дзяржаўных органаў; інвалідаў вайны і працы, аднесеных органамі соцыяльнага забеспячэння або соцыяльнага страхавання да I і II груп інваліднасці, калек, якія не могуць прымаць удзел у палявых і іншых работах, калі гэтыя гаспадаркі не маюць палявых участкаў зямлі, не абкладаюцца сельгаспадаткам і калі ў саставе іх сямей няма працаздольных членаў сям'і, працуючых у гаспадарцы.

28. Устанавіць, што скаргі на няправільнае прыцягненне да мясапаставак падаюцца раённаму ўпаўнаважанаму Наркамзага СССР у 10-дзённы тэрмін з дня ўручэння абавязацельства.

Рашэнне раённага ўпаўнаважанага Наркамзага СССР можа быць

абскарджана ў райвыканком у дзесяцідзённы тэрмін з дня ўручэння рашэння.

Райвыканком, калі знаходзіць скаргу грунтоўнай, сваё рашэнне ўносіць на зацвярджэнне ўпаўнаважанага Наркамзага СССР у вобласці, краі і рэспубліцы (не маючай абласнога падзелу), рашэнне якога з'яўляецца канчатковым.

29. Лічыць утраціўшымі сілу з 1 студзеня 1940 года:

а) Пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 23 верасня 1932 года «Аб мясазагатоўках» (З. З. СССР 1932 г. № 70, арт. 418);

б) Пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 28 жніўня 1933 года «Аб абавязковай пастаўцы мяса дзяржаве ў 1934 г.» (З. З. СССР 1933 г. № 55, арт. 323);

в) Арт. 12 Пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 14 жніўня 1933 г. «Аб дапамозе бескароўным калгаснікам у абзавядзенні каровамі» у частцы ільгот па мясапастаўках і Пастанову СНК СССР ад 10 кастрычніка 1933 г. № 2215 (З. З. СССР 1933 г. № 52, арт. 303 і № 63, арт. 381);

г) Пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 лістапада 1934 г. № 2624 «Аб мясапастаўках у 1934 г.»,

д) Пастанову СНК СССР ад 9 верасня 1934 г. «Аб зацвярджэнні Інструкцыі Народнага Камісарыята Харчовай Прамысловасці аб парадку правядзення абавязковай пастаўкі мяса дзяржаве ў 1935 г.» (З. З. СССР 1934 г. № 46, арт. 362; З. З. СССР—1934 г. № 60, арт. 440; З. З. СССР 1935 г. № 19, арт. 159; З. З. СССР 1936 г. № 22, арт. 209);

е) Пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 22 жніўня 1935 г. № 1865 «Аб уручэнні абавязацельстваў па мясапастаўках на 1936 г.»;

ж) Пастанову СНК СССР ад 22 мая 1935 г. № 971 «Аб аслабаненні ад мясапаставак калгасаў, метызіруючых грубашэрстных авечак каракулевымі баранамі»;

з) арт. арт. 5 і 6 раздзела IV Пастановы СНК СССР ад 7 сакавіка 1936 г. «Аб дзяржаўным плане развіцця тонкарунная аўцагадоўлі і дапамогі калгаснікам у абзавядзенні авечкамі ў асабістае карыстанне» (З. З. СССР 1936 г. № 15, арт. 128);

і) Пастанову СНК СССР ад 13 лютага 1936 г. «Аб змяненні зачотных эквівалентаў па курдзючных авечках, прымаемых у лік мясапаставак» (З. З. СССР 1936 г. № 12, арт. 103);

к) Пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 31 ліпеня 1936 г. «Аб абавязковай пастаўцы мяса дзяржаве ў 1937 г.» (З. З. СССР 1936 г. № 42, арт. 356);

л) Пастанову СНК СССР ад 23 лістапада 1936 г. «Аб зацвярджэнні інструкцыі Народнага Камісара Харчовай Прамысловасці Саюза ССР і Камітэта па Загатоўках Сельскагаспадарчых Прадуктаў пры СНК Саюза ССР—«Аб парадку правядзення абавязковых паставак мяса дзяржаве ў 1937 г.» (З. З. СССР 1936 г. № 60, арт. 452; З. З. СССР 1937 г. № 17, арт. 62; З. З. СССР 1937 г. № 18, арт. 66);

м) Пастанову СНК СССР ад 25 верасня 1937 г. № 1682 «Аб дзяржаўным плане мясапаставак на 1937 г. і аб мясапастаўках у 1938 г».;

н) арт. 2 Пастановы СНК СССР ад 30 верасня 1938 г. «Аб колькасці жывёлы, якая знаходзіцца ў індывідуальным карыстанні работнікаў соўгасаў» (З. З. СССР 1938 г. № 45, арт. 268);

о) Інструкцыю Камітэта Загатовак пры СНК СССР аб Парадку правядзення абавязковай пастаўкі мяса дзяржаве ў 1938 г., зацверджаную Пастановай СНК СССР 28 снежня 1937 г. (З. З. СССР 1938 г. № 1, арт. 4);

п) Пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 27 студзеня 1939 г. № 118 «Аб абавязковых пастаўках мяса дзяржаве ў 1939 г.»

р) арт. 9 Пастановы СНК СССР ад 23 красавіка 1939 г. № 542 «Аб мерапрыемствах па паляпшэнню каракулеводства».

**Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР В. МОЛАТАЎ.**

**Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН.**

8 ліпеня 1939 года.

# Магутны флот магутнай дзяржавы

Дзень 24 ліпеня ўвойдзе ў гісторыю нашай краіны, як выдатная дата. Сёлета Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) пастанавілі адзначаць штогодна 24 ліпеня, як «Дзень Ваенна-Марскога Флота» для мабілізацыі шырокіх мас працоўных вакол пытанняў яго будаўніцтва.

У гэты дзень усенароднага свята Ваенна-Марскі Флот нашай краіны прадэманстраваў перад совецкім народам сваю магутнасць, баявую сілу, адвагу і высокае майстэрства яго людзей, свае дасягненні ў справе аўладання новай складанай тэхнікай, адданасць каманднага, начальствуючага і асабовага састава свяёй радзіме, Комуністычнай партыі і любімаму правадыру народаў—вялікаму Сталіну.

Мільёны совецкіх людзей з любоўю і гордасцю аглядалі плады сваёй працы па стварэнню Ваенна-Марскога Флота Совецкай дзяржавы. На марах і многаводных рэках краіны адбыліся велічныя дэманстрацыі магутнасці Ваенна-Марскога Флота. У ваенна-марскім парадзе прынялі ўдзел магутныя лінейныя караблі, цяжкія і лёгкія крэйсеры, быстраходныя лідэры і мінаносцы, падводныя лодкі, імклівыя быстраходныя кацеры, марская авіяцыя. Сэрцы працоўных былі напоўнены радасным усведамленнем магутнасці сваёй радзімы і цвёрдай упэўненасцю ў перамозе над ворагам у надыходзячых бітвах.

Увесь капіталістычны свет атрымаў новы довад адзінства помыслаў і імкненняў народа і арміі, усіх людзей совецкай зямлі, згуртаваных пад сцягам партыі Леніна—Сталіна ў адну дружную, брацкую сям'ю. На тысячных сходах і мітынгах працоўныя горача віталі доблесных абаронцаў нашых марскіх рубяжоў, выказваючы бязмежную любоў да сваёй соцыялістычнай радзімы, непахіснае жаданне зрабіць наш Ваенна-Марскі Флот самым магутным у свеце.

Наш Ваенна-Марскі Флот карыстаецца велізарнай любоўю ўсяго совецкага народа. Гэта любоў знаходзіць сваё яркае выражэнне ў імкненні совецкай моладзі служыць ва флоце. Маладыя патрыёты падаюць заявы аб датэрміновым прыёме іх ва флот, у ваенна-марскія навучальныя ўстановы і ВНУ суднабудаўнічай прамысловасці.

Браты-патрыёты Якаў, Нікалай, Грыгорый і Владзімір Лебедзевы выказалі жаданне паступіць у ваенна-марское вучылішча. Маці і бацька горача падтрымалі ініцыятыву сваіх сыноў. У пісьме на імя наркома яны пісалі: «Мы самі яшчэ настолькі моцны, што, калі патрабуецца, разам з сынамі пойдзем абараняць Совецкі Саюз і да апошняй каплі крыві будзем біцца за наш народ, за партыю Леніна—Сталіна». Нарком задаволіў іх просьбу. Усе чатыры браты прыняты ў ваенна-марское вучылішча.

Тры браты-патрыёты з Арлейскага сельсовета, Полацкага раёна, Іван, Аркадзій і Дзімітрый Замасціновічы служаць у адным з падраздзяленняў Ціхаакіянскага флота. За кароткі час службы яны паказалі сябе прыкладнымі байцамі, маюць рад заахвочванняў.

Браты Коблікавы, Бутырыны і многія другія патрыёты сваёй радзімы паспяхова авалодваюць складанай ваенна-марской тэхнікай.

* * *

Гісторыя рускага флота, роданачальнікам якога з'яўляецца Пётр I, насычана прыкладамі бязмежнай адвагі рускіх людзей. У баях са шведамі, пры абароне Севастопаля ў час Крымскай вайны, у бітве ў Цусімскім праліве рускія маракі пакрылі сябе неўвядаемай славай. У перыяд імперыялістычнай вайны нямецкі флот ухіляўся ад баёў з балтыйскімі маракамі.

Рускія маракі дабіліся выдатных поспехаў у галіне навуковых адкрыццяў і вынаходстваў, што ўвайшлі ў сусветную скарбніцу чалавецтва. За першую палавіну XIX в. рускія мораплаваецелі правялі 12 падарожжаў вакол свету. Яны першыя наведалі да таго невядомую Аўстралію. Марак-падарожнік Седоў—сын рыбака—у 1912 годзе робіць спробу прайсці к Паўночнаму полюсу. Але рускі царызм адносіўся з пагардай да смелых пачынанняў сваіх маракоў і ўсяляк душыў іх ініцыятыву.

Чырвоны Флот, народжаны вялікай Кастрычніцкай рэволюцыяй, рыхтуючыся да надыходзячых сутычак з ворагамі, захоўвае баявыя традыцыі рускіх маракоў, пакрыўшых сябе славай перамог у баях за радзіму.

У годы грамадзянскай вайны, калі на маладую Совецкую краіну з усіх канцоў насядалі імперыялістычныя драпежнікі, у абстаноўцы сухапутнай і марской блакады, матросы Чырвонага Флота праявілі многа цудаў гераізма, памяць аб якіх ніколі не знікне сярод пакаленняў працоўных.

Гераізм і адвага, стойкасць і самаафярнасць маракоў Балтыкі ў перыяд беспрыкладнага ў гісторыі Ледавога паходу 1918 г. далі магчымасць выратаваць ад захвату фінскімі белагвардзейцамі і германскімі полчышчамі 211 адзінак балтыйскага флота—усё яго асноўнае ядро. Караблі чырвонасцяжнай Балтыкі садзейнічалі сваім агнём паспяховаму наступленню Чырвонай Арміі супроць паходу Юдзеніча на Петраград. Адважныя слаўныя чырвоныя маракі, выконваючы сталінскае заданне, выбілі мяцежнікаў, засеўшых у непрыступных фортах «Красная горка» і «Серая лошадь». Караблі Чорнаморскага флота, пад пагрозай захвату іх нямецкімі акупантамі, зняліся з якара і, наперакор здраднікам-камандзірам, пайшлі ў Новарасійск. Калі-ж далей не было надзеі выратаваць флот, рэволюцыйныя маракі, выконваючы дырэктыву Леніна, патапілі эскадру, і яна не дасталася ворагу. Увесь састаў матросаў пайшоў на дапамогу Царыцыну для абароны яго ад наступаўшых банд Краснова. Маракі Ціхаакіянскага флота і Амурскай флацыліі, калі пачалася японская інтэрвенцыя на Далёкім Усходзе, пайшлі ў сопкі, у тайгу, каб біць ворага на сушы.

Верных сыноў радзімы, совецкіх маракоў можна было бачыць на самых важных, самых небяспечных для рэволюцыі ўчастках: яны працавалі ў ваенных трыбуналах і ВЧК, не згінаючыся пад ураганным





агнём ворага, аддавалі сваё жыццё за светлую будучыню, за комунізм.

Скончылася грамадзянская вайна. Працоўныя нашай краіны прыступілі да мірнай, творчай працы. Побач з аднаўленнем і рэканструкцыяй усёй народнай гаспадаркі, партыя і ўрад праводзяць вялікую работу па аднаўленню флота, які панёс вялікія страты ў годы барацьбы з ворагамі рэволюцыі.

X з'езд большэвіцкай партыі, які адбыўся ў 1921 годзе, у рэзалюцыі па ваеннаму пытанню запісаў:

> «З'езд лічыць неабходным, у адпаведнасці з агульным становішчам і матэрыяльнымі рэсурсамі Совецкай рэспублікі, прыняць меры да аднаўлення і ўмацавання Чырвонага ваеннага флота».

На заклік партыі Леніна—Сталіна адгукнулася ўся краіна. Сотні тысяч рабочых, інжынераў і тэхнікаў суднабудаўнічых заводаў з вялікім энтузіязмам працуюць над стварэннем флота, дастойнага вялікай радзімы, будуюць магутныя ваенныя караблі, абсталяваныя навейшымі механізмамі, гарматамі, тарпеднымі апаратамі.

Велізарную ролю ў адбудове і ўмацаванні флота адыграў ленінскі комсамол. Восенню 1921 года комсамол пасылае ва флот 2000 лепшых сваіх актывістаў. У кастрычніку 1922 года V з'езд комсамола прыняў рашэнне аб шэфстве над флотам. Зараз-жа пасля гэтага рашэння ва флот было паслана яшчэ 2.500 лепшых ленінцаў.

Сталінскія пяцігодкі змянілі аблічча нашай радзімы. Совецкі Саюз стаў краінай передавой навукі, прамысловасці і буйнейшага ў свеце земляробства. Створаны новыя галіны вытворчасці, якіх не мела царская Расія. Разам з гіганцкім ростам краіны рос і ўмацоўваўся ваенна-марскі флот. Аб ім нястомна клапоціцца партыя, совецкі ўрад і асабіста таварыш Сталін. Выступаючы на XVII партыйным з'ездзе ў 1934 годзе, таварыш Варашылаў сказаў:

> «Пры пастаянным і непасрэдным удзеле і кіраўніцтве тав. Сталіна мы працуем і над умацаваннем нашых ваенна-марскіх сіл, якія маюць для абароны нашай краіны з многатысячнай адкрытай марской граніцай вельмі вялікае значэнне... Я яшчэ раз лічу патрэбным адзначыць, што тав. Сталін узяўся па-сапраўднаму, па-сталінску і за гэты ўчастак, і я не сумняваюся, што суднабудаўнічая прамысловасць, якая ўзмацнілася на базе перамог індустрыялізацыі, дапаможа нам хутка зрабіць нашы флоты сапраўды магутнымі рабоча-сялянскімі флотамі».

З часу XVII з'езда партыі прайшло больш 5 год. Наш флот вырас і ўмацаваўся непазнавальна. За годы двух сталінскіх пяцігодак заводы марскога суднабудаўніцтва выпусцілі караблёў у чатыры разы больш па колькасці і ў тры разы больш па агульнаму танажу, чым было пабудавана царскай уладай за 10 год да сусветнай вайны. З'явіліся новыя быстраходныя тарпедныя кацеры, імклівыя мінаносцы, грозная сіла—падводныя лодкі.

Яшчэ больш узмоцненымі тэмпамі ідзе будаўніцтва караблёў у 3-й пяцігодцы. Толькі за адзін 1938 год наш флот атрымаў ад соцыялістычнай прамысловасці надводных караблёў у 5 раз больш, чым у любым годзе другой пяцігодкі. 1939 год забяспечыць далейшае папаўненне нашага ваенна-марскога флота быстраходнымі баявымі караблямі. Калі к пачатку 3-га пяцігоддзя наша краіна займала

6 месца ў свеце па аб'ёму суднабудаўнічай вытворчасці, то к 1942—43 гг. мы павінны заняць адно з першых месц у свеце па колькасці і танажу выпускаемых у год караблёў.

Народны Камісар Ваенна-Марскога флота СССР флагман 2-га ранга тав. Кузнецоў у дакладзе на ўрачыстым сходзе грамадскіх арганізацый гор. Масквы 24 ліпеня 1939 г. прывёў многа прыкладаў, наглядна паказваючых, як растуць і мацнеюць нашы ваенна-марскія сілы. У апошніх вучэннях Балтыйскага флота ўдзельнічала больш 50 баявых караблёў, у Ціхаакіянскім флоце—больш 100. Але гэта толькі частка той велізарнай сілы, якою ўладае наш флот.

Тав. Кузнецоў, гаворачы аб росце магутнасці нашага Ваенна-Марскога флота, у сваёй прамове адзначыў:

> «Буржуазныя пісакі за апошні час праяўляюць інтарэс да нашых ваенна-марскіх сіл, вымудраючыся ва ўсякага роду вымыслах адносна сапраўднага становішча нашага флота, прабуючы ва ўгоду фашысцкім падпальшчыкам вайны ўмаліць сілу нашага флота.
>
> Самыя недарэчныя чуткі распаўсюджваюцца, скажам, адносна нашых падводных лодак.
>
> Для ўнікнення крыватолкаў я павінен сказаць, што Совецкі Саюз мае падводных лодак па колькасці больш, чым якая-небудзь іншая краіна ў свеце. Больш таго, я павінен заявіць, што мы маем падводных лодак значна больш, чым нават Германія і Японія, разам узятыя».

Пры агульнай даўжыні граніц Совецкага Саюза ў 65 тысяч кілометраў, на долю марскіх граніц прыпадае 47 тысяч кілометраў або 70 проц. Наша краіна вядзе гандаль з усімі краінамі свету. Караблі Совецкага Саюза плаваюць па ўсіх морах і акіянах. На марскія рубяжы, у выпадку іх недастатковай абароны, можа напасці вораг з мэтай прабрацца ўглыб краіны, да яе жыццёвых цэнтраў. Каб абараніць нашу велізарную граніцу ад пасягання ворагаў, трэба мець магутны марскі і акіянскі флот. Гэта задача цалкам выцякае з указанняў таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні.

На першай сесіі Вярхоўнага Совета СССР тав. Молатаў падкрэсліў:

> «Мы павінны лічыцца з тым, што краіна наша вялікая, што яна амываецца марамі на велізарнай адлегласці, і гэта нам заўсёды напамінае аб тым, што флот у нас павінен быць моцны і дужы. Аб гэтым-жа нам напамінаюць і капіталістычныя дзяржавы тым, што за апошнія годы яны разгарнулі велізарнае ваенна-марское будаўніцтва.
>
> ... У магутнай совецкай дзяржаве павінен быць адпавядаючы яе інтарэсам, дастойны нашай вялікай справы марскі і акіянскі флот».

Совецкі народ з энтузіязмам сустрэў усе мерапрыемствы партыі і ўрада, накіраваныя на ўмацаванне абараназдольнасці нашай краіны, на выкананне адной з важнейшых задач 3-й пяцігодкі—стварэнне магутнага ваенна-марскога флота.

Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР аб працягласці тэрмінаў сапраўднай службы ў Ваенна-Марскім Флоце паслужыць яшчэ большым стымулам для павышэння боездольнасці чырвонафлотцаў, дазволіць кожнаму з іх у дасканаласці асвоіць высокую тэхніку баявога карабля.

Кожны год рады Ваенна-Марскога Флота папаўняе фізічна моцная, сільная духам і целам моладзь, у любую мінуту гатовая на гераічныя ўчынкі ва славу радзімы. Многія сотні чырвонафлотцаў праявілі геройства ў выкананні спецыяльных заданняў урада. Многіх урад узнагародзіў ордэнамі і медалямі, многім прысвоіў высокае званне Героя Совецкага Саюза.

Фашысцкія агрэсары распальваюць полымя другой імперыялістычнай вайны, перакройваюць карту свету, падначальваюць сабе слабыя народы. Увесь капіталістычны свет узбройваецца да зубоў. Марскія ўзбраенні за апошнія годы растуць шалёнымі тэмпамі. Ліхаманкавая гонка ўзбраенняў, рост фашысцкай агрэсіі, безупынная правакацыя японскай ваеншчыны на Далёкаўсходніх рубяжах, нападзенне на тэрыторыю дружаственнай нам Мангольскай народнай рэспублікі патрабуюць ад нас асаблівай пільнасці, пастаяннай мабілізацыйнай гатоўнасці. На сушы, на моры і ў паветры мы павінны быць заўсёды гатовы разграміць любога ворага, калі ён пасягне на нашу радзіму.

Пад сцягам комуністычнай партыі большэвікоў, пад вадзіцельствам вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна наш Ваенна-Марскі Флот у надыходзячых бойках будзе бязлітасна зніштажаць варожыя эскадры, як сумесна з Чырвонай Арміяй знішчаў іх у грамадзянскай вайне.

---

**М. Кулагін**

Дэпутат Вярхоўнага Совета СССР,
нам. старшыні СНК і Наркамзем БССР

# Па-большэвіцку сустрэць Трэці ўсесаюзны з'езд калгаснікаў

У жыцці ўсёй нашай краіны, у жыцці калгаснай вёскі знамянальнай падзеяй будзе III з'езд калгаснікаў, з'езд лепшых людзей калгаснай вёскі, які склікаецца восенню гэтага года на падставе рашэння ЦК ВКП(б) і СНК СССР, адобранага майскім пленумам ЦК ВКП(б). Гэты з'езд абмяркуе пытанне аб папраўках да статута сельскагаспадарчай арцелі, пакажа, як ідзе развіццё нашых большэвіцкіх калгасаў, якімі гіганцкімі крокамі, з якой імклівасцю наша маладое соцыялістычнае земляробства ідзе ўсё ўперад, заваёўваючы ўсё новыя перамогі на шляху да комунізма.

Пяты год пайшоў ужо з таго часу, калі лепшыя майстры калгасных палёў, сабраўшыся на 2-гі з'езд калгаснікаў-ударнікаў, распрацавалі пры бліжэйшым удзеле і пры непасрэдным кіраўніцтве таварыша Сталіна прыкладны статут сельгасарцелі—гэты «вышэйшы, асноўны закон пабудовы новага грамадства ў вёсцы».

Два першыя ўсесаюзныя з'езды калгаснікаў-ударнікаў аказалі вялікі ўплыў на рост калектывізацыі, на ўмацаванне і працвітанне калгаснага ладу.

З гушчы народнай большэвіцкая партыя падняла і выхавала мільёны лепшых людзей—стаханаўцаў і ўдарнікаў, наватараў соцыялістычнага земляробства, да канца адданых радзіме і вялікай справе партыі Леніна—Сталіна. Не пакладаючы рук, дружна працуюць яны на палях і фермах, пажынаючы цудоўныя плады сваёй чэснай працы.

Новым палітычным і вытворчым уздымам, яшчэ большымі клопатамі аб умацаванні і пашырэнні грамадскай арцельнай гаспадаркі адказваюць зараз калгаснікі на рашэнні майскага пленума Цэнтральнага Камітэта нашай партыі.

Расце і шырыцца ў калгасах хваля соцыялістычнага спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі. Новымі рашаючымі поспехамі ў калгасным будаўніцтве абавязваюцца сустрэць калгасы і калгаснікі свой трэці з'езд.

Баявая задача ўсіх партыйных, совецкіх і комсамольскіх арганізацый—з большэвіцкім размахам разгарнуць спаборніцтва ў калгаснай вёсцы: раёна з раёнам, сельсовета з сельсоветам, МТС з МТС, паміж брыгадамі, звеннямі, паасобнымі калгаснікамі, растлумачыўшы ім велізарнае значэнне гэтай справы. Дабіцца выдатнага ўраджаю,

узорна і без страт убраць яго, па-большэвіцку правесці загатоўкі, забяспечыць высокія даходы калгасаў і калгаснікаў—вось баявы большэвіцкі лозунг, пад якім трэба сустрэць 3-ці ўсесаюзны з'езд калгаснікаў.

* * *

Совецкае сялянства знайшло ў калгасах шлях да заможнага, шчаслівага, культурнага жыцця. З распыленых і раздробленых сялянскіх гаспадарак выраслі зараз калгасы з высока развітай, передавой тэхнікай. Саху і серп змянілі трактары і камбайны.

Партыя і ўрад узброілі калгасы прыкладным статутам сельскагаспадарчай арцелі, які цвёрда стаіць на стражы інтарэсаў грамадскай калгаснай уласнасці.

Трацкісцка-бухарынскія і буржуазныя нацыянал-фашысцкія наймiты усяляк стараліся разваліць калгасы, падарваць іх растучую магутнасць, выклікаць нездаволенасць калгаснікаў, каб падрыхтаваць гэтым шлях для звароту капіталізма. Але іх стаўка была біта. Воляй народа, які згуртаваўся пад сцягам партыі Леніна—Сталіна ў нерушымы блок комуністаў і беспартыйных, гэтыя ворагі народа былі выкрыты і знішчаны.

Гэта, вядома, не значыць, што можна ўжо супакоіцца. Мы павінны цвёрда памятаць указанні таварыша Сталіна аб тым, што пакуль наша вялікая радзіма знаходзіцца ў капіталістычным акружэнні, прытаіўшаеся ахвосце ворагаў народа, выконваючы заданні замежных капіталістаў, будзе прабаваць шкодзіць нам. Наш абавязак—быць пільнымі да варожых прошукаў, асабліва ў нашай пагранічнай БССР.

Статут сельскагаспадарчай арцелі—непахісны, цвёрды закон, кожнае слова якога прасякнута сталінскімі клопатамі аб умацаванні грамадскай уласнасці, аб інтарэсах калгаснага сялянства.

Кожны калгаснік павінен адчуваць, што калгас—гэта яго гаспадарка, што ад яго перш за ўсё залежыць працвітанне калгаса, а, стала быць, і добрабыт калгаснікаў.

Абавязак усіх калгасаў, усіх совецкіх і партыйных арганізацый—цвёрда і непахісна праводзіць у жыццё статут сельскагаспадарчай арцелі, чула і ўважліва адносіцца да патрэб калгаснікаў, няўхільна захоўваць іх правы, калгасную дэмакратыю.

Нажаль, не ўсе раённыя работнікі цвёрда ўсвядомілі гэтыя ўказанні партыі і ўрада, і дапускалі грубыя парушэнні статута. З іх ведама і згоды незаконна павялічваліся размеры прысядзібных участкаў і колькасць жывёлы ў асабістым карыстанні калгаснікаў, дапускалася няправільнае размеркаванне натуральных і грашовых прыбыткаў, самавольна змяняліся фінансавыя каштарысы, зацверджаныя агульнымі сходамі калгаснікаў, разбазарвалася калгасная прадукцыя. Праўленні многіх калгасаў наймалі рабочую сілу ў той час, калі вялікая колькасць калгаснікаў амаль не прымала ўдзелу ў калгаснай вытворчасці. Усё гэта прыводзіла да ўшчымлення грамадскіх калгасных інтарэсаў.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) і Совет Народных Камісараў СССР нанеслі ўдар антыкалгасным, антыпартыйным дзеянням сваёй пастановай «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання». Калгаснікі сустрэлі гэту пастанову з вялікім натхненнем і сваёй чэснай працай стараюцца апраўдаць клопаты і ўвагу, якія праяўляюць да іх партыя і ўрад.

Калгасам Совецкай Беларусі па дзяржаўных актах перадана ў бестэрміновае карыстанне каля 8 мільёнаў гектараў зямлі. Гэты адзіны зямельны масіў калгасаў ні ў якім выпадку не павінен змяншацца. Надзяленне членаў арцелі зямлёй за кошт калгаснай плошчы катэгарычна забараняецца.

У сталінскім статуце сельскагаспадарчай арцелі сказана:

> «Зямля, займаемая арцеллю (як і ўсякая іншая зямля ў СССР), ёсць агульнанародная дзяржаўная ўласнасць. Яна, згодна законаў рабоча-сялянскай дзяржавы, замацоўваецца за арцеллю ў бестэрміновае карыстанне, гэта значыць, навечна і не падлягае ні куплі-продажу, ні здачы арцеллю ў арэнду».

Гэта прамое ўказанне статута ва многіх раёнах Беларусі парушалася. Былі выпадкі, калі грамадская калгасная зямля разбазарвалася і распрадавалася ва ўгоду прыватнаўласніцкім інтарэсам, якія заносіліся ў калгасы астаткамі разбітага кулацтва.

У адной толькі Магілеўскай вобласці выяўлена 17 тысяч калгасных двароў, якія мелі прысядзібныя ўчасткі больш устаноўленай нормы. У Гомельскай вобласці больш 13 тысяч калгасных гаспадарак незаконна пашырылі свае прысядзібныя ўчасткі, захапіўшы 1.707 га калгаснай зямлі.

Скажэнне палітыкі партыі ў галіне калгаснага землекарыстання рашучым чынам зараз выпраўляецца. Грамадскія землі, якія незаконна знаходзяцца ў асабістым карыстанні калгаснікаў і аднаасобнікаў, звярачаюцца калгасам пасля абмеру прысядзібных участкаў. Партыйныя і совецкія арганізацыі абавязаны з бальшэвіцкай настойлівасцю забяспечыць правільны і дакладны абмер прысядзібных участкаў.

Майскі пленум ЦК ВКП(б) звярнуў асаблівую ўвагу на тое, што ўсякая спроба ўрэзаць грамадскія землі калгасаў у карысць прыватнай гаспадаркі калгаснікаў, а таксама і ўсякае павелічэнне прысядзібных участкаў звыш размераў, прадугледжаных статутам сельскагаспадарчай арцелі, павінны разглядацца як крымінальнае злачынства.

Царскі ўрад, каб стварыць сабе апору на вёсцы, узмоцнена насаджаў кулацкія гаспадаркі. На Беларусі было створана больш 200 тысяч хутароў. Прадажныя агенты фашызма, буржуазныя нацыяналісты ўсяляк стараліся захаваць хутаршчыну. Яны ў сваю чаргу, паміма жадання беднякоў і сераднякоў, таксама насаджалі хутары і дробныя пасёлкі ў тры-пяць двароў.

Калгаснае сялянства і аднаасобнікі з вялікім уздымам сустрэлі пастанову ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб ліквідацыі хутарскіх прысядзібных участкаў.

Дзяржава адпусціла калгаснікам, якія перасяляюцца з хутароў, доўгатэрміновы крэдыт—па 500 рублёў на кожны двор. Па ільготных цэнах адпушчана 900 тысяч кубаметраў лесу, 1200 тон цвікоў для будоўлі. Калгасам з вялікім планам ссялення вылучана 150 грузавых аўтамашын і 1300 аўтапакрышак.

Совецкія, партыйныя і прафсаюзныя арганізацыі БССР паслалі ў калгасы больш тысячы агітатараў, каб давесці да шырокіх мас велізарнейшае значэнне гэтай пастановы. У парадку соцыялістычнай дапамогі з фабрык і заводаў рэспублікі паехалі ў вёску на працяглы тэрмін сотні спецыялістаў розных прафесій.

Ужо можна падвесці некаторыя вынікі ліквідацыі хутарскога

рассялення. Замест 93.300 двароў, падлягаючых ссяленню ў 1939 годзе, да 20 ліпеня перавезена 108417 або 116,2 проц. Аднак, у некаторых раёнах адбудова перавезеных дамоў ідзе вельмі марудна. Неабходна ўсімі мерамі яе паскорыць.

Каб закончыць гэту вялікую працаёмкую работу ў самы кароткі тэрмін, партыйныя і совецкія арганізацыі ў раёнах павінны праявіць максімум ініцыятывы, настойлівасці і прадбачання. Адпушчаныя дзяржавай крэдыты на ссяленне хутароў трэба па-гаспадарску скарыстаць і, галоўнае, па-сапраўднаму ўстрасануць мясцовыя рэсурсы. Даць шырокі прастор ініцыятыве, быстра падхопліваць добры вопыт, нахаду выпраўляць усе няўвязкі, рашуча прасякаць малейшае процідзеянне ссяленню хутароў—толькі пры гэтых умовах магчыма будзе выканаць баявую задачу, якая стаіць перад рэспублікай у справе быстрэйшай ліквідацыі хутароў.

* * *

Рашаючую ролю ва ўздыме і ўмацаванні калгаснай вытворчасці адыгрываюць МТС. Гэта—асноўны рычаг, пры дапамозе якога совецкая дзяржава вядзе гіганцкую работу па ўмацаванню соцыялістычных форм у земляробстве. Праз МТС яна ажыццяўляе кіраўніцтва калгасамі. МТС указваюць шляхі ліквідацыі процілегласці паміж горадам і вёскай, паміж працай фізічнай і разумовай. Развіццё цяжкай індустрыі, асабліва ў галіне сельскагаспадарчага будаўніцтва забяспечыла карэнную перабудову ўсёй сельскай гаспадаркі на соцыялістычных асновах. У БССР налічваецца 234 МТС з паркам каля 9.000 трактароў і звыш 1.300 камбайнаў.

У калгасах БССР на 1 студзеня г. г. налічвалася 2.946 грузавых аўтамашын, 1.472 рухавікоў і лакамабіляў, 7.135 зернавых, ільняных і іншых сеялак, 1.331 складаных і поўскладаных малатарань, 19.231 простых малатарань, 9.293 сенакасілкі, 17.032 жняяркі, 475 снопавязалак, 8.314 конных грабель, 4.029 зернавых трыераў, 7.228 зернавых сартыровак, 24.931 веялка, 150 бульбасаджалак, 965 бульбакапалак, 1.242 цёрак ільна і канюшыны і шмат іншых сельскагаспадарчых машын.

Узросшая механізацыя соцыялістычнай сельскай гаспадаркі і творчая актыўнасць калгасных мас забяспечылі ўмовы для ўкаранення ў сельскагаспадарчай вытворчасці перадавой агратэхнікі. Павялічыўся завоз у калгасы мінеральных угнаенняў.

Рашаючыя поспехі дасягнуты ва ўмацаванні калгаснага ладу. Новая совецкая вёска ўнесла карэнныя змены ў эканоміку сельскай гаспадаркі. У 1936 годзе, апошнім годзе другой пяцігодкі, валавы збор зярна ў калгасах БССР складаў 9 мільёнаў 26 тысяч цэнтнераў, а ў 1938 годзе, пры неспрыяючых для раду раёнаў кліматычных умовах,—9 мільёнаў 964 тысячы цэнтнераў, на 838 тысяч цэнтнераў больш.

Барацьба за штогоднюю вытворчасць 8 мільярдаў пудоў зярна азнаменавалася выдатнымі перамогамі. З года ў год наша рэспубліка збірае ўсё больш і больш зярна, бульбы, гародніх і тэхнічных культур.

Значнае месца займае ў нас лён—вядучая тэхнічная культура калгасных палёў рэспублікі. Ад рэалізацыі ільнапрадукцыі калгасы ў 1938 годзе атрымалі 42.049.000 рублёў прыбытку.

Поўная перамога калгаснага ладу прывяла да няўхільнага росту грашовых калгасных прыбыткаў і заможнасці калгаснікаў.

Даволі прывесці некалькі лічбаў, каб упэўніцца ў велізарным росце эканомікі калгасаў.

У 1936 годзе калгасы БССР атрымалі 269.395.000 руб. прыбытку, а ў 1938 годзе—333.390.000 рублёў, што складае 128,8% да 1936 года, больш спрыяючага ў кліматычных адносінах.

Рост грашовых прыбыткаў (у рублях) па калгасах БССР характарызуецца наступнымі данымі:

| | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Грашовы прыбытак на 1 калгас (у сярэднім) . . . . . . . . . | 14 985 | 21 378 | 27 986 | 31 040 | 34 512 |
| Размеркаванне грашовых прыбыткаў па працаднях на 1 калгас (у сярэднім) . . . . . . . . . . | 3 557 | 6 778 | 9 384 | 11 870 | 15 690 |

Бліскучыя дасягненні ва ўсіх галінах гаспадаркі найбольш ярка відаць з паказчыкаў паасобных калгасаў. Калгас імя Тэльмана Брагінскага раёна—удзельнік Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі—у 1935 годзе меў валавога прыбытку да 121.910 рублёў, у 1936 годзе—140 023 руб., у 1937 годзе—193.005 рублёў і ў 1938 годзе—226.665 рублёў.

Калгас імя Куйбышэва Бабруйскага раёна—удзельнік Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі—у 1937 годзе меў валавога прыбытку 660.160, а ў 1938 годзе 930.144 рублёў.

У гэтых калгасах за апошнія два годы падвоілася аплата працадня.

Калгас імені Куйбышэва (старшыня калгаса—дэпутат Вярхоўнага Совета БССР, ордэнаносец, удзельнік Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі тав. Мінкевіч) у 1938 годзе выдаў на працадзень: 1,5 кгр. зярна, 7 кгр. бульбы, 3,1 кгр. гародніны, 2,5 кгр. сена, 1,3 кгр. саломы, 0,5 кгр. яблык і шмат іншых прадуктаў і грашыма 6 р. 71 к.

Калгас імені Тэльмана ў 1938 годзе выдаў на працадзень: 2,2 кгр. зярна, 10 кгр. бульбы, 1,5 кгр. гародніны і шмат іншых прадуктаў, грашыма—3 р. 15 к. Сям'я калгасніка Шалуна Ігната атрымала на свае працадні 3.635 рублёў грошай, 2599 кгр. зярна, 11540 кгр. бульбы, 1731 кгр. гародніны, 1154 літры малака, 58 кгр. мяса і інш.

Такіх прыкладаў не мала ў калгасах нашай рэспублікі.

* * *

Вялікіх поспехаў дабіліся калгасы БССР і ў развіцці жывёлагадоўлі. На 1 ліпеня 1938 года ў калгасах было 826.273 галавы буйнай рагатай жывёлы, а на 1 ліпеня 1939 года звыш 849.000 галоў. Свіней у калгасах на 1 ліпеня 1939 года налічвалася звыш 251.000 і авечак—звыш 491.000 галоў.

За годы другой пяцігодкі пагалоўе буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 59 проц. і свіней на 40 проц. Нашы калгасы маюць

7.815 малочнатаварных, 4.199 свінатаварных, 5.764 аўцагадоўчыя і 220 конегадоўчых ферм.

Трэба прызнаць, што абласныя і раённыя земаддзелы не выкарысталі поўнасцю ўсіх магчымасцей развіцця жывёлагадоўлі, якія існуюць у нашай рэспубліцы, не давялі да практычных работнікаў усе апошнія дасягненні зоатэхнікі і ветэрынарыі, не здолелі вырашыць цэлы рад пытанняў, звязаных з далейшым палепшаннем справы. Багацейшы вопыт передавікоў жывёлагадоўлі, ордэнаносцаў, знатных людзей не заўсёды шырока папулярызуецца ў калгасных фермах. Паасобныя раёны мала ўвагі ўдзяляюць злучнай кампаніі, зачастую дапускаюць вольную злучку з беспароднымі жарабцамі. Калгасы Беларусі, як і ўсяго Совецкага Саюза, маюць багатыя магчымасці для развіцця конскіх ферм. Трэба толькі наладзіць правільнае выкарыстанне племянных вытворнікаў па раёнах і ўстанавіць за імі добры догляд.

Рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб мерапрыемствах па развіццю жывёлагадоўлі» павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый, праўленняў калгасаў, конюхаў, зоатэхнікаў, кожнага калгасніка. Якасць нашых коней, прадукцыйнасць нашай жывёлы павінна быць значна вышэй, чым у капіталістычных краінах.

Далейшае развіццё і ўзбуйненне калгасных жывёлагадоўчых ферм—важнейшае звяно ў ажыццяўленні пастаўленай XVIII партыйным з'ездам задачы канчатковага вырашэння праблемы жывёлагадоўлі, далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў.

Багацейшы вопыт перадавікоў, знатных людзей жывёлагадоўлі і іх чэсная праца служаць парукай таму, што задачы, пастаўленыя партыяй, урадам і асабіста таварышом Сталіным у галіне развіцця жывёлагадоўлі, будуць поўнасцю выкананы.

Большасць калгасаў БССР змагаецца за тое, каб у самы бліжэйшы час мець па 3 і больш ферм. І гэтага яны абавязкова даб'юцца, бо маюць даволі кармоў, маюць вялікі вопыт энтузіястаў, якія вырошчваюць цудоўных быстраходных коней, высокапрадукцыйных кароў, свіней, авечак.

За апошнія годы рэзка ўзрасла колькасць жывёлагадоўчых ферм ва ўсёй нашай краіне. У калгасах СССР налічваецца зараз больш 400 тысяч ферм, з якіх на Беларусі—каля 18.000.

Нястомнымі клопатамі партыі і ўрада дасягнуты немалыя поспехі і ў павышэнні таварнасці і даходнасці жывёлагадоўлі. Справа чэсці калгасаў і ўсіх работнікаў зямельных органаў, усіх партыйных і непартыйных бальшэвікоў—дабіцца яшчэ большых поспехаў, разгарнуць к 3-му з'езду калгаснікаў шырокае соцыялістычнае спаборніцтва за выкананне і перавыкананне планаў развіцця жывёлагадоўлі ў трэцяй сталінскай пяцігодцы.

* * *

Арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў і рост заможнасці калгаснікаў садзейнічалі росту культуры калгаснай вёскі.

Калгасы БССР маюць 2373 клубаў на 288.258 чалавек, 285 хатчытальняў, 414 чырвоных куткоў, 2.287 дзіцячых ясляў, 256 дзіцячых садоў, 60 хат-лабараторый, 99 хат-радзільняў, 2.214 тыповых бань і 46 спецыяльна абсталяваных цырульняў.

У калгасах рэспублікі шырока развілася народная творчасць і самадзейнасць розных мастацкіх гурткоў.

Вялікіх вытворчых поспехаў многія калгасы ордэнаноснай Савецкай Беларусі дабіліся шляхам укаранення стаханаўскіх метадаў працы. Стаханаўскі рух быў падрыхтован усім ходам нашага развіцця, гіганцкімі перамогамі соцыялістычнай індустрыі, ростам і ўмацаваннем калгасаў, усёй вялікай пераўтвараючай работай партыі Леніна—Сталіна.

На 1-ай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў тав. Сталін гаварыў:

> «Жыць стала лепш, таварышы. Жыць стала весялей. А калі весела жывецца, работа спорыцца. А адсюль высокія нормы выпрацоўкі, а адсюль героі працы... Калі стаханаўцы ўзнялі тэхнічныя нормы ў 5 і ў 6 раз, то гэта значыць, што яны апіраюцца цалкам і поўнасцю на новую тэхніку... што яны... новыя людзі з рабочых і работніц, якія асвоілі новую тэхніку, паслужылі той сілай, якая аформіла і рушыла ўперад стаханаўскі рух».

Адным з самых вялікіх дасягненняў калгаснага ладу з'яўляецца рост знатных людзей—стаханаўцаў вытворчасці, таленавітых кіраўнікоў калгасаў.

Дзесяткі тысяч энтузіястаў калгаснага ладу аддаюць увесь свой вопыт, усе сілы на ўмацаванне і далейшае працвітанне калгасаў.

Шырокім масам Савецкай Беларусі добра вядомы імёны знатных людзей рэспублікі.

Таварышы Рачок, Значонак, Мінкевіч, Барушкоў, Батоўкін і многія іншыя стаханаўцы сельскай гаспадаркі воляю народа абраны дэпутатамі Вярхоўнага Совета СССР і Вярхоўнага Совета БССР. Шырокай папулярнасцю карыстаюцца лепшыя кіраўнікі калгасаў. Старшыня калгаса «Чырвоны агароднік», Менскага раёна, тав. Трушкевіч, старшыня калгаса «Савецкая Беларусь», Тураўскага раёна, тав. Тарасюк, старшыня калгаса імя Варашылава, Магілеўскага раёна, тав. Каракін, многія дзесяткі і сотні лепшых калгасных кіраўнікоў добрай арганізацыяй работы ў звеннях і брыгадах забяспечылі ў сваіх калгасах высокія ўраджаі і заможнае жыццё калгаснікаў. Такіх людзей—партыйных і непартыйных бальшэвікоў—у калгасах Савецкай Беларусі з кожным днём становіцца ўсё больш і больш.

За выдатныя поспехі ў калгасным будаўніцтве, асабліва ў галіне жывёлагадоўлі, саюзны ўрад дастойна ўзнагародзіў перадавых людзей ордэнаноснай Савецкай Беларусі. Яны з чэсцю носяць ордэны і медалі Саюза ССР.

Дзякуючы вялікай арганізатарскай рабоце партыі Леніна—Сталіна, мы маем сур'ёзныя поспехі і ў комуністычным выхаванні калгасных мас. Аднак, ні ў якім выпадку нельга ўпускаць з-пад увагі, што сазнанне людзей у сваім развіцці адстае ад іх фактычнага становішча, што перадавікі пакуль што складаюць меншасць сярод калгаснікаў, што калгаснікі, хоць і з'яўляюцца калектывістамі, але ў іх свядомасці яшчэ жывуць старыя прыватнаўласніцкія буржуазныя тэндэнцыі.

Нельга забываць ні на адну хвіліну, што ад «дробнабуржуазных забабонаў пазбаўляюцца не адразу, не цудам, не па вяленню божай маці, не па вяленню лозунга, рэзалюцыі, дэкрэта, а толькі ў доўгай і цяжкай масавай барацьбе з масавымі дробнабуржуазнымі ўплывамі» **(Ленін).** Нельга забываць, што задача выхавання калгаснікаў у духу калектывізма яшчэ не вырашана поўнасцю і з'яўляецца адной з галоўных нашых задач на бліжэйшы перыяд.

Перамаганне перажыткаў капіталізма ў сазнанні мас, развіццё ко-

муністычнай свядомасці мільёнаў тружанікаў вёскі—вось галоўнае і асноўнае ў барацьбе за ўмацаванне соцыялізма і перамогу комунізма ў вёсцы.

> «Уся наша работа па будаўніцтву соцыялізма, уся наша выхаваўчая работа накіравана да перадзелкі сазнання людзей. На тое і існуе наша партыя, на тое мы дабіліся перамог соцыялізма, на тое мы і ставім задачы комуністычнага будаўніцтва, каб перарабляць людзей, іх сазнанне». (Жданаў, з даклада на XVIII з'ездзе партыі).

Разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва, заахвочванне перадавікоў і падцягванне адстаючых, выкрыццё лодыраў і дармаедаў акажуць неацанімую паслугу партыйным і совецкім арганізацыям у далейшай рабоце па выхаванню калгаснікаў у духу калектывізма.

Партыйныя і совецкія арганізацыі, уцягваючы ў соцспаборніцтва ўсё новыя і новыя тысячы ўдзельнікаў, павінны добра разумець, што поспех яго залежыць ад таго, наколькі шырока будзе пастаўлена масава-палітычная работа.

Трэба ўсямерна заахвочваць лепшых людзей калгасаў, акружаць іх пашанай, як сапраўдных герояў і гераінь соцыялістычнай працы, як самаадданых барацьбітоў за працвітанне калгасаў, за сапраўдны росквіт калгаснай заможнасці. Вопыт перадавікоў, метады і ўзоры іх работы павінны неадкладна станавіцца набыткам усіх калгаснікаў. Усе сродкі агітацыі і прапаганды неабходна падпарадкаваць гэтай важнейшай справе, выхоўваючы на прыкладах лепшых з лепшых усю масу калгаснікаў.

Усе партыйныя і совецкія арганізацыі павінны цярпліва і настойліва працаваць над соцыялістычным перавыхаваннем сялян-калгаснікаў, памятаючы, што ў гэтым зараз галоўная, асноўная задача.

* * *

Першага жніўня ў сталіцы нашай вялікай радзімы Маскве адкрылася Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка—агляд вялікіх перамог калгаснага ладу.

Больш 4500 калгасаў, соўгасаў і лепшых, перадавых людзей нашай Совецкай Беларусі прадэманструюць на выстаўцы свае дасягненні.

Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка пакажа працоўным усяго свету, якіх велізарнейшых перамог дабілася калгасная вёска пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна.

Калгаснікі і калгасніцы, змагаючыся за новыя вытворчыя дасягненні, павінны дабіцца, каб у 1940 годзе колькасць удзельнікаў выстаўкі ад нашай рэспублікі павялічылася ва многа раз. МТС, калгасы, соўгасы, перадавікі і арганізатары сельскай гаспадаркі, якія па сваіх паказчыках не могуць быць зараз удзельнікамі выстаўкі, маюць усе магчымасці заваяваць сваёй стаханаўскай работай права на ўдзел у выстаўцы 1940 г. Ні адзін раён, ні адзін калгас не павінен застацца ў баку ад соцыялістычнага спаборніцтва, рэзультатам якога з'явіцца не толькі выкананне, але і перавыкананне трэцяй сталінскай пяцігодкі.

З года ў год павышаецца ў калгасах прадукцыйнасць працы, умацоўваецца працоўная дысцыпліна. За 1938 год 207.090 працаздольных калгаснікаў і калгасніц выпрацавалі ад 300 да 400 працадзён і

183.527 працаздольных калгаснікаў выпрацавалі больш 400 працадзён кожны.

У азнаменаванне 3-га з'езда калгаснікаў кожны працаздольны калгаснік і калгасніца павінны не толькі паставіць перад сабой задачу, але і выпрацаваць не меншую колькасць працадзён, чым перадавікі сельскай гаспадаркі, каб высокаякасна і ў тэрмін выканаць усе сельскагаспадарчыя работы і даць нашай соцыялістычнай прамысловасці сваю рабочую сілу.

Для выканання велізарнейшых задач, якія стаяць перад сельскай гаспадаркай, неабходна мець добра падрыхтаваныя кадры. Зараз у калгасах Беларусі працуе 9.664 старшыні калгасаў, 7.295 іх намеснікаў, 9.630 старшынь рэвізійных камісій, 11.206 калгасных рахункаводаў, 22.913 брыгадзіраў-раслінаводаў, 1.002 фельчароў, 9.538 загадчыкаў жывёлагадоўчых ферм, 1,596 брыгадзіраў жывёлаводаў, 165 загадчыкаў хат-лабараторый, 1.924 шофераў, каля 18.000 трактарыстаў.

Толькі за першую палавіну 1939 года да ўборачнай кампаніі падрыхтавана 512 камбайнераў, 316 пам. камбайнераў, 500 ільнацерабільшчыкаў, 837 машыністаў зернавых малатарань і т. д.

Але трэба прама сказаць, што падрыхтоўка кадраў з'яўляецца яшчэ адстаючым участкам. Ні Наркамзем па сваёй сістэме, ні райвыканкомы гэтай справай па-сапраўднаму не заняліся. Асабліва дрэнна пастаўлена падрыхтоўка і вылучэнне жанчын на кіруючую работу ў сельскай гаспадарцы. Многія раённыя арганізацыі забываюць, што жанчына ў калгасе—вялікая сіла, і не дапамагаюць ёй у далейшым росце на практычнай рабоце.

Доўг і абавязак партыйных і совецкіх арганізацый—шырока разгарнуць падрыхтоўку кадраў для сельскай гаспадаркі і вылучэнне жанчын на кіруючую работу ў калгасах.

Большэвікі Совецкай Беларусі таксама з чэсцю павінны выканаць задачы ўборкі і загатоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў. Для гэтага мы маем усе ўмовы. У гэтым годзе ўборачная плошча зернавых культур складае 1.866.243 га, у тым ліку коласавых 1.670.000 га. Звыш 850 тысяч калгаснікаў і калгасніц будуць актыўна ўдзельнічаць ва ўборцы ўраджаю. У нас не мала ўсемагчымых складаных і поўскладаных сельгасмашын і 365 тысяч коней, якія могуць быць выкарыстаны для ўборкі. Усе каласавыя выспяваюць амаль адначасова, таму ўборку трэба правесці ў 11—12 дзён і ільна ў 5—6 дзён. Пры гэтым неабходна ўлічыць і выкананне іншых сельскагаспадарчых работ, разгортванне абмалоту, здачу абавязковых паставак дзяржаве.

Усю людскую сілу, жывое цягло і машыны трэба загадзя правільна расставіць, арганізаваць працу ў звеннях і брыгадах, забяспечыць рашучую барацьбу са стратамі пры ўборцы і малацьбе.

Выкананне ўсіх гэтых задач з'явіцца залогам паспяховай падрыхтоўкі да размеркавання натуральных і грашовых даходаў калгасаў.

Пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і любімага правадыра народаў таварыша Сталіна, беларускі народ упэўнена і цвёрда ідзе да новых перамог па ўсіх галінах развіцця соцыялістычнай гаспадаркі. Клопаты аб беларускім народзе яшчэ больш згуртоўваюць рабочых, калгаснікаў і совецкую інтэлігенцыю нашай рэспублікі вакол слаўнай большэвіцкай партыі, вакол любімага правадыра—таварыша Сталіна.



Натхнёны рашэннямі XVIII з'езда партыі беларускі народ яшчэ з большай актыўнасцю будзе змагацца за далейшы росквіт сваёй рэспублікі ў трэцяй сталінскай пяцігодцы.

Трэці з'езд калгаснікаў збярэцца якраз тады, калі будуць падводзіцца вынікі сельскагаспадарчага года. Справа чэсці ўсіх партыйных арганізацый, усіх партыйных і непартыйных большэвікоў, кожнага калгаса і калгасніка—прыйсці да гэтага з'езда з новымі перамогамі ва ўсіх галінах соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Калгаснае сялянства Совецкай Беларусі сваёй прадукцыйнай працай, выкананнем усіх сельскагаспадарчых задач і абавязковых дзяржаўных паставак дастойна сустрэне свой трэці з'езд.

---

Б. Зельцэр

## За большэвіцкае кіраўніцтва калгасамі

Шырокія масы калгаснікаў ордэнаноснай Беларусі з вялікім уздымам і натхненнем сустрэлі пастанову Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і СНК СССР «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання», кожны радок якой пранікнут сталінскай мудрасцю і клопатамі аб комуністычным выхаванні калгаснага сялянства, аб далейшым працвітанні яго жыцця.

Калгасны лад канчаткова ўмацаваўся. Знішчаны беднасць і галеча ў вёсцы, безупынна расце матэрыяльны і культурны ўзровень мільённых мас калгаснікаў і калгасніц. Гэтыя перамогі атрыманы ў барацьбе з ворагамі народа, трацкісцка-бухарынскімі, нацыянал-фашысцкімі бандытамі, подлымі здраднікамі нашай радзімы.

Па СССР калектывізавана 18.800.000 (93,5 проц.) сялянскіх двароў. 715 тысяч гаспадарак Беларусі аб'яднана ў 9.665 калгасаў, якія маюць 97 проц. пасеўнай плошчы рэспублікі. Калгасам перадана на вечнае карыстанне каля 8 мільёнаў гектараў зямлі.

Калгасы ўзброены першакласнай машыннай тэхнікай. Па СССР на 1 студзеня 1939 г. налічвалася 6.350 МТС з 495.794 трактарамі і 140.000 камбайнамі.

У БССР—234 МТС, якія маюць каля 9.000 трактараў, звыш 1300 камбайнаў, 4418 аўтамабіляў, лакамабіляў і рухавікоў і дзесяткі тысяч іншых сельскагаспадарчых складаных і паўскладаных машын.

Механізацыя соцыялістычнага земляробства на базе калектыўнай працы, пры штодзённай дапамозе большэвіцкай партыі і совецкага ўрада забяспечылі калгасам нябачаны росквіт вытворчых сіл.

Пасеўная плошча СССР ў 1938 годзе ўзрасла да 136,9 мільёна гектараў супроць 105 млн. у 1913 годзе. Характэрнай асаблівасцю калгаснай вытворчасці з'яўляецца яе высокая таварнасць. Да Кастрычніцкай рэволюцыі ў нашай краіне збор зернавых культур складаў 4—5 мільярдаў пудоў. Яшчэ ў 1933 г. ён дасягаў толькі 5,5 мільярда пудоў, а ў 1937 годзе наша зернавая гаспадарка, змагаючыся за выкананне задання таварыша Сталіна, сабрала звыш 7 мільярдаў пудоў зярна.

Пасеўная плошча БССР к канцу другой пяцігодкі ўзрасла ў параўнанні з 1913 годам на 37,1 проц. Пасевы пшаніцы ўзраслі ў 6,4 раза, тэхнічных культур—у 3,2 раза, кармавых—у 3,1 раза, бульбы—на 93 проц.

Многія калгасы нашай рэспублікі на працягу рада год атрымліваюць нябачаныя раней ураджаі: зярна—па 20 і больш цэнт., ільна—14, бульбы—350 цэнт. з га. З кожным годам расце пасеўная плошча

ільна—багацце нашай рэспублікі. У 1913 годзе ільном-даўгунцом засявалася толькі 71,8 тыс. гектара, а ў 1938 г. было засеяна 250 тыс. гектараў насеннем селекцыйных гатункаў. Па пасеўнай плошчы бульбы БССР займае першае месца ў Саюзе.

Калгасы БССР дабіліся велізарнейшых поспехаў у асваенні балотных зямель. Непраходныя палескія балоты ператварыліся ў квітнеючыя палі, на якіх калгасамі і даследчымі станцыямі дасягнут ураджай: азімага жыта да 36 цэнт., ячменю—да 48, аўса—да 41, канапель—да 14,5 і капусты—да 415 цэнт. з га. Такім чынам балотныя землі ператвараюцца ў буйнейшы фактар павышэння ўраджайнасці. Варта напомніць, што з 12.700 тыс. га ўсёй тэрыторыі Беларусі 3 мільёны або 24 проц. займаюць балоты.

У калгасах Беларусі прывіўся і дае высокі ўраджай каучуканос—кок-сагыз. Па СССР сярэдні ўраджай кок-сагыза складае каля 2 цэнт. з га, а ў БССР ён у два разы больш, прычым, на мінеральных глебах збіраецца 0,9 цэнт., на тарфяніках—11, а на балотнай глебе—да 33 цэнт. добраякаснага кок-сагыза з гектара. Гэта гаворыць за тое, што ў трэцяй пяцігодцы культура кок-сагыза ў БССР павінна з'явіцца адной з асноўных тэхнічных культур.

Сур'ёзныя зрухі намеціліся ў нас і ў галіне жывёлагадоўлі. Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб мерапрыемствах па развіццю грамадскай жывёлагадоўлі ў калгасах» прасякнута сталінскімі клопатамі аб умацаванні і расшырэнні грамадскай калгаснай гаспадаркі, аб далейшым росквіце культурнага і заможнага жыцця калгаснікаў, аб поўным вырашэнні праблемы жывёлагадоўлі ў трэцяй пяцігодцы. Неадкладная задача ўсіх партыйных, комсамольскіх, савецкіх арганізацый і зямельных органаў—хутчэй давесці гэта рашэнне да свядомасці мільёнаў калгаснікаў, мабілізаваць шырокія масы калгаснага сялянства, спецыялістаў сельскай гаспадаркі, партыйных і непартыйных большэвікоў на яго пасляховае ажыццяўленне.

Калгаснае сялянства, працуючы не на памешчыкаў і кулакоў, а на сябе, на сваю соцыялістычную радзіму, з года ў год павышае свой матэрыяльны і культурны ўзровень. Так, у мінулым годзе ў калгасе імені Сталіна, Магілеўскага раёна, калгаснікі атрымалі на працадзень па 6 кгр. зярна, па 8 кгр. бульбы і па 2 р. 50 к. грашыма. Калгаснік Іван Кукушкін, сям'я якога складаецца з 5 чалавек, атрымаў 5 тон хлеба, 15 тон бульбы і 2.550 руб. грашыма. Беларускія калгасы ў 1938 годзе купілі ў каапераціі 1.500 грузавых аўтамашын, а калгаснікі і сельская інтэлігенцыя—5.500 патэфонаў, 130 піяніно, 6.300 веласіпедаў, 115 матацыклаў, 5.000 швейных машын і т. д.

Стаханаўскі рух стаў масавым у калгаснай вёсцы. Уся краіна ганарыцца перадавікамі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, лепшыя з якіх узнагароджаны ордэнамі і медалямі Совецкага Саюза.

Велічны перамогі калгаснага ладу, але яшчэ большых поспехаў павінна дабіцца наша соцыялістычная сельская гаспадарка ў трэцяй сталінскай пяцігодцы.

Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі цалкам і поўнасцю адпавядае інтарэсам працоўнага сялянства. Велізарная большасць калгаснікаў на ўласным вопыце пераканалася ў тым, што грамадская гаспадарка калгасаў з'яўляецца асновай у іх жыцці і рабоце, што чым яна мацней і багацей, тым вышэй дабрабыт кожнай калгаснай сям'і. Таму пераважная большасць калгаснікаў працуе чэсна і добра-

сумленна, памнажаючы багацці свайго калгаса, сваёй радзімы, цвёрда памятаючы словы таварыша Сталіна:

«Калі ўсе калгаснікі,—усе, а не толькі большасць,—будуць працаваць чэсна,—калгасы заваляцца прадуктамі, яны заваляцца ўсякім дабром, і наша краіна стане самай багатай краінай у свеце».

Аднак у рабоце калгасаў ёсць і істотныя недахопы, грубейшыя скажэнні статута сельскагаспадарчай арцелі. Нярэдкі яшчэ факты незаконнай прырэзкі калгаснікам прысядзібных участкаў на падставе мнімага раздзелу сям'і, захавання прысядзібных участкаў за асобамі, якія парвалі сувязь з калгасам, перадача іх у карыстанне прыватным асобам, здача ў арэнду і іншыя махінацыі.

Факты разбазарвання калгаснай зямлі мелі месца амаль ва ўсіх раёнах рэспублікі.

Загадчык зямельным аддзелам Мехаўскага раёна Крукаў не толькі не спыняў антыдзяржаўную практыку разбазарвання зямлі, але сам быў яе ініцыятарам. У калгасе «Чырвоная перамога», Слуцкага раёна, Міснік Раман пашырыў свой прысядзібны ўчастак да 0,95 га, а Адзярыха Міхаіл з сынам Іванам, жывучы разам у адной сям'і, карыстаюцца двума прысядзібнымі ўчасткамі плошчай каля 2 га. Старшыня калгаса імені Сталіна, Урэцкага сельсовета, гэтага-ж раёна, Жук Матвей першым у калгасе парушыў статут сельгасарцелі і захапіў для сябе 0,15 га калгаснай зямлі. Следуючы «прыкладу» старшыні, Францэвіч Марыя захапіла 0,29 га, Наўмовіч Антон—0,28, Пятровіч—0,30 і Карпіевіч Васіль—0,33. Усяго ў калгасе разбазарана такім чынам каля 5 га калгаснай зямлі.

У калгасе імені К. Маркса, Дамінікоўскага сельсовета, Полацкага раёна, калгаснік Завадзееў у мінулым годзе пабудаваў сабе дом на хутары. Калгаснік Цюлікаў з калгаса «Адказ інтэрвентам», гэтага-ж сельсовета, ужо ў гэтым годзе пачаў будавацца на хутары. Сельскі совет абмежаваўся толькі папярэджаннем парушальнікам статута.

Калгаснік Малчанаў Ілья з калгаса імені Кірава самавольна прырэзаў да свайго прысядзібнага ўчастка 0,12 га калгаснай зямлі і не дапусціў праўленне калгаса правесці абмер сваёй сядзібы.

У радзе раёнаў калгасную зямлю прысвойвалі аднаасобнікі. У Кастрычніцкім сельсовеце, Слуцкага раёна, аднаасобнікі Хадарэвіч Архіп, Палынец Антон, Гарунчык Ніканор, Шышко Ефім захапілі кожны па 0,15—0,20 га зямлі ў калгасе імені Чкалава і карыстаюцца ёю ўжо амаль па два годы, а сельсовет і старшыня калгаса т. Доўбік патураюць ім.

У Рэчыцкім раёне Якаў Быкаў у 1930 годзе пабудаваў сабе кулацкі хутар і пачаў гаспадарыць. У 1934 г. ён захваціў 20 га зямлі ў калгасе «Чырвоны комунар» (з іх 12 га пашы, 7 га сенажаці, 1 га лесу) і 9 га ў суседнім калгасе «Змагар другой пяцігодкі», Уваравіцкага раёна. Гэты кулак абзавёўся канём, двума каровамі і дробнай жывёлай, для апрацоўкі зямлі ён увесь час скарыстоўваў наёмную рабочую сілу. У спісах сельсовета Быкаў лічыцца аднаасобнікам, які мае толькі 0,25 га сядзібы, чаму і вызваляецца ад усякіх паставак і падаткаў. Ні сельсовет, ні раённыя арганізацыі Рэчыцы ніякіх мер да гэтага кулака не прымалі, і толькі 2 ліпеня быў абмеран «прысядзібны ўчастак» Быкава, у якім аказалася... 30 гектараў. Быкаў злоўлен нарэшце з палічным.

Рашэнні майскага пленума ЦК ВКП(б) паказалі нам, якую шкоду нанеслі калгасам і якую сур'ёзную небяспеку для соцыялістычнага будаўніцтва таілі ў сабе скажэнні статута сельскагаспадарчай арцелі.

* *
*

Цэнтральны Камітэт і Соўнарком Саюза ССР раяць калгасам устанавіць, што працаздольныя калгаснікі і калгасніцы, якія не выпрацавалі на працягу года абавязковага мінімума працадзён, павінны лічыцца выбыўшымі з калгаса і страціўшымі правы калгаснікаў.

У пастанове ЦК ВКП(б) і СНК СССР сказана:

«У сувязі з тым, што ў калгасах ёсць не толькі чэсныя труджанікі, якія выпрацоўваюць ад 200 да 600 і больш працадзён у годзе, складаюць пераважную большасць калгаснікаў і прадстаўляюць асноўную сілу калгаснага руху, але ёсць таксама некаторая частка працаздольных калгаснікаў, якія выпрацоўваюць на працягу года не больш 20—30 працадзён, але прадаўжаюць лічыцца калгаснікамі і сядзяць на шыі калгаса,— лічыць мэтазгодным устанавіць з 1939 года для кожнага працаздольнага калгасніка і калгасніцы абавязковы мінімум працадзён у годзе».

Для калгаснікаў нашай рэспублікі гэты абавязковы мінімум складае 80 працадзён.

Факты і лічбы нашай рэчаіснасці сведчаць аб тым, што велізарная большасць калгаснікаў добрасумленна і чэсна працуе ў калгасах.

У 1938 годзе ў нашай рэспубліцы больш як па 300 працадзён выпрацавала 396 тыс., па 400 працадзён—207 тыс. і больш як па 400 працадзён—183 тыс. калгаснікаў. Колькасць калгаснікаў, якія выпрацавалі звыш 400 працадзён кожны, павялічылася амаль на 11 проц. супроць 1937 года, а колькасць не прымаўшых удзелу ў калгаснай рабоце зменшылася на 20 проц.

Пастанова ЦК і СНК садзейнічае павышэнню працоўнай дысцыпліны ў калгасах.

Узяць к прыкладу калгас імені Кірава Мсціслаўскага раёна. Раней калгас вымушан быў карыстацца наёмнай рабочай сілай, бо многія калгаснікі прагульвалі. А зараз ён спраўляецца сваімі сіламі, бо калгаснікі акуратна выходзяць на работу. У сельгасарцелях «VII з'езд Саветаў», «Новы быт», «Новы шлях», імені Молатава (Крупскі раён Менскай вобласці) на работу выходзіла не больш 10—15 чалавек, а цяпер на калгасных палях дружна працуюць усе працаздольныя.

Аднак, у радзе калгасаў ёсць яшчэ людзі, якія маюць нязначную колькасць працадзён. Так, у калгасе імені Сталіна, Урэцкага сельсовета, Слуцкага раёна, не выходзяць на работу 15 працаздольных калгаснікаў. У калгасе «Ударнік» Шклоўскага сельсовета Верыга І. за цэлы год выпрацаваў усяго 35 працадзён і цяпер зусім не выходзіць на работу. Яго жонка ў гэтым годзе выпрацавала ўсяго толькі 20 працадзён. Калгасніца Панкратава Юлія сёлета яшчэ не выходзіла на калгасную работу. Гэтыя мнімыя калгаснікі заяўляюць, што да канца года яны як-небудзь выпрацуюць 80 працадзён, прысядзібны ўчастак у іх не адбяруць, а больш ім нічога і не трэба.

Пра такіх «калгаснікаў» таварыш Молатаў гаварыў на XVIII з'ездзе партыі, што ім «няма справы не толькі да інтарэсаў

дзяржавы, але і да інтарэсаў свайго калгаса», што яны «думаюць толькі аб тым, каб урваць для сябе пабольш і ў дзяржавы і ў калгаса». Прыкрываючыся ганаровым званнем калгасніка, каб карыстацца ўстаноўленымі ільготамі, яны зрабілі прысядзібныя ўчасткі асноўнай крыніцай свайго здабытку, нярэдка імі гандлявалі і спекулявалі.

Часам яшчэ ўзнікае пытанне: як быць у такім выпадку, калі ў калгаснай сям'і, скажам, з чатырох працаздольных, адзін з членаў выпрацаваў мінімум працадзён за ўсіх чатырох? Адказ можа быць толькі адзін: астатнія трое, ці то будзе жонка, брат, сын ці дачка, павінны лічыцца выбыўшымі з калгаса і страціўшымі правы калгаснікаў. У статуце сельскагаспадарчай арцелі ясна сказана, што член калгаса абавязан «умацоўваць сваю арцель, працаваць чэсна, дзяліць калгасныя здабыткі па працы», што «усе работы ў гаспадарцы арцелі праводзяцца асабістай працай яе членаў». Значыць, асобы, якія асабіста не працуюць, не могуць лічыцца калгаснікамі.

Мінімум працадзён устаноўлен не для калгаснага двара або гаспадаркі, а для кожнага працаздольнага калгасніка. Выкананне работы адным работнікам за другога супярэчыць асновам соцыялістычнага грамадства, бо па сутнасці, у той ці іншай меры, вядзе да эксплаатацыі чалавека чалавекам або з'яўляецца прыкрыццём для спекулянцкіх махінацый.

Мінімум працадзён—не норма, а граніца, найменшая колькасць выпрацоўкі, ніжэй якой калгаснік павінен лічыцца выбыўшым з калгаса. Наша задача—дабіцца, каб кожны калгаснік і калгасніца працавалі чэсна і добрасумленна, даючы не мінімум, а максімум працадзён.

Абавязковы мінімум распаўсюджваецца на ўсіх працаздольных калгаснікаў, у тым ліку на членаў сямей рабочых і служачых, якія жывуць у калгасе і лічацца калгаснікамі. Калі працаздольныя члены сям'і рабочага або служачага ў калгасе выконваюць устаноўлены мінімум працадзён, яны карыстаюцца прысядзібным участкам, у адваротным выпадку трацяць на гэта права.

Абавязковы мінімум працадзён—сур'ёзнейшая зброя соцыялістычнага перавыхавання тых калгаснікаў, якія яшчэ не рассталіся са звычаем глядзець на працу як на нешта зазорнае. Правядзенне гэтага мінімума ў жыццё адчыніць у кожным калгасе велізарныя рэзервы для расшырэння гаспадаркі, павышэння яе даходнасці і разам з тым больш поўнага задавальнення асабістых патрэб кожнага калгасніка. Калгас лепш зможа ўважыць просьбу таварыша Сталіна аб арганізаванай пасылцы рабочай сілы ў соцыялістычную прамысловасць.

* * *

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання» з новаю сілай напамінае аб неабходнасці ўзмацніць работу па комуністычнаму выхаванню працоўных. Капіталізм у нашай эканоміцы ліквідован, але перажыткі яго яшчэ засталіся ў свядомасці людзей.

У 1933 г. на 1 з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў таварыш Сталін гаварыў:

«Часам гавораць: ежалі соцыялізм,—навошта яшчэ праца-

ваць? Працавалі раней, працуем цяпер,—ці не пара перастаць працаваць? Такія развважанні ў корані няправільны, таварышы. Гэта філасофія лодыраў, а не чэсных тружанікаў. Соцыялізм зусім не адмаўляе працу. Наадварот, соцыялізм будуецца на працы. Соцыялізм і праца неаддзельны адна ад другога. Ленін, наш вялікі настаўнік, гаварыў: «Хто не працуе, той не есць». Што гэта значыць, супроць каго накіраваны словы Леніна? Супроць эксплаататараў, супроць тых, якія самі не працуюць, а прымушаюць працаваць другіх і ўзбагачаюцца за кошт другіх. А яшчэ супроць каго? Супроць тых, якія самі лодырнічаюць і хочуць за кошт другіх пажывіцца. Соцыялізм патрабуе не лодырнічання, а таго, каб усе людзі працавалі чэсна, працавалі не на другіх, не на багацеяў і эксплаататараў, а на сябе, на грамадства» *).

Гэтыя словы вялікага правадыра з'яўляюцца першай запаведдзю для кожнага калгасніка і калгасніцы, для кожнага грамадзяніна нашай соцыялістычнай радзімы.

Трэба памятаць, што абавязковы мінімум працадзён устаноўлен для таго, каб у калгасе чэсна працавалі ўсе да аднаго калгасніка, усе да адной калгасніцы, а не толькі большасць.

У Сталінскай Канстытуцыі—асноўным законе нашай краіны—запісана:

«Праца ў СССР з'яўляецца абавязкам і справай гонару кожнага здольнага да працы грамадзяніна».

Наша задача—выхоўваць у кожным грамадзяніне нашай вялікай радзімы свядомыя, добрасумленныя адносіны да працы.

Ленінска-сталінскі Цэнтральны Камітэт нашай партыі паказвае прыклад тэарэтычна-навуковага прадбачання ходу падзей. Стоячы на варце грамадскай калгаснай гаспадаркі, ён прыняў рашэнне аб ліквідацыі скажэнняў і парушэнняў статута сельгасарцелі, указаўшы правільны шлях умацавання і большэвізацыі калгасаў.

У гэтым гістарычным рашэнні ўвасоблены сталінскія ўказанні аб тым, што толькі на падставе выхавання калгаснікаў у духу няўхільнага захавання калгаснага статута—асноўнага непахіснага закона калгаснага жыцця, на падставе самай рашучай барацьбы супроць прыватнаўласніцкіх буржуазных настрояў, што заносяць у калгасы рэшткі разбітага кулацтва, магчыма пераадаленне перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей і ператварэнне ўсіх калгаснікаў у свядомых тружанікаў соцыялістычнага грамадства.

Пастанова партыі і ўрада прадугледжвае цэлую сістэму арганізацыйных мерапрыемстваў: абмер прысядзібных участкаў, учот зямель калгасаў, ліквідацыю хутарскіх прысядзібных участкаў у грамадскіх палях, ссяленне хутарскіх гаспадарак у калгасныя сяленні, перасяленне калгаснікаў з малазямельных у многазямельныя раёны краіны і т. д.

Задача партыйных, савецкіх арганізацый і зямельных органаў—па-большэвіцку праводзіць у жыццё гэтыя мерапрыемствы і выканаць іх ва ўстаноўленыя тэрміны.

*) „Пытанні ленінізма", стар. 533.

* * *

У справе далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў велізарнае значэнне мае ўзорнае выкананне рашэння ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў у 1939 годзе».

Гэта рашэнне—баявая праграма работы ўсіх мясцовых і партыйных, савецкіх і комсамольскіх арганізацый у іх барацьбе за высокі ўраджай—зыходзіць з асноўнага палажэння, выказанага таварышом Сталіным у 1935 годзе на нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак:

> «Уборка—справа сезонная і яна не можа чакаць. Убраў своечасова—выіграў, спазніўся ва ўборцы—праіграў».

У гэтым рашэнні даецца канкрэтны і чоткі план правядзення ўборкі і загатовак прадуктаў у самы кароткі тэрмін і без страт. Улічыўшы памылкі, меўшыя месца пры ўборцы ўраджаю ў мінулым годзе, неабходна яшчэ шырэй разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, мабілізуючы ўсё калгаснае сялянства на выдатную ўборку і рэалізацыю ўраджаю.

* * *

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР, адобраная майскім пленумам Цэнтральнага Камітэта, кладзе канец нягоднай у корані, апартуністычнай, небольшэвіцкай практыцы самацёку і хвасцізма ў кіраўніцтве калгасным рухам з боку мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый і ва ўвесь рост ставіць перад іх кіраўнікамі задачу—забяспечыць сапраўды большэвіцкае кіраўніцтва калгасамі і ўзняць партыйна-палітычную работу на вёсцы.

Калі-б наша большэвіцкая партыя, наш Цэнтральны Камітэт, наш савецкі ўрад не нанеслі ўдару парушэнням статута сельскагаспадарчай арцелі, калі-б працягвалася разбазарванне грамадскіх зямель у калгасах, раздуванне асабістай гаспадаркі калгаснікаў за кошт грамадскай гаспадаркі калгасаў,—то гэта немінуча прывяло-б да падрыву калгасаў і соцыялістычнай прамысловасці, а, значыць, і ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Адказнасць за грубейшыя парушэнні статута сельгасарцелі нясуць мясцовыя сельскія, раённыя і абласныя партыйныя і савецкія арганізацыі і іх кіраўнікі, якія пусцілі на самацёк вырашэнне важнейшых пытанняў калгаснага жыцця. А самацёк у кіраўніцтве калгасамі—небяспечная рэч. Самацёк і хвасцізм чужды большэвізму. Калгасамі трэба кіраваць па-большэвіцку, аказваць ім штодзенную дапамогу ва ўсёй іх дзейнасці.

Таварыш Сталін не раз указваў, што калгасы прадстаўляюць толькі соцыялістычную форму арганізацыі і што ўсё залежыць ад таго, які змест будзе ўліт у гэтую форму.

> «З пункту погляду ленінізма калгасы, як і советы, узятыя як форма арганізацыі, ёсць зброя, і толькі зброя. Гэту зброю можна пры вядомых умовах накіраваць супроць контр-рэволюцыі. Яна можа служыць рабочаму класу і сялянству. Яна можа служыць пры вядомых умовах ворагам рабочага класа і сялянства. Уся справа ў тым, у чыіх руках знаходзіцца гэта зброя і супроць каго яна будзе накіравана» *).

*) „Пытанні ленінізма", стар. 520—521.

Калгаснае будаўніцтва—справа новая, не маючая перад сабой гатовага вопыту ў мінулым. Наша большэвіцкая партыя, упершыню ў гісторыі чалавецтва, пры падтрымцы ўсяго шматмільённага сялянства пракладае гэты новы, нязведаны шлях грамадскага развіцця вёскі. І зусім ясна, што далейшыя поспехі і перамогі калгаснага ладу будуць залежаць ад правільнага большэвіцкага кіраўніцтва, ад умелай і своечасовай дапамогі калгасам. А нашы калгасы адчуваюць у гэтым вялікую патрэбу.

Тав. Андрэеў у сваёй прамове на XVIII партыйным з'ездзе падверг рэзкай крытыцы недахопы кіраўніцтва калгасамі. Ён указваў, што некаторыя нашы партыйныя і савецкія кіраўнікі сельскай гаспадаркі думаюць, што ўсё можа ісці самацёкам. Яны не ўнікаюць у сутнасць тэхнікі арганізацыі калгаснай вытворчасці, не выкарыстоўваюць багаты вопыт перадавікоў сельскай гаспадаркі, кіруюць наогул.

> «Ці не пара, таварышы, пакончыць з такога роду кіраўніцтвам і стаць сапраўднымі кіраўнікамі калгасаў і соўгасаў і весці справу па-гаспадарску, а не ў парадку барацьбы з прарывамі? Для гэтага трэба ліквідаваць практыку нікому непатрэбнага неўмяшання ва ўнутранае жыццё калгасаў і замяніць яе практыкай пастаянных клопатаў і дапамогі калгаснікам. Трэба зразумець, што калгасы маюць патрэбу ў сур'ёзным кіраўніцтве і хочуць гэтага кіраўніцтва ад нас.
>
> Трэба ліквідаваць маючую месца недаацэнку ў пытанні арганізацыі калгаснай гаспадаркі, учоту, рахункаводства і т. д.» **(Андрэеў).**

А для таго, каб выканаць гэту задачу, трэба прадбачыць далейшую перспектыву развіцця калгасаў.

> «Сядзець за рулём і глядзець, каб нічога не бачыць, пакуль абставіны не ўткнуць нас носам у якую-небудзь бядоту,—гэта яшчэ не значыць кіраваць. Большэвізм не так разумее кіраўніцтва. Каб кіраваць, трэба прадбачыць» **(Сталін).**

Партыя і ўрад патрабуюць ад усіх комуністаў, ад усіх партыйных і непартыйных большэвікоў усур'ёз узяцца за арганізацыйна-гаспадарчае і палітычна еўмацаванне калгасаў.

Кіраўнікі партыйных і савецкіх арганізацый, усіх зямельных органаў павінны цвёрда памятаць рашэнне XVIII з'езда ВКП(б):

> «У калгасным будаўніцтве задачы заключаюцца ў далейшым усямерным арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні сельскагаспадарчай арцелі, у развіцці і ўмацаванні грамадскай уласнасці калгаса, у развіцці калгасных жывёлагадоўчых ферм, грамадскіх пабудоў, грамадскіх страхавых фондаў і іншых відаў калгаснай уласнасці, што з'яўляецца асновай далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі і матэрыяльна-культурнага ўзроўню жыцця калгаснага сялянства».

Адсюль задача—штодзенна клапаціцца аб палепшанні работы калгасаў, аб іх умацаванні. Некаторыя комуністы лічаць, што завяршэнне калектывізацыі знімае з іх усякія клопаты аб калгасах. Гэта ў корані няправільна, памылкова.

Таварыш Сталін не раз папярэджваў нас аб небяспецы самацёку ў соцыялістычным будаўніцтве, асабліва ў галіне калгасаў:

«...Пераход да калектыўнай гаспадаркі, як пераважаючай формы гаспадаркі, не змяншае, а павялічвае нашы клопаты аб сельскай гаспадарцы, не змяншае, а павялічвае кіруючую ролю комуністаў у справе ўздыму сельскай гаспадаркі. Самацёк цяпер больш чым калі-небудзь небяспечны для справы развіцця сельскай гаспадаркі. Самацёк цяпер можа пагубіць усю справу.

... Калгасны лад не змяншае, а павялічвае клопаты і адказнасць партыі і ўрада ў адносінах развіцця сельскай гаспадаркі. З гэтага следуе, што партыя, калі яна хоча кіраваць калгасным рухам, павінна ўваходзіць ва ўсе дэталі калгаснага жыцця і калгаснага кіраўніцтва. З гэтага следуе, што партыя павінна не змяншаць, а памнажаць свае сувязі з калгасамі, што яна павінна ведаць усё, што адбываецца ў калгасах, каб своечасова прыйсці на дапамогу і папярэдзіць пагражаючыя калгасам небяспекі» *).

Усямерна ўмацоўваць сельскагаспадарчую арцель, пільна сачыць за няўхільным захаваннем яе статута, весці штодзенную работу па комуністычнаму выхаванню шырокіх калгасных мас, умацоўваць большэвіцкае кіраўніцтва калгасамі, уважліва сачыць за ўсімі справамі ў калгасе і своечасова прыходзіць яму на дапамогу,—вось задачы, пастаўленыя майскім пленумам Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі і таварышом Сталіным перад усімі партарганізацыямі, перад усімі партыйнымі і непартыйнымі большэвікамі.

У большэвіцкім кіраўніцтве—залог новых перамог калгаснага ладу.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і совецкага ўрада, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна калгаснае сялянства сумесна з усім совецкім народам прыдзе да новых перамог комунізма.

---

* Сталін „Пытанні Ленінізма“, стар. 517 і 518.

**С. Новік**

Пракурор Беларускай ССР

# Рашуча змагацца з разбазарваннем грамадскіх зямель калгасаў

XVIII з'езд ВКП(б) падвёў вынікі бліскучых перамог соцыялізма ў нашай краіне.

Ажыццяўленне Сталінскага плана калектывізацыі сельскай гаспадаркі—адна з велізарных перамог генеральнай лініі нашай партыі, атрыманая ў барацьбе з ворагамі народа, здраднікамі нашай радзімы, фашысцкімі наймітамі.

> «Калгасы канчаткова замацаваны і ўзмоцнены, а соцыялістычная сістэма гаспадаркі з'яўляецца цяпер адзінай формай нашага земляробства» **(Сталін).**

Майскі пленум ЦК ВКП(б), выходзячы з рашэнняў XVIII партз'езда, даў большэвіцкую праграму далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, праграму развіцця і ўмацавання грамадскай калгаснай уласнасці.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 27 мая г.г. «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання»—дакумент, прасякнуты Сталінскай мудрасцю і клопатамі аб далейшым паляпшанні дабрабыту калгаснікаў, аб працвітанні соцыялістычнага земляробства. Гэта—праграма далейшай барацьбы нашай партыі і ўсіх совецкіх арганізацый у калгасным будаўніцтве. Правільнае і паслядоўнае ажыццяўленне гэтай праграмы ўзніме яшчэ на большую вышыню матэрыяльны дабрабыт і культурны ўзровень масы чэсных і добрасумленных калгаснікаў, прывядзе да далейшага ўмацавання магутнасці нашай соцыялістычнай дзяржавы, нашай любімай радзімы.

Усе чэсныя і адданыя калгаснікі, разам з усімі працоўнымі нашай рэспублікі, сустрэлі гэту пастанову партыі і ўрада з велізарнай радасцю. Яна выклікала новы вытворчы ўздым, новы прыліў аднаасобнікаў у калгасы. Па БССР за час пасля пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР—ад 27 мая і па 1 ліпеня 1939 г.—уступіла ў калгасы 7 тысяч аднаасобнікаў.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР, адзначыўшы рад сур'ёзных скажэнняў палітыкі партыі ў галіне калгаснага землекарыстання, устанаўляе, што партыйныя і совецкія кіраўнікі, замест штодзеннага выхавання калгасаў і калгаснікаў у духу найстражэйшага захавання статута сельскагаспадарчай арцелі, «самі спрыяюць сваёй

апартуністычнай практыкай нарушэнню статута і злачынна-благадушна адносяцца да пранікнення ў калгасы варожых калгаснаму ладу прыватна-уласніцкіх, буржуазных тэндэнцый, занасімых астаткамі разбітага кулацтва». Пастанова патрабуе ад усіх мясцовых арганізацый «неадкладнай ліквідацыі разбазарвання і раскрадвання калгасных грамадскіх зямель, прывядзення размераў прысядзібных участкаў да статутных норм, устанаўлення найстражэйшага кантролю за недатыкальнасцю грамадскіх зямель калгаса, рашучага абуздання рвацкіх і спекулянцкіх элементаў у калгасах».

ЦК ВКП(б) і СНК СССР у гэтай сваёй пастанове папярэдзілі, што «усякая спроба ўрэзаць грамадскія землі калгаса ў карысць асабістай гаспадаркі калгаснікаў, а роўна ўсякае павелічэнне прысядзібных участкаў звыш размераў, прадугледжаных статутам сельгасарцелі, будуць разглядацца як крымінальнае злачынства, а вінаватыя будуць падлягаць прыцягненню да суда», што «сакратары райкомаў партыі і старшыні райвыканкомаў, а таксама іншыя партыйныя і савецкія работнікі, дапускаючыя разбазарванне грамадскіх калгасных зямель і павелічэнне размераў прысядзібных участкаў калгаснікаў звыш прадугледжаных статутам норм, будуць падлягаць зняццю з пастоў, выключэнню з партыі і аддачы пад суд, як парушальнікі закона».

Гэтым зноў падкрэсліваецца недатыкальнасць грамадскіх зямель калгасаў і адказнасць партыйных і савецкіх работнікаў за далейшае ўмацаванне калгаснага ладу.

Таварыш Сталін яшчэ ў 1933 г. сказаў:

> «Калгасны лад не змяншае, а павялічвае клопаты і адказнасць партыі і ўрада ў адносінах развіцця сельскай гаспадаркі. З гэтага следуе, што партыя, калі яна хоча кіраваць калгасным рухам, павінна ўваходзіць ва ўсе дэталі калгаснага жыцця і калгаснага кіраўніцтва. З гэтага следуе, што партыя павінна не змяншаць, а павялічваць сувязі з калгасамі, што яна павінна ведаць, што адбываецца ў калгасах, каб своечасова прыйсці на дапамогу і папярэдзіць пагражаючыя калгасам небяспекі».

Гэтых мудрых слоў правадыра мы ні ў якім разе не павінны забываць.

Рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб ссяленні хутарскіх гаспадарак мае велізарнае дзяржаўна-палітычнае значэнне, асабліва для Беларускай ССР, дзе сталыпінская зямельная палітыка царызма знайшла прадаўжальнікаў у асобе заклятых ворагаў соцыялізма і беларускага народа—контррэволюцыйных нацдэмаў, якія насаджалі хутарскія гаспадаркі і пасля Кастрычніцкай рэволюцыі, каб стварыць базу для сваёй варожай работы.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР ставіць перад намі канкрэтныя задачы: ліквідаваць к пэўнаму тэрміну хутарскія прысядзібныя ўчасткі калгаснікаў і ссяліць іх у адно месца, давесці размеры прысядзібных участкаў калгаснікаў да размераў, устаноўленых у п. 2 статута сельскагаспадарчай арцелі, із'яць з асабістага карыстання калгаснікаў і далучыць да грамадскіх зямлі, якія знаходзяцца ў калгасных палях па-за сядзібамі, абмежаваць размеры палявых зямель і прысядзібных участкаў аднаасобных гаспадарак і ссяліць к аднаму месцу аднаасобныя хутары. Усе гэтыя задачы накіраваны на ўмацаванне грамадскай соцыялістычнай уласнасці, на зжыццё ва-



рожых прыватна-ўласніцкіх буржуазных тэндэнцый, якія заносяць у калгасы рэшткі разбітага кулацтва.

Асноўная маса калгаснікаў зразумела, што калгасны шлях, шлях соцыялізма—адзіна правільны шлях для працоўных сялян. Яна бачыць у развіцці калгаснага ладу верны залог свайго шчасця, вызваленне ад праклятага мінулага і таму чэсна і добрасумленна працуе на грамадскай зямлі.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 27 мая з'яўляецца законам велізарнейшага значэння, магутнай асновай далейшага ўмацавання сельскагаспадарчай арцелі, росту прадукцыйнасці працы і заможнасці чэсных калгаснікаў. Мы павінны найлепшым чынам выканаць гэты закон, бо ён наносіць сакрушальны ўдар па рвачах і дэзарганізатарах вытворчасці, па прыватна-ўласніцкіх, антыкалгасных тэндэнцыях, па тых, хто злачынна-благадушна адносіцца да парушальнікаў Сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі.

Органамі пракуратуры БССР за апошні час ускрыты сур'ёзнейшыя скажэнні палітыкі партыі ў галіне калгаснага землекарыстання. Шматлікія факты злачыннага разбазарвання калгасных зямель у карысць асабістых гаспадарак калгаснікаў, факты процідзяржаўнай, процікалгаснай практыкі куплі-продажу і здачы ў арэнду прысядзібнай зямлі сведчаць аб тым, што многія кіраўнікі калгасаў, відаць, забыліся пра адзін з пунктаў Сталінскага статута, які гаворыць, што грамадская зямля «замацоўваецца за арцеллю навечна і не падлягае ні куплі-продажу, ні здачы арцеллю ў арэнду».

Для прыкладу прывядзем некаторыя факты.

Старшыня калгаса «Воля працы» Бягомльскага раёна Баран здаў у арэнднае карыстанне 69 га зямлі, за што прыцягнут да крымінальнай адказнасці і асуджан на 1½г. пазбаўлення волі.

У Рагачоўскім раёне старшыня калгаса «Авангард» Федаровіч адвёў з калгаснага масіва 2 га зямлі работнікам Ціхініцкай бальніцы і 10 га здаў у арэнду Ціхініцкаму спіртазаводу. Федаровіч прыцягнут да крымінальнай адказнасці.

У Свяцілавіцкім раёне старшыня калгаса «1 мая» Гулевіч раздаў калгасную зямлю розным асобам і прадпрыемствам: вінзаводу—2,31 га, ветфельчару Гейманаву—0,42 га, урачу Чорнабаеву—0,39 га, участковаму інспектару—0,38 га і т. д. Усяго Гулевіч разбазарыў 5,20 га калгаснай зямлі, за што прыцягнут да крымінальнай адказнасці.

Старшыня калгаса «Чырвоны будаўнік» Забалоцкага сельсовета Навіцкі дапусціў захват 63 калгаснікамі каля 13 га з грамадскіх зямель калгаса. Каб скрыць віноўнікаў самавольнага захвату, Навіцкі склаў спіс толькі на 2,78 га, захвачаных паасобнымі калгаснікамі. Навіцкі асуджан на 1½ г. пазбаўлення волі.

Праўленне калгаса «Большэвік» Уваравіцкага раёна 7 мая 1939 года здала ў арэнду розным арганізацыям 25 га калгаснай зямлі. Гомельскі пракурор апратэставаў дзеянні старшыні, і зямля звернута калгасу.

У Мазырскім раёне старшыня калгаса «1 мая» Точка дазволіў 9 рабочым і служачым Гулевіцкага лесазавода, не членам калгаса, пасадзіць на калгаснай зямлі бульбу. Точка аддан пад суд.

У калгасе «Чырвоны пуцілавец» Капыльскага раёна карысталіся прысядзібнымі ўчасткамі 22 чал., якія нічога агульнага не мелі з калгасам. У выніку ўмяшання пракуратуры зямля звернута калгасу.

Агульны сход калгаснікаў калгаса «Авангард» Гомельскага раёна 2 сакавіка 1939 года пастанавіў здаць у арэнду аднаасобнікам і рабочым участак сенакосу пад выпас жывёлы з аплатай ад 100 да 150 руб. за галаву. Выбраны для гэтага спецыяльны ўпаўнаважаны Сапрыка, якому даручана было набраць 175 кароў, к моманту ўстанаўлення пракуратурай гэтага факта паспеў сабраць за пашу 12.220 рублёў.

Даволі часты факты, калі кіруючыя работнікі сельсоветаў і нават раённыя работнікі не толькі «злачынна-благадушна адносяцца да пранікнення ў калгасы варожых калгаснаму ладу прыватна-ўласніцкіх, буржуазных тэндэнцый, але і самі пратаскваюць гэтыя тэндэнцыі ў калгасы».

У Гомельскім раёне старшыня Давыдоўскага сельсовета Філімонаў, старшыня Улукаўскага сельсовета Лаптухоў і сакратар гэтага-ж сельсовета Казлоў не толькі карысталіся павялічанымі прысядзібнымі ўчасткамі, але, акрамя таго, самавольна захвацілі і засеялі: Філімонаў у калгасе імені М. Горкага—0,30 га, Лаптухоў у калгасе «Чырвоная воля»—0,47 га і Казлоў у калгасе «Чырвоная воля»—0,27 га.

У Буда-Кашалёўскім раёне Рагінскага сельсовета ў калгасе «Улада Советаў» група аднаасобнікаў, у тым ліку і кулак Чарнякоў, які звярнуўся з ссылкі, у маі месяцы самавольна захваціла некалькі га калгаснай зямлі. Калгас склаў аб гэтым акт і перадаў Рагінскаму сельсовету. Старшыня сельсовета Бліноў, замест таго каб спыніць самавольныя захваты калгаснай зямлі, прапанаваў старшыні калгаса Рыбакову пакінуць у карыстанні Чарнякова захвачаны ім прысядзібны ўчастак. Пракуратурай вінаватыя прыцягваюцца да адказнасці.

Асабліва праявіў сябе ў гэтых адносінах Чачэрскі раён. Старшыня райвыканкома Ганжын, карыстаючыся сваім службовым становішчам, у маі месяцы засеяў для асабістага карыстання ў калгасе «Сталінец» 0,58 га з калгаснага масіва.

Следуючы прыкладу старшыні, намеснік райза Маркаў засеяў для асабістага карыстання ў калгасе «Чырвоны араты» 0,41 га зямлі і 0,10 га на сядзібе МТС.

Старшыня калгаса імя XVI з'езда партыі Ігнаценка сістэматычна займаўся разбазарваннем калгаснай зямлі. Дырэктару Чачэрскага банка Перавознікаву ён дазволіў засеяць для асабістага карыстання 0,70 га зямлі, начальніку лесгаса Шлыкову—0,50 га, касіру лесгаса—0,50 га і старшыні Аторскага сельсовета Пацееву—0,30 га. Акрамя таго, Пацееў захваціў яшчэ 0,8 га ў калгасе «Чырвоны бор» і 0,15 на школьным участку.

Пры патуранні раённых арганізацый на 1 чэрвеня па Чачэрскаму раёну захвачана аднаасобнікамі і калгаснікамі каля 100 га калгаснай зямлі. Старшыня райвыканкома, заг. райза і іншыя віноўнікі захвату калгаснай зямлі прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

5 мая г.г. прэзідыум Уваравіцкага райвыканкома із'яў у калгасе імені Куйбышэва 5 га зямлі і перадаў Рудзенскаму сельсовету для надзялення прысядзібнымі ўчасткамі рабочых і служачых ст. Уза. Гэта пастанова, скажаючая палітыку партыі і ўрада ў калгасным будаўніцтве, пракуратурай была апратэставана.

У пастанове майскага пленума ЦК ВКП(б) аб такіх гора-кіраўніках сказана:

«Замест таго, каб стаяць на варце грамадскай гаспадаркі

калгаса і аграджаць асноўную крыніцу сілы і моцнасці калгаснага ладу—грамадскую зямлю калгаса—ад пасяганняў прыватнаўласніцкіх элементаў, мясцовыя партыйныя і совецкія кіраўнікі прадаставілі вырашэнне важнейшых пытанняў калгаснага жыцця самацёку і нярэдка, ідучы на паваду рвацкіх элементаў з калгаснікаў, бралі на сябе ініцыятыву нарушэння статута сельгасарцелі».

У радзе раёнаў калгаснікі да гэтага часу карыстаюцца прысядзібнымі ўчасткамі звыш устаноўленай статутам нормы. Кіраўнікі гэтых раёнаў, відаць, не зразумелі, што галоўнае ў калгасе—гэта арцельная соцыялістычная гаспадарка, ад умацавання якой залежыць магутнасць усёй арцелі і добрабыт кожнага яе члена.

Пры іх патуранні калгаснікі імкнуліся пашырыць свае прысядзібныя ўчасткі за лік грамадскіх.

У калгасе імені Будзённага Лельчыцкага раёна прысядзібнымі ўчасткамі звыш нормы карысталіся калгаснікі: Лінкевіч Г. С.—2 га, Грудзько—0,99 га, Лісіцкі—1,33 га, Рудніцкі—2,02 га, Флёрка—1,47 га; Мажарскі—1,92 га.

У калгасе «Чырвоная зорка» Капаткевіцкага раёна многія калгаснікі маюць павялічаныя ўчасткі: Цырко мае прысядзібны ўчастак у 0,70 га, Грамовіч Л. П.—0,70 га, Грамовіч І. А.—0,70 га, Бандарчык—0,80 га і т. д. У гэтым-жа калгасе пракуратурай выяўлена, што Грамовіч С. М. мае 2 прысядзібныя ўчасткі: у 0,60 і 0,33 га, атрыманыя ў 1933 г. пад выглядам раздзелу маемасці на імя Грамовіча С. М. і яго сына Грамовіча І. С., якія жывуць увесь час разам з бацькам у адным будынку.

У калгасе імені Чапаева Капаткевіцкага раёна калгаснік Бічан засеяў прысядзібны ўчастак у размеры 0,65 га, Герасіменка—1,05 га, Валаткоўскі—0,70 га, Січай—0,85 га. У гэтым калгасе ёсць факты карыстання падвойнымі прысядзібнымі ўчасткамі. Пры непадзеленай гаспадарцы, пражываючы ў адной хаце з бацькам, Січай І. І. мае прысядзібны ўчастак у размеры 0,32 га і Січай І. П.—0,38 га.

У калгасе «Чырвоныя ляды» Лельчыцкага сельсовета калгаснік Варановіч Д. І. карыстаўся прысядзібным участкам у 0,79 га, Ляшчынскі А. Г.—1,03 га, Журовіч—1,04 га. У гэтым-жа калгасе 26 чалавек незаконна карысталіся прысядзібнымі ўчасткамі ў размеры ад 0,68 да 1,08 га.

Праўленне калгаса імені Куйбышэва Віцебскага раёна 19 красавіка г.г. вынесла рашэнне, на падставе якога прысядзібныя ўчасткі калгаснікаў былі абрэзаны па наступнаму прынцыпу: калгасніку, які выпрацаваў да 50 працадзён, пакінулі прысядзібны ўчастак у размеры 0,25 га, да 100 працадзён—0,30, да 150—0,35, да 200—0,40 га і звыш 200 працадзён—0,50 га. Кіраўнікі гэтага калгаса, відаць, зусім забылі аб існаванні статута сельскагаспадарчай арцелі, які яны абавязаны праводзіць у жыццё.

Старшыня калгаса імені Энгельса Жлобінскага раёна Сімончык Фёдар дазволіў засеяць 5,60 га зямлі з калгаснага масіва аднаасобніку Клецкаму. Сімончык аддан пад суд па арт. 196—1 КК.

Старшыня калгаса «Чырвоная ніва» Церахаўскага раёна Крывашэеў вясной гэтага года прырэзаў 11 калгасным сем'ям прысядзібныя ўчасткі ў размеры ад 0,5 га да 0,15 га. Крывашэеў аддан пад суд па арт. 196—1 КК.

Старшыня калгаса «Чырвоны Добрыч» Кармянскага раёна Караткевіч захваціў 0,16 га з грамадскай зямлі сам, і многія калгаснікі паследавалі яго прыкладу.

Старшыня калгаса «15-годдзе» Санатаў вясной гэтага года захваціў і перадаў сваёй цешчы, якая знаходзіцца на яго ўтрыманні і жыве разам з ім, 0,35 га зямлі з калгаснага масіва. Санатаў аддан пад суд.

У калгасе «Пролетарская перамога» Барысаўскага раёна 74 калгаснікі самавольна засеялі для сябе калгасную зямлю звыш пасеваў на прысядзібных участках.

У калгасе «Зара свабоды» Капыльскага раёна 55 калгаснікаў павялічылі свае прысядзібныя ўчасткі за лік калгасных зямель. Зямля звернута калгасу.

Ёсць выпадкі павелічэння прысядзібных участкаў і пасля пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР.

У калгасе імені VII з'езда Советаў Капыльскага раёна калгаснік Мысліцкі зрабіў фіктыўны раздзел з сынам. Землямер Саўчык, ведаючы аб фіктыўным раздзеле, надзяліў Мысліцкага другім прысядзібным участкам без дазволу праўлення калгаса. Пракуратурай землямер Саўчык прыцягваецца да адказнасці.

Прыведзеныя факты паказваюць, як незаконна расшыраліся нормы прысядзібнай зямлі, а ўсякае раздуванне асабістай гаспадаркі немінуча вяло да таго, што такія калгаснікі працавалі ў калгасе толькі для відочнасці, а то і зусім не працавалі, выкарыстоўваючы сваё прабыванне ў калгасе для асабістай нажывы і разам з тым падрываючы працоўную дысцыпліну, перашкаджаючы развіццю калгасаў.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР аказала ўжо сваё ўздзеянне на частку ілжэ-калгаснікаў. Рады чэсных тружанікаў, актыўных і свядомых калгаснікаў растуць.

У калгасе імя Варашылава Менскага раёна ілжэ-калгаснікамі былі: Андарала Ю., які ў 1938 г. не меў ні аднаго працадня, Карачун М., якая 10 год лічылася калгасніцай і не працавала, Ламака і інш. Цяпер яны акуратна выходзяць на работу.

У калгасе імені Кастрычніцкай рэволюцыі Пратаповец С. Ф., Крыцкая Н., Шаснец Е., Лашыцкі М., Міхалевіч В. не мелі ў 1938 годзе ні аднаго працадня, а зараз усе яны працуюць акуратна.

У калгасе «Чырвоны ўдарнік» Добрушскага раёна да пастановы выходзіла на работу 120 чал., а зараз—290.

Нярэдка здаралася, што аднаасобнікі ўмудраліся засяваць калгасную зямлю.

У Лепельскім раёне аднаасобнік Гаўрыленка захваціў 0,03 га зямлі ў калгаса «Рабочы шлях». Нарсуд прысудзіў Гаўрыленка да грашовага штрафу.

Аднаасобнік Купрык, які пражывае на тэрыторыі калгаса «Шлях соцыялізма» Горацкага раёна, Руткоўскага сельсовета, захваціў у калгасе 3,27 га зямлі і засеяў яе.

На зямлі калгаса «Лясны шлях» Бялыніцкага раёна аднаасобнік Хадоркін засеяў 1,25 га. Старшыня калгаса Усаў, ведаючы аб гэтым, ніякіх мер да захватчыкаў не прыняў.

Захват зямлі аднаасобнікамі меў месца і ў іншых калгасах. Усе вінаватыя ў захваце калгаснай зямлі прыцягнуты пракуратурай да крымінальнай адказнасці.

У калгасе «Чырвонае сяло» Капаткевіцкага раёна калгаснікі перадавалі свае прысядзібныя ўчасткі пабочным асобам.

Калгаснік Сеўчук аддаў 0,20 га з свайго прысядзібнага ўчастка бухгалтару банка Агейчыку за тое, што той здаў за яго абавязковыя пастаўкі мяса дзяржаве. Калгаснік Еромін аддаў гр. Агейчыку, выключанаму ў 1939 г. з калгаса, 0,10 га прысядзібнай зямлі, а калгасніца Івашына Марыя аддала яму-ж 0,15 га. Калгаснік Ценько з свайго прысядзібнага ўчастка здаў у арэнду аднаасобніку Царыну 0,20 га. Калгаснік Хартаноўскі аддаў загатаўцелю Гарэліку 0,15 га. Калгас «Чырвонае сяло» знаходзіцца ў раённым цэнтры—м. Капаткевічы, але раённыя арганізацыі своечасова на гэтыя факты не рэагавалі. Усе вінаватыя прыцягваюцца пракуратурай да адказнасці.

У калгасе «Прагрэс» калгасніца Жукевіч, якая адначасова працуе тэлефаністкай Сіманіцкага паштовага аддзялення Палескай вобласці, аддала свой прысядзібны ўчастак начальніку пошты Хільчанка, ветфельчару Некрашэвічу і загатаўцелю Белашыцкаму.

Адной з важнейшых задач з'яўляецца зараз ссяленне ў калгасныя цэнтры хутарскіх гаспадарак, якія сталі перашкодай у далейшым развіцці калгаснага руху. Правільная арганізацыя калгаснай вытворчасці патрабуе знішчэння хутарскога рассялення.

Калгаснікі Беларусі дружна адгукнуліся на заклік партыі і ўрада ссяліцца з хутароў у калгасныя цэнтры. Кожны дзень тысячы хутаран-калгаснікаў пераносяць свае гаспадаркі ў калгасныя паселішчы. На 1 ліпеня сселена ўжо 103 555 хутароў калгаснікаў і аднаасобнікаў. На 25 чэрвеня план быў перавыканан на 5 тысяч двароў.

Аднак, ёсць яшчэ людзі, якія гэта мерапрыемства совецкай улады імкнуцца выкарыстаць для ўмацавання свайго асабістага добрабыту.

Так, калгаснік Чэрыкаўскага раёна Ушакоўскага сельсовета Камароў, атрымаўшы восенню 1938 г. 500 руб. крэдыту на перасяленне з хутара, выкарыстаў іх на асабістыя патрэбы, абмануўшы такім чынам і дзяржаву і калгас. Камароў аддан пад суд і асуджан.

У Мсціслаўскім раёне калгаснік Астапенка С. атрымаў таксама 500 руб. крэдыту на перасяленне з хутара. На гэтыя грошы Астапенка выкапаў на сваім хутары калодзеж і купіў цёлку. Астапенка таксама аддан пад суд.

У калгасе «Звязда» Капыльскага раёна праўленне выдала 5 калгаснікам па тысячы рублёў крэдыту быццам для пераноскі дамоў з хутароў, тады як гэтыя калгаснікі на самай справе пражывалі ў калгасным цэнтры і за атрыманы крэдыт збудавалі сабе новыя дамы. Незаконна атрыманыя крэдыты былі датэрмінова спагнаны.

Ёсць паасобныя факты, калі кіраўнікі калгаса адмаўляюць калгаснікам у просьбе аб перасяленні. Так, напрыклад, праўленне калгаса «Комінтэрн» Віцебскага раёна пастановай ад 27 мая 1939 года адмовіла ў просьбе калгасніцы Самахвалавай аб перасяленні яе з хутара ў цэнтр калгаса. Падобная антыкалгасная практыка выклікае законнае нездаволенне чэсных калгаснікаў.

Нельга не адзначыць, што органы суда і пракуратуры не заўсёды своечасова рэагуюць на сігналы аб захватах і разбазарванні зямлі, матэрыялы залежваюцца месяцамі (Капаткевіцкі, Чэрвеньскі, Плешчаніцкі і інш. раёны). Больш таго, ёсць выпадкі, калі судовыя работнікі сваімі няправільнымі прыгаворамі і рашэннямі патураюць захватчыкам зямлі, парушальнікам статута сельскагаспадарчай арцелі.

Народны суддзя Плешчаніцкага раёна Прысмакаў у сакавіку г.г., разглядаючы справу па абвінавачанню старшыні калгаса Кручынскага ў незаконным продажу розным арганізацыям звыш 70 га сенакоса, вынес яму апраўдальны прыгавор, матывіруючы тым, што «шкодных вынікаў ад дзеянняў падсуднага не паследавала».

Народны суддзя Жлобінскага раёна Валынкін адмовіў калгасу «Ударнік» у іску да грамадзяніна Войстрага аб звароце ўраджаю з захвачанай ім калгаснай зямлі на той падставе, што Войстры нібыта не ведаў, што зямля калгасная.

Аналагічнае рашэнне па іску калгаса імені Дзержынскага Менскага раёна да грамадзян Макарэвіча і Дэмбіцкага аб звароце ўраджаю з самавольна захвачанай імі калгаснай зямлі вынес нарсуд 4 участка Менскага раёна (нарсуддзя Савасценка). У аснову рашэння суд паклаў галаслоўную заяву захватчыкаў, што зямля невядома чыя, хоць сельсовет пацвердзіў, што зямля калгасная.

Калгас імені Кагановіча Жлобінскага раёна звярнуўся ў суд з іскам аб перадачы яму ўраджаю бульбы, самавольна засеянай на 0,11 га калгаснай зямлі грамадзянінам Зайцавым, рабочым чыгункі. Суд разгледзеў справу ў адсутнасці прадстаўніка калгаса. Гэта выкарыстаў Зайцаў і заявіў, што яму дазволіў сеяць старшыня калгаса. Суддзя Валынкін адмовіў у іску калгасу, забыўшы, што такое рашэнне незаконна, нават у выпадку, калі-б словы Зайцава пацвердзіліся.

Ясна, што такія прыгаворы і рашэнні не забяспечваюць рашучай барацьбы з разбазарваннем зямлі.

Трэба рашуча пакончыць з такім становішчам, калі органы суда і пракуратура не рэагуюць на факты разбазарвання зямлі. Органы пракуратуры на месцах павінны весці бязлітасную барацьбу з усімі парушальнікамі совецкіх законаў і статута сельскагаспадарчай арцелі, прымаючы рашучыя і неадкладныя меры для ліквідацыі працікалгаснай і працідзяржаўнай практыкі ў галіне калгаснага землекарыстання. Органы пракуратуры абавязаны ўстанавіць сістэматычны і неаслабны нагляд за выкананнем усіх пунктаў пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР.

Толькі ў рашучай барацьбе з малейшымі парушэннямі Сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, у барацьбе супроць буржуазных тэндэнцый будзе яшчэ больш умацоўвацца калгасны лад і паляпшацца добрабыт калгаснікаў.

---



С. Гурэвіч

Сакратар Сталінскага РК КП(б)Б.

# Нястомна ўмацоўваць абаронную магутнасць нашай краіны

У гістарычным дакладзе на XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін паставіў перад намі, як адну з галоўных, задачу ўмацавання абароннай магутнасці нашай краіны.

Наша партыя, совецкі ўрад і асабіста таварыш Сталін заўсёды ўдзялялі і ўдзяляюць асаблівую ўвагу гэтаму пытанню. У сваім адказе на пісьмо прапагандыста тав. Іванова таварыш Сталін заваастрыў увагу на небяспеку ваеннага нападу капіталістычных дзяржаў:

> «На самай справе было-б смешна і глупа закрываць вочы на факт капіталістычнага акружэння і думаць, што нашы знешнія ворагі, напрыклад, фашысты не паспрабуюць пры выпадку зрабіць на СССР ваенны напад. Так могуць думаць толькі сляпыя бахвалы або скрытыя ворагі, якія жадаюць усыпіць народ».

Таварыш Сталін вучыць, што трэба

> «увесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку».

Мудрыя ўказанні правадыра мабілізуюць нас на рашучае і смелае разгортванне масавай абароннай работы. Яны ўнеслі велізарнае ажыўленне ў работу партыйных і абаронных грамадскіх арганізацый, выклікалі ў працоўных нашага раёна вялікі інтарэс да вывучэння ваеннай справы.

Партыйныя арганізацыі нашага раёна ўзмацнілі ўвагу масаваабароннай рабоце на прадпрыемствах і ва ўстановах.

Пасля рашэнняў XVIII з'езда партыі пытанні абаронна-масавай работы абмяркоўваліся на сходах пярвічных партарганізацый, на пасяджэннях бюро раённага камітэта партыі, і гэта дало станоўчыя вынікі.

Усё больш і больш узрастае роля добраахвотных абаронных арганізацый. У радах раённай асоавіяхімаўскай арганізацыі налічваецца 9.700 членаў, у тым ліку 3.090 жанчын. Усе яны аб'яднаны ў 148 пярвічных арганізацый. У гэтым годзе створана 13 пярвічных арганізацый і прынята ў члены Асоавіяхіма 1180 чал.

Лепшыя паказчыкі ў разгортванні асоавіяхімаўскай работы даюць станкабудаўнічыя заводы імені Кірава, імені Варашылава і скурзавод «Большэвік». Наглядаецца ажыўленне абаронна-масавай работы на галантарэйнай фабрыцы імені Фрунзе і іншых прадпрыемствах і ўстановах раёна. Рабочыя, інжынеры, тэхнікі, навуковыя работнікі, урачы праяўляюць гарачы інтарэс да гэтай справы.

Заслугоўвае ўвагі вопыт партыйнага кіраўніцтва масава-абароннай работай на заводзе імені Кірава (сакратар партбюро тав. Мілаў). З усяго заводскага калектыва ў 971 чал. членамі Асоавіяхіма з'яўляюцца 530 чал. З 98 комуністаў членамі Асоавіяхіма з'яўляецца 60 чал., з 160-ці комсамольцаў—132 чал.

На заводзе быў праведзен спецыяльны партсход і дэкада абароны, у парадку падрыхтоўкі да якой было створана 20 розных відаў абаронных гурткоў з ахватам 365 чал. Сярод іх: 10 гурткоў ПВХО на 160 чал., 6 стралковых на 56, гурток гранатамётчыкаў на 35 чал., кулямётчыкаў на 25 чал. Зараз арганізуецца гурток штыкавога бою. Падрыхтавана значкістаў ВС I ступені 160 чалавек. Праведзена значная работа па падрыхтоўцы дапрызыўнікаў 1939 г. Вучэбны пункт пры заводзе абучыў 31 дапрызыўніка з 40.

На заводзе імені Варашылава—440 членаў Асоавіяхіма. У гонар склікання XVIII з'езда партыі было разгорнута спаборніцтва ў абароннай рабоце. К 1 мая падрыхтавана 450 значкістаў ПВХО—I ступені, значкістаў АСО—65, здаўшых нормы на «Варашылаўскага стралка»—20 чал. У час работы XVIII партз'езда 20 актывістаў абароннай работы адпрацавалі 7 гадзін у процівагазах. У аўтагуртку займаецца 30 чал., у аэраклубе 16. Для здачы норм на ГТО правялі пераход у проціпрытных касцюмах і процівагазах па маршруту Менск—Астрашыцкі гарадок, за што 19 чал. узнагароджаны значкамі «Актывіст Асоавіяхіма СССР». Партыйная і комсамольская арганізацыі вялікую работу праводзяць у клубе, дзе ёсць абаронны пакой і літаратура. Два разы ў месяц у клубе праводзяцца даклады на абаронныя тэмы, дэманструюцца абаронныя кінофільмы. У 1939 годзе па заводу праведзены два абаронныя дэкаднікі і адзін абаронны вечар у клубе. На вечары ўдзельнічала 600 чалавек рабочых, служачых завода і членаў іх сямей.

На заводзе «Большэвік» з працуючых 970 чал.—членаў Асоавіяхіма 480. Са 110 комуністаў 90 з'яўляюцца членамі Асоавіяхіма. З 60 комсамольцаў—47—асоавіяхімаўцы. На заводзе працуе стралковы гурток і 3 гурткі ПВХО. Усе здалі нормы на значок ПВХО—I ступені 200 і II ступені—4 чалавекі. Варашылаўскіх стралкоў I ступені налічваецца 20 чалавек.

Партбюро праводзіць рад мер для палепшання абаронна-масавай работы на прадпрыемстве. 6 ліпеня, у выходны дзень быў праведзен раённы ваенізаваны паход-масоўка ў процівагазах на 6 кілометраў. У паходзе прынялі ўдзел звыш 1000 асоавіяхімаўцаў як з завода, так і з садружаственнай ваеннай часці. Байцы і камандзіры прадэманстравалі на масоўцы штыкавы бой, гранатамятанне, джыгітоўку і т. д. У завяршэнне асоавіяхімаўцы разам з байцамі праслухалі даклад аб міжнародным становішчы і канцэрт гуртка мастацкай самадзейнасці ваеннай часці.

Станоўчых прыкладаў масава-абароннай работы ў нашым раёне не мала. Але трэба спыніцца і на недахопах партыйнага кіраўніцтва гэтым участкам. Асабліва ганебна для нас, што ваенны аддзел райкома

партыі яшчэ не ўкамплектован поўнасцю кадрамі. Адсюль і слабае кіраўніцтва. З 2925 комуністаў раёна членамі Асоавіяхіма з'яўляюцца толькі 1.510 чал., і з 6068 комсамольцаў—1.900 чал. За што гаворыць той факт, што сярод 420 варашылаўскіх стралкоў першай ступені, падрыхтаваных у 1938 годзе, комуністаў—толькі 16 і комсамольцаў—32, з 645 варашылаўскіх стралкоў, падрыхтаваных у 1939 годзе, толькі 54 комуністы і 187 комсамольцаў. Сведчыць гэта аб тым, што многія комуністы і комсамольцы, якія павінны быць застрэльшчыкамі ў абаронна-ваеннай рабоце, не толькі не знаёмы з сучаснай ваеннай тэхнікай, але нават не ўмеюць страляць. Вінаваты ў гэтым, бясспрэчна, пярвічныя партыйныя арганізацыі і ў першую чаргу райком партыі. Хіба можа быць цярпіма, што на фабрыцы «Комунарка» са 100 з лішнім комуністаў толькі 18 членаў Асоавіяхіма, на швейнай фабрыцы імені Крупскай з 200 комсамольцаў толькі 38 асоавіяхімаўцаў і ў менскім горсовеце з 38 комуністаў толькі 5 членаў асоавіяхіма? Факты гавораць аб тым, што паасобныя пярвічныя партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі несур'ёзна адносяцца да абароннай работы. Гэтаму трэба пакласці канец.

Выконваючы ўказанні тав. Сталіна, ажыццяўляючы рашэнні XVIII з'езда партыі, кожны комуніст і комсамолец павінен перш за ўсё сам авалодаць якой-небудзь спецыяльнасцю. Ён абавязан метка страляць, ведаць асновы проціпаветранай і санітарнай абароны, весці ўпартую работу па ўцягненню працоўных у члены Асоавіяхіма і іншых абаронных арганізацый.

Вельмі дрэнна яшчэ працуюць нашы пярвічныя асоавіяхімаўскія арганізацыі і райсовет Асоавіяхіма. Гарадскі і абласны советы толькі рэгіструюць факты па дакладных зводках і інфармацыях, седзячы у сваіх кабінетах, але жывой справай, аперацыйнай дапамогаю нізавым арганізацыям Асоавіяхіма не цікавяцца. Трэба прама сказаць, што большэвіцкі парадак у асоавіяхімаўскіх арганізацыях яшчэ не наведзен. Над гэтым прыдзецца моцна папрацаваць пярвічным партарганізацыям, ваеннаму аддзелу і Бюро райкома партыі.

Народны Камісар абароны маршал Совецкага Саюза тав. Варашылаў, выступаючы на XVIII з'ездзе партыі, сказаў:

> «Мы можам і абавязаны ў бліжэйшы час зрабіць усё для таго, каб Асоавіяхім сістэмай сваіх арганізацый ахапіў усе фабрыкі і заводы, прадпрыемствы, установы, навучальныя ўстановы і калгасы. Трэба паставіць справу так, каб работа Асоавіяхіма па сутнасці стала грамадска-масавай работай, каб усякі член таварыства бачыў карыснасць і неабходнасць той справы, якой Асоавіяхім займаецца».

Гэта ўказанне наркома, Асоавіяхім павінен выканаць з гонарам. Сталінскі райком партыі намеціў адпаведныя мерапрыемствы. Але трэба сказаць, што рад арганізацый сваёй бяздзейнасцю тармозіць разгортванне ваенна-абароннай работы ў Менску. У горадзе няма амаль ні аднаго стралковага ціра, куды можна было-б штодня зайсці, каб папрактыкавацца ў стральбе. Маса людзей наведвае кожны дзень парк імені Горкага. Але два ціры, якія знаходзяцца ў парку, не спраўляюцца са сваёй работай і не могуць абслужыць усіх жадаючых трэніравацца. Усё гэта нікольні не турбуе ні райсовет, ні старшыню Горсовета Асоавіяхіма тав. Матусевіча. Ёсць рашэнне пабудаваць цір у кожным раёне Менска, але ніхто аб гэтым не клапоціцца. Здава-

лася-б, што оргкамітэты Горсовета павінны былі прыняць пасільны ўдзел у гэтай справе. Але калі в. а. старшыні горсовета тав. Герчыкаву паказалі, у якім становішчы знаходзіцца гарадскі цір, то ён не знайшоў нічога лепшага, як сказаць: «І гэты трэба закрыць, бо яму тут не месца». Зразумела, закрыць цір,—сіе ад Герчыкава не залежыць, а вось пабудаваць новы, што, нажаль, залежыць ад яго, то аб гэтым ён мала дбае. Здзіўляе неўмяшанне гаркома партыі. Відаць, вышэйстаячым арганізацыям прыдзецца каго след прымусіць працаваць і не тармазіць разгортванне ваенна-абароннай работы ў горадзе.

Асабліва многа трэба зрабіць нашым партыйным арганізацыям для ўзмацнення проціпаветранай абароны і падрыхтоўкі насельніцтва да проціпаветранай і проціхімічнай абароны. А гэта работа ў нас усё яшчэ не на вышыні.

Да апошняга часу нашы асоавіяхімаўскія арганізацыі стваралі гурткі па падрыхтоўцы значкістаў ПВХО, рыхтавалі інструктароў і зусім не ўдзялялі ўвагі стварэнню груп самаабароны і спецыяльных фарміраванняў ПВХО на заводах, фабрыках, ва ўстановах, домаўпраўленнях. Гэты асноўны недахоп неабходна рашуча ліквідаваць, памятаючы, што групы самаабароны ў час паветранага нападу павінны адыграць вялікую ролю ў справе эвакуацыі раненых і атручаных, у дэгазацыі заражаных участкаў, барацьбе з пажарамі і т. д.

Таварыш Варашылаў на XVIII з'ездзе партыі сказаў:

> «Мы не можам, не маем права адставаць у справе арганізацыі нашага насельніцтва ў мэтах абароны нашых гарадоў, фабрык, заводаў і калгасаў, жыцця і здабытку народа ад магчымых нападаў ворагаў».

Нам неабходна дасканала арганізаваная штодзенная падрыхтоўка тылу нашай вялікай краіны і ўсяго насельніцтва да адпору варожага нападу.

Райком і пярвічныя партарганізацыі прымаюць зараз усе захады, каб навучыць працоўных карыстацца проціваагазамі, стварыць у домаўпраўленнях, установах і на прадпрыемствах группы самаабароны, каманды МПВО, новыя асоавіяхімаўскія арганізацыі і павялічыць колькасць іх членаў.

Вялікае значэнне мае работа РОКК («Чырвонага крыжа»). У нашым раёне есць 57 пярвічных арганізацый РОКК, якія яднаюць 3262 членаў. Але іх работа амаль не адчуваецца. Пярвічным партыйным арганізацыям і райкому партыі трэба ўдзяліць большую ўвагу ўмацаванню работы РОКК.

Нельга ўмаўчаць і аб неад'емнай частцы абароннай работы—аб фізкультуры.

Указанне ЦК ВКП(б) і спецыяльнае рашэнне ЦК КП(б)Б яшчэ поўнасцю ў жыццё не праводзяцца. Пярвічныя партыйныя арганізацыі, райкомы партыі і комсамола забываюць пра неабходнасць разгортваць і ўмацоўваць масавую фізкультурную работу. Усё яшчэ слаба развіты ў нас такія віды спорту, як гранатамятанне, штыкавы бой, гімнастыка, зусім нездавальняюча праходзіць здача норм на значок ГТО I і II ступеней.

Партыйныя і комсамольскія арганізацыі павінны неадкладна правесці рад мерапрыемстваў для ўздыму фізкультурнай і спартыўнай работы, унесці ў яе больш арганізаванасці і планавасці, максімальна



ўцягваючы рабочыя масы ў фізкультурны рух. Фізкультурныя арганізацыі абавязаны ўсямерна развіць розныя абаронныя віды спорту і, перш за ўсё гімнастыку, стралковы спорт, аўтамотаспорт цяжкую атлетыку, гранатамятанне.

Вялікую ўвагу трэба ўдзяліць прызыву 1918—1919 годаў нараджэння, каб даць нашай доблеснай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскому Флоту выдатнае папаўненне.

Нельга не сказаць і аб тым, што наш друк мала месца адводзіць пытанням умацавання абароны краіны. Насценныя, шматтыражныя і рэспубліканскія газеты абавязаны перадаваць лепшы вопыт абароннай работы, папулярызаваць яе актывістаў, сістэматычна прапагандуючы рашэнні XVIII з'езда партыі, трэцяй сесіі Вярхоўнага Совета СССР і ўказанні таварыша Сталіна аб умацаванні магутнасці нашай краіны.

Абаронная работа—кроўная справа нашай партыі. Кожная партыйная і комсамольская арганізацыя, кожны комуніст і комсамолец абавязаны практычна дапамагаць абаронным арганізацыям, кіраваць іх работай сістэматычна, штодзённа, канкрэтна.

Стварэнне ў райкомах партыі ваенных аддзелаў забяспечвае магчымасць добра паставіць абаронную работу. Трэба толькі добра працаваць.

Настойліва змагаючыся за ажыццяўленне рашэнняў XVIII з'езда ВКП(б), большэвікі Сталінскага раёна здолеюць добра паставіць абаронную работу і разам з астатнімі раёнамі горада зрабіць увесь горад, кожную фабрыку, кожны завод, непрыступнай крэпасцю.

Ю. Балбатун

# Як я вывучаю гісторыю ВКП(б)

Знаходзячыся ў радах большэвіцкай партыі з 1918 г., я сістэматычна працаваў над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню, імкнуўся авалодаць марксісцка-ленінскай тэорыяй, каб на практычнай рабоце працаваць так, як гэтаму вучаць правадыры нашай партыі Ленін і Сталін.

У мінулым, да рэволюцыі, мне, як і многім іншым, не пашчасліваіла атрымаць асвету. Тады я скончыў 4-класнае народнае вучылішча. Толькі пры совецкай уладзе я атрымаў магчымасць павышаць свае веды. Асабліва многаму навучыла мяне Чырвоная Армія, дзе я некалькі год служыў. Там у мяне прывілася звычка сістэматычна працаваць над кнігай, чытаць газеты, журналы, партыйную і мастацкую літаратуру.

Гісторыю ВКП(б) я вывучаю даўно. Спачатку ў гуртку, потым на 6-месячных курсах партактыва пры ЦК КП(б)Б, якія закончыў у 1931 г., потым зноў у гуртку. Аднак, гуртковая работа дала параўнаўча мала: мае веды, не падмацаваныя вывучэннем першакрыніц, былі павярхоўнымі. Толькі пасля выхаду ў свет «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» пачаў глыбока працаваць над сабой. Я парашыў вывучыць гісторыю партыі самастойна, як гэта рэкамендуе пастанова ЦК ВКП(б) аб пастаноўцы партыйнай прапаганды.

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» я пачаў чытаць яшчэ ў газетах, і з вялікай нецярплівасцю чакаў паяўлення ў свет падручніка. Гэта было маё першае знаёмства з гэтай багацейшай скарбніцай марксізма-ленінізма.

Цяпер я ўжо поўнасцю вывучыў 3 раздзелы падручніка, законспектаваў іх і прыступіў да вывучэння 4 раздзела.

Я працую сакратаром партарганізацыі месцсовета і з'яўляюся дырэктарам Чырвонапольскага ільнозавода. Не магу пахваліцца, што маю многа вольнага часу, але для вучобы знаходжу адну-дзве гадзіны ў дзень. Для работы над кнігай заўсёды можна знайсці час, трэба толькі правільна і разумна пабудаваць свой рабочы дзень.

Як я працую над вывучэннем гісторыі ВКП(б)?

Перш за ўсё я ўважліва прачытваю ўвесь раздзел, часам па некалькі раз, раблю паметкі і потым, калі ў мяне складваецца цэльнае ўяўленне аб прачытаным, прыступаю да азнаямлення з першакрыніцамі. Запіс матэрыялаў перадаю коратка сваімі словамі ў форме канспекта, што прымушае лепш прадумаць і засвоіць прачытанае. Нярэдка я заношу ў свой канспект асноўную мысль аўтара ў яго фармуліроўцы. Гэта не проста механічнае спісванне, а вынік лагічнай работы над тэк-

стам. Ясныя і чоткія фармуліроўкі асноўных палажэнняў аўтара няма патрэбы выкладаць сваімі словамі, асабліва пры рабоце над творамі Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

З першакрыніц да першага раздзела «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» я прачытаў твор Леніна «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваюють супроць социял-дэмакратаў».

У гэтым творы Владзімір Ільіч дае адказ на рад артыкулаў, змешчаных народнікамі ў журнале «Русское богатство». Лідэрамі народнікаў 90-х годаў былі: Міхайлоўскі, Южакоў, В. Варанцоў і інш. На старонках свайго журнала народнікі нападалі на марксістаў, абвінавачваючы іх у пасобніцтве капіталізму. Марксісты, па іх думцы, падзяляліся на пасіўных, поўактыўных і актыўных: першыя пасіўна наглядалі за развіццём капіталізма, другія дапамагалі яму пасіўна, а трэція з'яўляліся яго прамымі абаронцамі. Сябе-ж народнікі лічылі сапраўднымі прыяцелямі народа. Ленін да канца выкрыў гэтых «прыяцеляў народа», накіраваўшы астрыё сваёй кнігі супроць усіх відаў народнікаў, асабліва супроць народнікаў 90-х годаў.

Па першаму раздзелу я прачытаў таксама ленінскае «Пісьмо да сялян».

Для работы над другім раздзелам скарыстаў працу Леніна «Што рабіць» і іншыя матэрыялы. Прачытаў кнігу Плеханава «Да пытання аб ролі асобы ў гісторыі».

Побач з першакрыніцамі працую і над кансультацыямі, якія публікуюцца ў журнале «Большэвік Беларусі», у газетах і іншых перыядычных выданнях. У вывучэнні гісторыі партыі многа дапамагаюць вусныя кансультацыі і лекцыі. Я часта бяседую з загадчыкам парткабінета тав. Бурачэўскім, з заг. аддзела прапаганды і агітацыі РК КП(б)Б тав. Харытонавым і іншымі прапагандыстамі. У гэтых бяседах я правяраю самога сябе, наколькі правільна засвоіў тыя ці іншыя пытанні тэорыі. Рэгулярна наведваю лекцыі, якія чытаюца мясцовымі і прыезджымі лектарамі і прапагандыстамі.

Наш райком партыі намячае праводзіць у далейшым тэарэтычныя субяседаванні па пытаннях гісторыі партыі. Гэта, па-мойму, многа дасць для замацавання ведаў па гісторыі партыі.

У парадку самакрытыкі павінен адзначыць, што я не здолеў наладзіць сур'ёзную вучобу ў той партарганізацыі, сакратаром якой з'яўляюся, але прыму ўсе захады, каб гэты сур'ёзны недахоп у бліжэйшы час выправіць

Лічу вялікім недахопам тое, што самастойная вучоба пушчана ў нас на самацёк, і многія комуністы нашага раёна пад выглядам «самастойнага вывучэння» па сутнасці ніякай вучобай не займаюцца. Вінаваты ў гэтым перш за ўсё райком і кіраўнікі пярвічных партарганізацый.

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## Дваццаціпяцігоддзе першай сусветнай імперыялістычнай вайны

Дваццаць пяць год назад, 1 жніўня 1914 г., пачалася першая сусветная імперыялістычная вайна.

Вайна 1914—1918 гг. з'явілася для народных мас раптоўнай. Яна рысавалася буржуазным друкам, як нечакана наляцеўшы шквал. Пануючыя класы ваюючых дзяржаў звальвалі адзін на другога адказнасць за вайну. У сапраўднасці-ж вайна падрыхтоўвалася ў тайне на працягу многіх год усімі імперыялістычнымі дзяржавамі, у мэтах перадзелу свету, сфер уплыву, калоній.

Яшчэ задоўга да 1914 г. В. І. Ленін указваў на немінучасць вайны, якая з'яўляецца прамым вынікам надта нераўнамернага і скачкападобнага развіцця капіталізма, асабліва ў эпоху імперыялізма. Адны краіны, раней быўшыя на першым месцы, развіваюць сваю прамысловасць параўнаўча павольна, другія, раней адсталыя, даганяюць іх і пераганяюць. Безупынна мяняюцца суадносіны сіл паміж імперыялістычнымі дзяржавамі, зноў і зноў параджаючы імкненне да перадзелу свету.

Два варожыя блокі дзяржаў стаялі напярэдадні вайны 1914—1918 гг. адзін супроць другога. У адным лагеры знаходзілася Германія і Аўстра-Венгрыя з прымыкаўшай да іх Італіяй (апошняя ў пачатку вайны адышла ад сваіх саюзнікаў, каб уключыцца неўзабаве ў ваюючы з імі лагер). На старане Германіі і Аўстра-Венгрыі былі Балгарыя і Турцыя.

У другім лагеры, лагеры Антанты або Тройственнай згоды, знаходзіліся Францыя, Англія і царская Расія.

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» так вызначаны супярэчнасці паміж двума групамі капіталістычных дзяржаў, прывёўшыя да вайны:

> «... Германія імкнулася адабраць у Англіі і Францыі калоніі, у Расіі—Украіну, Польшчу, Прыбалтыку. Германія пагражала панаванню Англіі на Бліжнім Усходзе, пабудаваўшы Багдадскую чыгунку. Англія баялася росту марскіх узбраенняў Германіі.
>
> Царская Расія імкнулася да раздзелу Турцыі, марыла аб заваяванні праліваў з Чорнага мора к Сяродземнаму мору (Дарданелы), аб захваце Канстанцінопаля. У планы царскага ўрада ўваходзіў таксама захват Галіцыі—часткі Аўстра-Венгрыі.
>
> Англія імкнулася пры дапамозе вайны разбіць свайго небяспечнага канкурэнта—Германію, тавары якой перад вайной сталі ўсё больш выцясняць англійскія тавары на сусветным рынку. Апрача таго, Англія намервался захваціць у Турцыі Месапатамію, Палесціну і цвёрда абаснавацца ў Егіпце.

Французскія капіталісты імкнуліся захваціць у Германіі багатыя вугалем і жалезам Саарскі басейн і Эльзас-Латарынгію, якая была адабрана Германіяй у Францыі ў вайне 1870—1871 годаў» *).

Такімі былі асноўныя супярэчнасці. Але вайна за перадзел свету закранала інтарэсы ўсіх імперыялістычных краін. Вось чаму яна немінуча павінна была стаць і стала сусветнай. У ёй удзельнічалі 33 дзяржавы, з насельніцтвам звыш 1,5 мільярда чалавек з агульнага насельніцтва зямнога шара к таму часу ў 1,7 мільярда чалавек.

Сусветная імперыялістычная вайна працягвалася 4 годы, 3 месяцы, 26 дзён; яна абышлася чалавецтву ў 10 мільёнаў забітымі і 20 мільёнаў раненымі, дзесяткі мільёнаў памершых ад голаду, нястач і эпідэмій у ваенныя і першыя пасляваенныя годы. Да гэтага далучаюцца 208 мільярдаў долараў (416 мільярдаў залатых рублёў) ваенных расходаў і незлічоныя разрушэнні ў краінах, дзе праходзілі ваенныя фронты і разгортваліся баявыя дзеянні (Бельгія, Паўночная Францыя, Польшча, Латвія, Беларусь, Заходняя Украіна і інш.), пагібель суднаў агульным танажам у 15.398 тысяч тон, галоўным чынам з-за пірацкіх дзеянняў германскіх падводных лодак.

«Вайна не мела-б такога разбуральнага характару і, можа быць, нават зусім не разгарнулася-б з такой сілай, калі-б партыі II Інтэрнацыянала не здрадзілі справе рабочага класа, калі-б яны не нарушылі рашэнняў Кангрэсаў II Інтэрнацыянала супроць вайны, калі-б яны рашыліся актыўна выступіць і падняць рабочы клас супроць сваіх імперыялістычных урадаў, супроць падпальшчыкаў вайны» **).

Лідэры II Інтэрнацыянала адыгралі рашаючую ролю ў абмане мас, у палітычнай падрыхтоўцы вайны. Яны выставілі фальшывы лозунг абароны буржуазнай бацькаўшчыны. У самы разгар мабілізацыі германскі рэйхсканцлер Бетман-Гольвег на нарадзе прускага кабінета, 30 ліпеня, заявіў, што:

«Не прыходзіцца нічога асаблівага апасацца з боку соцыял-дэмакратыі і соцыял-дэмакратычнага партыйнага кіраўніцтва. Думаю, што магу зрабіць гэты вывад на падставе перагавораў з дэпутатам рэйхстага Зюдэкумам. Не можа быць і гутаркі аб усеагульнай або частковай забастоўцы ці сабатажы» ***).

Стаўка германскага канцлера на соцыял-шавіністаў аказалася беспамылковай. Германскія соцыял-дэмакратычныя дэпутаты (акрамя Лібкнехта) галасавалі ў парламенце (рэйхстагу) за ваенныя крэдыты, за падтрыманне імперыялістычнай вайны. Тую-ж пазіцыю занялі ў пераважнай большасці сваёй лідэры астатніх партый II Інтэрнацыянала ва Францыі і Англіі, Бельгіі і іншых краінах. Прадсказанне Леніна аб тым, што апартуністычныя правадыры II Інтэрнацыянала толькі на словах стаяць супроць вайны, а калі вайна наступіць, яны перамятнуцца на бок імперыялістычнай буржуазіі сваіх краін, збылося цалкам.

Па ступах сваіх зарубежных аднадумцаў пайшлі і рускія меншавікі і эсэры, стаўшыя соцыял-шавіністамі.

---

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 154.
**) Там-жа, стар. 172.
***) „Змова супроць міру“, выд. „Правды“, стар. 137, 1934 г.

Яшчэ больш небяспечнымі для справы пролетарыята былі скрытыя соцыял-шавіністы, так званыя цэнтрысты—Троцкі, Мартаў і іншыя ў Расіі, Каўцкі ў Германіі. Маскіруючы сваё здрадніцтва «левымі» фразамі, цэнтрысты фактычна падтрымлівалі вайну.

Адзінай пролетарскай партыяй, якая асталася вернай справе соцыялізма і інтэрнацыяналізма, была партыя большэвікоў. Большэвікі пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна разгарнулі сцяг барацьбы супроць імперыялістычнай буржуазіі і яе агентуры ў асобе лідэраў II Інтэрнацыянала, супроць усіх соцыял-здраднікаў.

Большэвікі выставілі лозунг «ператварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую», заклікаючы рабочых і сялян павярнуць зброю супроць «айчыннай» буржуазіі. Большэвікі выставілі лозунг «паражэння свайго ўрада ў імперыялістычнай вайне. Адмаўленне ад якога-б там ні было супрацоўніцтва са «сваёй» буржуазіяй, стварэнне нелегальных рэволюцыйных арганізацый у арміях, падтрыманне братання салдат на фронтах, арганізацыя рэволюцыйных выступленняў народных мас супроць вайны, падрыхтоўка паўстання супроць імперыялістычных урадаў—такою была тактыка большэвікоў, якая выходзіла з неабходнасці выкарыстаць рэволюцыйную сітуацыю, створаную імперыялістычнай вайной, для перамогі пролетарыята.

> «Большэвікі не былі супроць **усякай** вайны. Яны былі толькі супроць захватніцкай, супроць імперыялістычнай вайны. Большэвікі лічылі, што вайна бывае двух радоў:
>
> а) вайна **справядлівая**, незахватніцкая, вызваленчая, якая мае на мэце або абарону народа ад знешняга нападу і спроб яго заняволення, або вызваленне народа ад рабства капіталізма, або, нарэшце, вызваленне калоній і залежных краін ад гнёту імперыялістаў, і
>
> б) вайна **несправядлівая**, захватніцкая, якая мае на мэце захват і заняволенне чужых краін, чужых народаў»*).

Гэта вызначэнне двух родаў вайны, з якіх першую большэвікі падтрымлівалі, а супроць другой вялі самую рашучую барацьбу, аснавана на геніяльных тэарэтычных працах Леніна, які абагуліў велізарны вопыт класавай барацьбы рабочага класа ў эпоху імперыялізма.

Ленін паказаў у сваёй кнізе «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма», напісанай у 1916 г., што імперыялізм—гэта загніваючы, паміраючы капіталізм, пярэдадзень соцыяльнай рэволюцыі. Ён паказаў, што войны за перадзел свету—немінучыя спадарожнікі імперыялізма. Яны аслабляюць яго сілы і робяць магчымым прарыў фронта імперыялізма там, дзе ён акажацца ўсяго слабей, і што, значыць, магчыма перамога соцыялістычнай рэволюцыі першапачаткова ў некалькіх краінах або адной, асобна ўзятай краіне, і што адначасовая перамога соцыялізма ва ўсіх краінах немагчыма.

Гэты геніяльны вывад паслужыў завяршэннем новай ленінскай тэорыі соцыялістычнай рэволюцыі. Пад сцягам гэтай тэорыі, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі рабочы клас у саюзе з сялянскай беднатой, пры падтрыманні салдат і матросаў, здзейсніў пабеданосную Кастрычніцкую соцыялістычную рэволюцыю, вывеў рэволюцыйным шляхам народы Расіі з імперыялістычнай бойні.

Германскі імперыялізм прабаваў задушыць маладую Совецкую

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 160.

рэспубліку пятлёй Брэст-Літоўскага дагавора, навязанага нашай краіне сілай, у той час, калі яна яшчэ была слаба. Але гэты разбойнічы план не ўдаўся. Народы нашай краіны, пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна, выкарысталі «брэсцкую перадышку» для накаплення сіл, а затым, у канцы 1918 г., выкінулі германскіх акупантаў за рубяжы Совецкай рэспублікі

11 лістапада 1918 г. германскі імперыялізм, які пацярпеў поўнае паражэнне, капітуліраваў перад Антантай. Пад уплывам Кастрычніцкай рэвалюцыі, у Германіі і іншых краінах Еўропы ўспыхнулі рэвалюцыі. Следам за тронам Раманавых рухнулі троны германскіх Гогенцолернаў і аўстрыйскіх Габсбургаў. Але пануючым класам, пры падтрыманні лідэраў II Інтэрнацыянала, удалося патапіць у крыві рэвалюцыйныя выступленні пролетарыята.

На адной шостай частцы зямнога шара, у былой царскай Расіі, рабочы клас, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, вышаў пераможцам у барацьбе з буржуазіяй і памешчыкамі. Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэвалюцыя ў нашай краіне палажыла канец капіталістычнаму рабству. Яна адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва, эру пролетарскіх рэвалюцый.

У агні класавай барацьбы ў перыяд першай імперыялістычнай вайны Ленін выкаваў новую магутную зброю міжнароднага рабочага класа, Комуністычны Інтэрнацыянал, рэвалюцыйны авангард сусветнага пролетарыята. Яго секцыі ў краінах капітала, групіруючы вакол сябе лепшыя элементы рабочага руху, успрынялі вялікі вопыт большэвіцкай партыі ў справе арганізацыі мас для пераможнай барацьбы супроць імперыялістычнай вайны, за пролетарскую дыктатуру, за Совецкую ўладу ва ўсім свеце.

### Другая імперыялістычная вайна пачалася.

Першая імперыялістычная вайна закончылася рабаўнічым Версальскім мірам, прадыктаваным 28 чэрвеня 1919 г. краінамі Антанты пераможанай Германіі. Але версальскі перадзел свету не вырашыў і не мог вырашыць супярэчнасцей імперыялізма. Ён стварыў прадпасылкі для новых войн. Барацьба паміж імперыялістамі разгарэлася на другі-ж дзень пасля Версаля.

Легенда імперыялістаў, пацыфістаў і соцыял-шавіністаў аб «апошняй вайне» быстра рассеялася.

Годы, што паследавалі за падпісаннем Версальскага дагавора, былі запоўнены дзесяткамі рабаўнічых войн, інтэрвенцый і карных экспедыцый, арганізаваных імперыялістычнай буржуазіяй. Другая імперыялістычная вайна пачалася і ахапіла ўжо тры кантыненты, уцягнуўшы ў сваю арбіту найшырэйшыя прасторы ад Гібралтара да Шанхая, з насельніцтвам звыш 500 мільёнаў чалавек.

Развязванне гэтай вайны было паскорана небывалым па сваёй руйнуючай сіле сусветным эканамічным крызісам, які разразіўся ў капіталістычных краінах у канцы 1929 г. Узмацніўся агульны крызіс капіталізма, яшчэ больш абвастрыліся супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі, паміж краінамі-пераможніцамі і краінамі пераможанымі, паміж імперыялістычнымі дзяржавамі і каланіяльнымі і залежнымі краінамі, паміж рабочымі і капіталістамі, паміж сялянамі і памешчыкамі.

Таварыш Сталін указваў на XVI з'ездзе партыі, што буржуазія будзе шукаць выхаду з эканамічнага крызіса, з аднаго боку—у па-

даўленні рабочага класа шляхам устанаўлення фашысцкай дыктатуры, з другога боку—у развязванні вайны за перадзел калоній і сфер уплыву. Гэта поўнасцю апраўдалася.

Першы ачаг вайны ўтварыўся на Далёкім Усходзе, у выніку ўтаржэння японскіх фашызаваных імперыялістаў у Манчжурыю, з мэтай стварэння зручных пазіцый для захвату Кітая і выцяснення адтуль еўрапейскіх і амерыканскіх імперыялістаў, а таксама для нападу на СССР. Японія вышла з Лігі нацый і пачала ўзмоцнена ўзбройвацца.

Другі ачаг вайны ўтварыўся ў цэнтры Еўропы, у зоне Германіі, дзе пануючыя класы прызвалі да ўлады фашыстаў, найбольш рэакцыйную і варожую рабочаму класу частку імперыялістычнай буржуазіі, найбольш рэваншысцкую партыю, якая пацягнула за сабою масы нацыяналістычна настроенай дробнай буржуазіі.

Устанавіўшы рэжым зверскага тэрору ўнутры краіны, германскі фашызм азнаменаваў сваю знешнюю палітыку выхадам з Лігі нацый, велізарнымі ўзбраеннямі і адкрытай падрыхтоўкай да вайны за гвалтоўны перагляд граніц еўрапейскіх дзяржаў у карысць Германіі.

У кастрычніку 1935 г. завязаўся новы вузел вайны, на марскіх шляхах з Еўропы ў Азію. Італьянскія фашысты без аб'яўлення вайны напалі на Абісінію і акупіравалі яе. Спробы Англіі, комунікацыі якой з Індыяй і іншымі яе заморскімі ўладаннямі аказаліся пад ударам, перашкодзіць абгрунтаванню Італіі ў Абісініі не далі рэзультатаў. Італія следам за гэтым выйшла з Лігі нацый і пачала шалёна ўзбройвацца.

Летам 1936 г. пачалася ваенная інтэрвенцыя Германіі і Італіі супроць Іспанскай рэспублікі, з мэтай ператварэння Пірэнейскага поўвострава ў плацдарм супроць Францыі і Англіі. Завязаўся вузел вайны ў Іспаніі. 24 кастрычніка 1936 г. было падпісана ў Берліне пагадненне аб германа-італьянскім супрацоўніцтве, стварылася «вось Берлін—Рым». 25 лістапада таго-ж года быў падпісан германа-японскі «антыкомінтэрнаўскі пакт», да якога ў канцы 1937 г. далучылася Італія. Так склаўся блок агрэсараў.

У пачатку 1938 г. германскія фашысты захапілі Аўстрыю. За гэтым паследавала агрэсія супроць Чэхаславакіі, якая закончылася ўвосень 1938 г. мюнхенскай здзелкай. Германія захапіла Судэцкую вобласць, а вясной 1939 г. акупіравала Чэхаславакію. Усё гэта прывяло да ўтварэння новага вузла вайны, які пагражае непасрэдна Польшчы, Румыніі, Югаславіі. Далей, Італія захапляе Албанію.

У ліпені 1937 г. Японія, справакаваўшы чарговы «інцыдэнт»—на гэты раз ля Бэйпіна, пачала рабаўнічую вайну супроць Кітая, захапіла Шанхай, уварвалася ў Цэнтральны Кітай, акупіравала Кантон і паўднёвыя кітайскія порты, востраў Хайнань і інш. Японскія імперыялісты выцясняюць з Кітая Англію, Францыю і ЗША, пагражаючы іх уладанням на Ціхім акіяне.

У маі 1939 г. быў заключан германа-італьянскі ваенна-палітычны саюз на аснове захватніцкіх праграм абодвух фашысцкіх дзяржаў. У выніку рухнуў увесь пасляваенны рэжым «міру», аснаваны на версальскім і радзе іншых дагавораў у Еўропе, на дагаворы дзевяці дзяржаў (галоўным пунктам якога была цэласнасць і недатыкальнасць Кітая)—у Азіі. «Новая імперыялістычная вайна стала фактам» **(Сталін).**

Як непадобна карта зямнога шара, якая была начэртана ў 1919 г. імперыялістычнай дыпламатыяй, на тую карту, якая вызначае гра-



ніцы паміж дзяржавамі цяпер, чвэрць века спусціўшы пасля пачатку сусветнай імперыялістычнай вайны!

З кожным днём расце небяспека далейшага пашырэння вайны. Гэта небяспека дае аб сабе ведаць у Данцыгу, дзе германскія фашысты сфарміравалі асобы корпус для правядзення путча; каля польскіх граніц, дзе канцэнтруюцца германскія войскі. Каля граніц Бельгіі, Галандыі і Францыі, у Альпах на італа-французскай граніцы. Каля граніц Швейцарыі, утаржэнне ў якую павінна, паводле планаў германскага генеральнага штаба, даць магчымасць абыйсці французскую ўмацаваную «лінію Мажыно». У Пірэнейскіх гарах, на Біскайскім узбярэжжы, на Балеарскіх астравах, у Іспанскім Мароко—усюды агрэсары ствараюць плацдармы для новых нападаў, распальваючы полымя другой імперыялістычнай вайны.

Вузлы вайны ўтварыліся на Міжземным моры, на Чырвоным моры, у Паўночнай Афрыцы, на морах, амываючых Кітай, на Ціхім акіяне.

Толькі гэтымі днямі італьянская фашысцкая газета «Рэсто дэль Карліно» сфармулявала тыя ўмовы, на якіх Германія і Італія згодны гарантаваць мір дэмакратычным дзяржавам: Туніс, Джыбуці, Суэц і Мальта павінны быць перададаны Італіі; Гібралтар—Іспаніі (г. зн. фактычна гаспадарам Франко—Італіі і Германіі); Данцыг і Польскі карыдор, а таксама ўсе былыя германскія калоніі—Германіі.

Францыя і Англія павінны, акрамя таго, аказаць фінансавую садзейнасць італьянскай і германскай эканоміцы і пастаўляць Італіі і Германіі патрэбную ім сыравіну, не вымушаючы іх плаціць золатам. Фашысцкая газета папярэджвае, што калі дзяржавы не задаволяць гэтых умоў, то ім прыдзецца заплаціць непараўнальна больш дарагой цаной.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Па меры развіцця другой імперыялістычнай вайны, яшчэ больш растуць апетыты германскага імперыялізма. Пад ударам знаходзіцца Эльзас-Латарынгія. Недарма германскі фашысцкі друк сістэматычна, па любому выпадку (нядаўна, напрыклад, у сувязі са споўніўшымся ў ліпені 500-годдзем з дня скангчэння пабудовы Страсбургскага сабора) напамінае пра, нібыта, «спрадвеку нямецкі характар» Эльзас-Латарынгіі, вобласці з багацейшымі залежамі жалезнай руды.

Італьянскія фашысты дабіваюцца адтаржэння ад Францыі Савойі і Корсікі. У разлікі «асі Берлін—Рым» уваходзіць таксама раздзел Югаславіі і Грэцыі, агрэсія супроць Румыніі і Турцыі.

У турэцкай газеце «Тан» былі апублікаваны некаторы час назад дакументальныя даныя аб тым, што Германія мае намер ператварыць Балканы ў плацдарм супроць Турцыі, а затым выкарыстаць апошнюю як плацдарм для захвату арабскіх краін.

Японскія імперыялісты ставяць сабе мэтай устанаўленне свайго панавання на Ціхім акіяне, закабаленне Кітая і поўнае выцясненне адтуль іншых дзяржаў.

Побач з безупынным узбраеннем, якое праводзіцца за кошт аграблення народных мас, фашысцкія агрэсары прыбягаюць да шырока пастаўленай падрыўной работы ва ўсіх краінах, якія з'яўляюцца аб'ектам іх захватніцкіх планаў. Яны выкарыстоўваюць «пятую калону», адным з атрадаў якой з'яўляецца трацкізм, найбольш подлая агентура фашызма.

Трацкісцкія бандыты з самага пачатку прадавалі рэспубліканскую

Іспанію, арганізуючы путчы, прабуючы падрываць дысцыпліну на фронце і ў тылу, забяспечваючы Франко і інтэрвентаў звесткамі, якія датычаць абароны рэспублікі.

Кітайскія трацкісты знаходзяцца на службе японскай разведкі, якая, як паказаў іх выкрыты важак у правінцыі Хэбэй, некі Лі, рэгулярна давала мясцовым трацкістам па 10 тысяч долараў у месяц для вядзення падрыўной работы. Кіраўнікі трацкістаў у Баодзіне, Шыцзячжуане, Даміне, Суньдэ і іншых пунктах, на нарадах са сваім начальствам з японскай разведкі, дакладвалі аб сваёй рабоце і сваіх планах, атрымлівалі інструкцыі ад японскіх афіцэраў.

Ва Францыі намаганні трацкістаў, якія ўваходзяць у соцыялістычную партыю і нават у яе кіраўніцтва, накіраваны на зрыў адзінства дзеянняў з комуністычнай партыяй. Яны вядуць шалёную кампанію супроць стварэння фронта міру, ратуюць за зговар з фашысцкімі агрэсарамі.

Сеткай фашысцкага шпіянажу аплецены дзяржавы Паўднёвай Амерыкі. Агентура фашысцкіх разведак раскінута ў ЗША, Англіі, Францыі, Скандынаўскіх і Прыбалтыйскіх краінах, у Палесціне, арабскіх дзяржавах. Лазутчыкі і дыверсанты агрэсараў уваскрашаюць справы сваіх папярэднікаў, капітанаў Рынтэльнаў, якія ўзрывалі ў сусветную імперыялістычную вайну амерыканскія параходы са зброяй і харчам.

У Лондане адзін за другім адбываюцца буйнейшыя пажары, якія носяць усе сляды падпалу. У Тулоне адбываецца налёт на арсенал. У парту Гаўра становіцца афярай дыверсіі буйнейшы французскі акіянскі параход «Парыж». Адна за другою гінуць падводныя лодкі: амерыканская «Сквалус», англійская «Тэціс», французская «Фенікс». Расследаваннем устаноўлена, што пагібель гіганцкага амерыканскага дырыжабля «Акрон»—справа рук японскіх дыверсантаў.

Для абману «сваіх» народаў фашысцкія дзеячы і іх друк прыбягаюць да грубай дэмагогіі, хлусні, паклёпу, злосных вымыслаў. Рабаўнічую вайну яны прабуюць прыкрыць балбатнёй аб неабходнасці заваяваць «жыццёвую прастору», без якой яны нібыта «задыхаюцца».

Гэтай-жа балбатнёй яны прабуюць прымірыць народныя масы з фашысцкай палітыкай нястрымнай эксплаатацыі (у Германіі і Японіі ўстаноўлен 14—16-гадзінны рабочы дзень), жабрацкай зарплаты, патагоннай рацыяналізацыі, шалёных узбраенняў і ваенных авантур.

Арганізатары новай сусветнай імперыялістычнай вайны старанна абыходзяць пытанне аб тым, што землі ў «іх» краінах знаходзяцца у руках памешчыкаў і капіталістычных канцэрнаў, што ўся сыравіна, якая магла-б задаволіць патрэбы насельніцтва, паглынаецца ваеннымі прадпрыемствамі, уладальнікі якіх нажываюць казачныя барышы на выкананні ваенных заказаў.

Даходы Крупа, Сіменса, Монтэкаціні, Чыано, Кухара і іншых германскіх, італьянскіх і японскіх прадстаўнікоў манапалістычнага капітала павялічваюцца з кожным месяцам тэмпамі, якія іншы раз перавышаюць тэмпы нажывы ў першую імперыялістычную вайну.

Германскія агрэсары пускаюць у ход абманны лозунг, лозунг «вызвалення нямецкіх братоў», пад прыкрыццём якога праводзіцца палітыка захватаў. Як выглядае гэты лозунг на справе, паказвае рэжым фашысцкага гнёту, устаноўлены германскімі акупантамі над

заняволеным імі аўстрыйскім народам, Судэцкай вобласці, ярмо фашысцкага «вызвалення» адчувае насельніцтва Чэхіі і Маравіі.

Другі ўлюбёны лозунг агрэсараў, які атрымаў асабліва вялікае хаджэнне за апошні час,—барацьба супроць мнімага іх «акружэння». Гэты лозунг выцягнут з арсеналаў германскіх імперыялістаў даваеннага часу, якія выкарысталі яго для падхлёствання шавіністычных настрояў у краіне. Фашысцкія Тіт Тітычы, скардзячыся на тое, што іх нехта збіраецца «пакрыўдзіць», упадабляюцца тым злаўмыснікам, якія для адцягнення ўвагі ад сябе, лемантуюць: «Трымай злодзея!».

І, нарэшце, каб знайсці агульную мову з буржуазіяй дэмакратычных краін, супроць якіх накіравана новая імперыялістычная вайна, фашысцкія аґрэсары прыкрываюцца «барацьбой з комунізмам». Пры дапамозе ўсіх гэтых сродкаў агрэсары на справе разгортваюць вайну ў імя новага перадзелу свету.

### Банкроцтва палітыкі «неўмяшання»

Асаблівасць другой імперыялістычнай вайны, якая зараз разгортваецца, заключаецца ў тым, што цяпер:

> «Вайну вядуць дзяржавы-агрэсары, усяляк ушчымляючы інтаРэсы неагрэсіўных дзяржаў, перш за ўсё Англіі, Францыі, ЗША, а апошнія пяцяцца назад і адступаюць, даючы агрэсарам уступку за ўступкай»*).

Гэта палітыка ўступак не тлумачыцца слабасцю неагрэсіўных краін (якія, разам узятыя, ва ўсіх адносінах мацней агрэсараў). Яна тлумачыцца ў асноўным адмаўленнем большасці неагрэсіўных краін ад прынцыпа калектыўнай абароны супроць агрэсараў і пераходам на пазіцыі «неўмяшання», «нейтралітэта».

> «На справе, аднак, палітыка неўмяшання азначае патуранне агрэсіі, развязванне вайны,—значыць, ператварэнне яе ў сусветную вайну. У палітыцы неўмяшання сквазіць імкненне, жаданне—не перашкаджаць агрэсарам тварыць сваю чорную справу, не перашкаджаць, скажам, Японіі ўблытацца ў вайну з Кітаем, а яшчэ лепш з Савецкім Саюзам, не перашкаджаць, скажам, Германіі ўвязнуць у еўрапейскіх справах, ублытацца ў вайну з Савецкім Саюзам, даць усім удзельнікам вайны ўвязнуць глыбока ў ціну вайны, заахвочваць іх у гэтым цішком, даць ім аслабіць і знясіліць адзін другога, а потым, калі яны дастаткова аслабнуць,—выступіць на сцэну са свежымі сіламі, выступіць, вядома, «у інтарэсах міру», і прадыктаваць аслабеўшым удзельнікам вайны свае ўмовы»**).

Рэчаіснасць начыста абвергла разлікі ініцыятараў і натхняльнікаў гэтай палітыкі. Яе баланс заключаецца ў страце Англіяй і Францыяй раду пазіцый на Ціхім акіяне, Міжземным моры, у Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропе, у расшырэнні плацдарма фашысцкай аґрэсіі.

Мюнхенская здзелка, утвораная за кошт Чэхаславакіі ў верасні 1938 г., прывяла ў канчатковым выніку да акупацыі гэтай краіны германскім фашызмам, да расшырэння другой імперыялістычнай

---

*) І. Сталін. Справаздачны даклад на XVIII з'ездзе партыі аб рабоце ЦК ВКП(б), стар. 12, Дзяржпалітвыдат, 1939 г.

**) Там-жа, стар. 13.

вайны. Дзесяткі дывізій, якія Германія была вымушана раней трымаць на чэхаславацкай граніцы, цяпер могуць быць кінуты супроць Польшчы, Францыі і іншых краін.

Палітыка «неўмяшання» у адносінах германа-італьянскай інтэрвенцыі ў Іспаніі прывяла да таго, што гэта краінаператворана ў плацдарм агрэсараў супроць Францыі, Англіі і іх марскіх камунікацый, супроць Партугаліі,—якая на працягу многіх дзесяцігоддзяў адыгрывала відную ролю, як звяно ў сістэме брытанскай абароны.

Палітыка «неўмяшання» прывяла да таго, што японскія імперыялісты ўсё больш бесцарамонна выжываюць Англію і іншыя краіны з кітайскіх рынкаў і портаў, пагражаючы Сінгапуру, Гонконгу, Філіпінам, Індакітаю. Блакада японцамі замежных канцэсій у Цяньцзіне, іх гаспадаранне на востраве Гулансу, у Сватоу, у Шанхаі, здзекі і гвалты, якім падвяргаюць яны англійскіх падданых—вось плады гэтай палітыкі.

Пладамі той-жа палітыкі з'яўляецца растаржэнне Германіяй дагавора аб ненападзе з Польшчай і растаржэнне ёю марского пагаднення з Англіяй, заключэнне германа-італьянскага ваенна-палітычнага саюза, які носіць адкрыта наступальны характар.

Нарэшце, пладом той-жа мюнхенскай палітыкі з'яўляецца гонка сухапутных, марскіх і паветраных узбраенняў, якая паглынае мільярд за мільярдам, патрабуе нечуванага напружання народнай гаспадаркі кожнай краіны. Мюнхенскія «міратворцы», якія фанабэрыліся раней тым, што яны, аддаўшы ў афяру агрэсару Чэхаславакію, быццам-бы выратавалі гэтым мір, вымушаны цяпер апраўдвацца тым, што іх нібыта абманулі, увялі ў зман.

Рэзкае пагоршанне міжнароднай абстаноўкі, негадаванне супроць капітулянтаў, якое расце ва ўсіх слаях грамадства,—усё гэта факты, з якімі прыходзіцца лічыцца кіруючым дзеячам неагрэсіўных дзяржаў. Гэта пабудзіла ўрады дэмакратычных краін актывізаваць сваю знешнюю палітыку.

Англія заключыла пакт аб узаемадапамозе з Польшчай. Англійскія гарантыі даны Румыніі і Грэцыі. Заключаны англа-турэцкае і франка-турэцкае пагадненні аб узаемадапамозе.

Але разам з тым, ні ў якім разе не склалі зброі рэакцыйныя колы буйнага капітала, якія з'яўляюцца ворагамі калектыўнай безапаснасці і цэпка стараюцца ўтрымацца на старых капітулянцкіх мюнхенскіх пазіцыях. Іх уплыў сказваецца паміж іншым у тым, што Германіі было выдана золата, якое належала Чэхаславакіі і знаходзілася на рахунку Банка міжнародных разлікаў у Базелі (Швейцарыя). Французскія ўлады выдалі Франко залаты запас, які належаў Іспанскай рэспубліцы і захоўваўся ва Францыі.

Французскія ўлады, якія працягваюць трымаць у канцэнтрацыйных лагерах і падвяргаюць прыцясненням дзесяткі тысяч рэспубліканскіх байцоў, выдалі Франко ўсю зброю і велізарныя запасы ваеннага снаражэння, эвакуіраванага рэспубліканскімі войскамі пры іх адступленні з Каталоніі на французскую тэрыторыю. Як і раней, з Францыі і яе паўночна-афрыканскіх калоній, як паведамляе друк,—у Германію ўвозяцца сотні тысяч тон жалезнай руды і іншай ваеннай сыравіны.

Дэмакратычныя дзяржавы наперакор грамадскай думцы, якая патрабуе байкоту агрэсараў, працягваюць снабжаць ваеннымі матэрыяламі Японію. Гэтымі днямі лонданская газета «Дэйлі Геральд» паведаміла, што паводле даных, сабраных «Саюзам дэмакратычнага



кантроля», тры дэмакратычныя дзяржавы паставілі ў 1938 г. Японіі 86% неабходных ёй ваенных матэрыялаў: 57% прыпадае на долю ЗША 20,5%—Англіі,. 8,5%—Галандыі. З сапраўды хрысціянскай пакорай рэагуюць кіруючыя англійскія колы на паводзіны наглеючай з кожным днём японскай ваеншчыны—у Цяньцзіне, Шанхаі, Сватоу, Гулансу.

## Народы супроць фашызма і вайны.

Усенародны рух супроць вайны і фашызма ўзначальваюць камуністычныя партыі, узброеныя гіганцкім вопытам ВКП(б), ленінска-сталінскай практыкай і стратэгіяй класавай барацьбы і пролетарскай рэволюцыі.

Амаль 3 годы дрэнна ўзброены іспанскі народ вёў нярoўную гераічную барацьбу за сваю незалежнасць, адбіваючы напад двух буйных імперыялістычных фашысцкіх дзяржаў—Германіі і Італіі, узброіўшых і падтрымліваўшых усімі сродкамі іспанскіх фашысцкіх мяцежнікаў.

Побач з гэтай адкрытай інтэрвенцыяй, супроць іспанскага народа апалчылася ўся сусветная рэакцыя, якая праводзіла пад флагам «неўмяшання» скрытую інтэрвенцыю, блакаду рэспубліканскай Іспаніі.

Наперакор самаму зверскаму тэрору, масавым пакаранням смерцю, фашыстам у Іспаніі не ўдаецца пагасіць полымя народнай нянавісці да прыгнятальнікаў. Толькі гэтымі днямі сусветны друк паведамляў аб паўстанні ў Астурыі, у гарах якой дзейнічаюць тысячы партызан-гарнякоў.

Гераічная барацьба іспанскага народа садзейнічала росту інтэрнацыянальнай салідарнасці ва ўсім свеце. Скарбніца міжнароднага баявога вопыту пролетарыяў усіх краін узбагацілася гераічнымі ўчынкамі байцоў інтэрнацыянальных брыгад, праверкаю кадраў сусветнага комуністычнага руху ў агні справядлівай антыфашысцкай вайны.

На другім канцы зямлі вядзе справядлівую, вызваленчую, айчынную вайну супроць японскіх захватчыкаў 450-мільённы кітайскі народ. 7 ліпеня мінула два годы з дня японскай правакацыі ў Люкоуцзяо, каля Бэйпіна, якая з'явілася сігналам да ўтаржэння. І што-ж? Японская фашысцкая ваеншчына, разлічваючы на «маланкавую» перамогу, жорстка пралічылася.

На другі-ж дзень пасля ўтаржэння японцаў комуністычная партыя Кітая звярнулася да кітайскага ўрада з дэкларацыяй, у якой указвала, што выхад для Кітая—толькі ва ўзброеным супраціўленні сіламі ўсёй нацыі.

Гоміндан і компартыя ўстанавілі паміж сабою супрацоўніцтва і сумесна заклікалі народ на барацьбу за выратаванне радзімы і яе незалежнасці, і ўсе сілы кітайскага народа аб'ядналіся пад сцягам антыяпонскага нацыянальнага фронта. Палітычную аснову антыяпонскага адзінства складаюць тры народныя прынцыпы Сун Ят-сена: нацыянальнае вызваленне, дэмакратызм, добрабыт народа.

Японскім імперыялістам удалося захапіць буйнейшыя прамысловыя раёны краіны, чыгуначныя магістралі, порты і эканамічныя цэнтры—Шанхай, Нанкін, Бэйпін, Цяньцзін, Ханькоу, Кантон.

Але улада японцаў распаўсюджваецца толькі на буйныя гарады

і вузкія палоскі тэрыторыі ўздоўж чыгуначных ліній. У 9 правінцыях, якія лічацца акупіраванымі, пераважная большасць раёнаў знаходзіцца пад кантролем партызан і рэгулярнай кітайскай арміі.

У аколіцах Шанхая, Нанкіна, Бэйпіна і Цяньцзіна, на подступах к Кантону дзейнічаюць партызаны і рэгулярныя кітайскія часці. 60 кітайскіх дывізій, мільёны партызан, загартаваных у двухлетніх баях, змагаюцца ў тылу ў японцаў.

Гераічныя ўзоры барацьбы з ворагам паказваюць народу 8-я і 4-я народна-рэвалюцыйныя арміі, якія нанеслі японцам не адно буйнае паражэнне.

Кітайскі народ, які ўладае велізарнымі людскімі, сыравіннымі і матэрыяльнымі рэзервамі, здолее весці працяглую вайну. Стратэгія кітайскага народа разлічана на знясіленне ворага, на вычарпанне матэрыяльных і людскіх рэзерваў Японіі.

Вайна ўжо абышлася японскім імперыялістам у 1 мільён забітымі і ранены, у дзесяткі мільярдаў іен. Усё ўзрастаючыя ваенныя расходы Японіі пакрываюцца за кошт японскага народа, шляхам павелічэння падаткаў, узвінчвання цэн, прымусовага размяшчэння ваенных пазык, скарачэння зарплаты і т. д. І ў той час як у Кітаі ўсё вышэй узрастае магутны нацыянальна-вызваленчы ўздым, народныя масы Японіі ўсё актыўней выказваюць сваю нездаволенасць рабаўнічай вайной і панаваннем фашысцкай ваеншчыны.

У канцы мая гэтага года ў японскай газеце «Асахі» з'явілася заметка аб выступленні на канферэнцыі начальнікаў жандармерыі вярхоўнага пракурора Японіі Кімура, які заявіў, што «радыкальныя элементы вядуць антываенную прапаганду ў сувязі з цяжкасцямі і працягласцю вайны, на што мы павінны звярнуць асобую ўвагу». Кімура прызнаў, што «карэнні комуністычнага руху вырваць цяжка і ўзмоцненая дзейнасць комуністычных элементаў унушае моцны непакой». З дзённікаў і пісем японскіх салдат і афіцэраў, з паказанняў палонных вырысоўваецца малюнак растучай стомленасці і азлаблення ў масах, у сувязі з вайною ў Кітаі.

Біта стаўка японцаў на здрадніка Ван Цзін-вея, на трацкісцкую агентуру японскай разведкі, на марыянетачныя ўрады. Церпяць крах усе спробы японскай ваеншчыны раскалоць або аслабіць рады адзінага нацыянальнага фронта. Набліжаецца трэці этап айчыннай вайны кітайскага народа.

> «Зацяжная антыяпонская вайна,—гаворыцца ў рэзалюцыі VI расшыранага пленума ЦК компартыі Кітая, які адбыўся ў канцы мінулага года,—будзе мець тры этапы: з боку ворага спачатку—наступленне, потым—абарона і, нарэшце,—адступленне; а з нашага боку спачатку—абарона, потым—падрыхтоўка да контрнаступлення і, нарэшце,—контрнаступленне.
>
> ... Калі-ж нашы сілы будуць поўнасцю падрыхтаваны, мы, выкарыстоўваючы ўзмацняючыяся цяжкасці японскай ваеншчыны і спрыяючую для нас міжнародную сітуацыю, пачнем контрнаступленне і будзем працягваць яго аж да поўнага выгнання японскіх захватчыкаў з Кітая, г. зн. да канчатковай перамогі»*).

З захапленнем сочаць народы ўсяго свету за тытанічнай барацьбой кітайскага народа, вылучыўшага Кітай у перадавыя рады міралюбівых краін, якія змагаюцца за сваю свабоду, супроць фашызма

*) „Коммунистический Интернационал" № 2, стар. 86, 1939 г.

і вайны. Рух салідарнасці з кітайскім народам і дапамогі яму, рух за байкот японскіх тавараў з'яўляецца буйнейшым фактарам, які згуртоўвае і ўзмацняе антыфашысцкія сілы, сілы міру ў міжнародным маштабе.

Неспакойна ў тылу ў германскага фашызма, хоць гестапо выбіваецца з сіл, каб стварыць у Германіі і акупіраваных краінах магільную цішыню.

Вось факты апошніх тыдняў. На адным буйным ваенным заводзе ў Берліне рабочыя аб'явілі аднагадзінную стачку салідарнасці са сваімі таварышамі—чэхамі.

Рабочыя суднабудаўнічых верфей «Блом і Фос» публікуюць у замежным друку і ў падпольных лістоўках зварот, у якім заяўляюць: «Мы патрабуем 8-гадзіннага рабочага дня, мы хочам працаваць толькі на мір, а не на вайну».

У Рурскай вобласці, у шахтах і на металургічных заводах ажыццяўляецца лозунг: «працаваць запаволеным тэмпам».

У Саарскай вобласці на радзе шахт рабочыя, пратэстуючы супроць падоўжання рабочага дня, спыняюць работу датэрмінова.

У чэрвені адбылася стачка мабілізаваных для работы на «лініі Зігфрыда». Бастуючымі было прад'яўлена патрабаванне аб дазволе спатканняў з роднымі і спыненні ўтрыманняў з зарплаты.

У Грулаху (Судэцкая вобласць) баставалі тэкстыльшчыкі.

У Празе 5 ліпеня адбылася масавая дэманстрацыя ў памяць чэшскага народнага героя Яна Гуса, спаленага ў 1415 г. на кастры за барацьбу супроць царкоўнага мракабесся і гнёту нямецкіх феадалаў.

Тэатральныя прадстаўленні ў Празе і правінцыі скрозь і ўсюды суправаджаюцца патрыятычнымі дэманстрацыямі чэшскага насельніцтва.

Германскаму ваеннаму камандаванню прышлося спешна, пасля 3 месяцаў акупацыі, змяніць некаторыя воінскія часці, ахопленыя «дэмаралізацыяй» і накіраваць у Прагу новыя атрады з Германіі. Нярэдкі і выпадкі прамога дэзерцірства з германскай арміі.

Узмацняецца бражэнне ў Італіі, дзе мацнейшы штуршок да росту нездаволенасці дало расквата'раванне германскіх войск па ўсяму Апенінскаму поўвостраву і на востраве Сіцыліі.

Цяга мас да адзінства для барацьбы супроць фашызма і вайны дае ведаць аб сабе ў выніках парламенцкіх выбараў—у Бельгіі, Галандыі, Фінляндыі, дзе агентура германскіх фашыстаў пацярпела паражэнне.

Масы за адзінства, наперакор старанням рэакцыйных лідэраў соцыял-дэмакратыі, якія ўваскрашаюць цяпер, у абстаноўцы другой імперыялістычнай вайны, традыцыі прадажніцтва і здрады 1914 г. Гэтыя лідэры, якія віталі мюнхенскую капітуляцыю і дакаціліся да лозунга «лепш рабства, чым вайна», усё больш трацяць уплыў у масах.

Бурнымі пратэстамі рабочых было сустрэнута прадыктаванае правымі лідэрамі і троцкістамі рашэнне Нанцкага з'езда французскай соцыялістычнай партыі, забараніўшае членам партыі ўступаць у «Таварыства прыяцеляў СССР», МОПР, «Жаночы камітэт барацьбы супроць фашызма і вайны», пад выглядам таго, што ў гэтых арганізацыях уплыў належыць комуністам.

Масы за адзінства, за падтрыманне мірнай палітыкі СССР, за стварэнне фронта міру неагрэсіўных дзяржаў—аб гэтым сведчаць рэзалюцыі мітынгаў і сходаў, выступленні ў друку.

Перад вачыма народаў—прыклад Совецкага Саюза. Ніколі яшчэ ў самых найшырэйшых слаях насельніцтва капіталістычных краін не была так папулярна наша соцыялістычная радзіма. З велізарнай увагай, гордасцю і любоўю сочаць рабочыя, працоўныя ўсіх краін за нашым ростам, будаўніцтвам, дасягненнямі. Небывалым поспехам карыстаецца выданы ў радзе краін у перакладзе на англійскую, нямецкую, французскую і іншыя мовы «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)»—магутная зброя міжнароднага пролетарыята, кніга, якая вучыць, як змагацца за мір, за соцыялізм.

## Совецкі Саюз у барацьбе за мір

Совецкі народ, які пабудаваў у асноўным соцыялізм і ажыццяўляе трэцюю сталінскую пяцігодку, упэўнена ідзе да сваёй вялікай мэты—да комуністычнага грамадства.

Непахісна маральна-палітычнае адзінства совецкага народа, кіруемага большэвіцкай партыяй на чале з вялікім і мудрым правадыром, любімым Сталіным.

Несакрушальна магутнасць Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота, якія ахоўваюць мірную соцыялістычную працу 170-мільённага совецкага народа.

Наш народ цвёрда запомніў указанне таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, аб тым, што замежныя разведкі будуць і ў далейшым засылаць у нашу краіну шпіёнаў, забойцаў, шкоднікаў.

Зорка і пільна стаіць на пасту совецкая разведка, якая, пры дапамозе совецкіх патрыётаў, граміць і выкарчоўвае ворагаў народа.

Краіна Советаў, аплот усеагульнага міру, апіраецца ў сваёй знешняй палітыцы на сваю растучую гаспадарчую, палітычную, культурную і ваенную магутнасць, на гарачы патрыятызм совецкага народа. Яна апіраецца на брацкую салідарнасць з працоўнымі ўсіх краін. Совецкі Саюз гатоў заняць падабаючае яму месца ў стварэнні адзінага фронта міралюбівых дзяржаў супроць далейшага разгортвання агрэсіі.

Задачы знешняй палітыкі СССР былі з вычарпальнай дакладнасцю вызначаны таварышом Сталіным на XVIII з'ездзе партыі:

> «1. Праводзіць і ў далейшым палітыку міру і ўмацавання дзелавых сувязей з усімі краінамі;
>
> 2. Захоўваць асцярожнасць і не даваць уцягнуць у канфлікты нашу краіну правакатарам вайны, якія прывыклі заграбаць жар чужымі рукамі;
>
> 3. Усямерна ўмацоўваць баявую магутнасць нашай Чырвонай арміі і Ваенна-Марскога Чырвонага флота;
>
> 4. Мацаваць міжнародныя сувязі дружбы з працоўнымі ўсіх краін, зацікаўленымі ў міры і дружбе паміж народамі».

Узаемнасць і поўная роўнасць—вось прынцыпы, на аснове якіх наша краіна гатова ўступіць у абаронча фронт неагрэсіўных дзяржаў, фронт, які можа аказацца дзеездольным толькі пры наяўнасці наступных мінімальных умоў:

> «... заключэнне паміж Англіяй, Францыяй і СССР эфектыўнага пакта ўзаемадапамогі супроць агрэсіі, маючага выключна абаронча характар; гарантаванне з боку Англіі, Францыі і СССР дзяржаў цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, уключаючы

у іх лік усе без выключэння пагранічныя з СССР еўрапейскія краіны, ад нападу агрэсараў; заключэння канкрэтнага пагаднення паміж Англіяй, Францыяй і СССР аб формах і размерах безадкладнай і эфектыўнай дапамогі, аказваемай адзін другому і гарантуемым дзяржавам у выпадку нападу агрэсараў»*).

* *
*

Усяляк змагаючыся за мір і адстойваючы справу міру, Савецкі Саюз, перш за ўсё, арыентуецца на сваю ўзброеную магутнасць, на сваю магутную, аснашчоную перадавой ваеннай тэхнікай Чырвоную Армію, за якою стаяць незлічоныя рэзервы савецкіх патрыётаў, грудзьмі гатовых абараняць граніцы сваёй сацыялістычнай радзімы.

«Мы не баімся пагроз з боку агрэсараў і гатовы адказаць двайным ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны, якія прабуюць нарушыць недатыкальнасць Савецкіх граніц»**).

Сілу гэтай яснай і зразумелай перасцярогі адчула на сабе японская ваеншчына год назад, у памятныя дні баёў ля возера Хасан. Камуністы і камсамольцы, беспартыйныя бальшавікі,—камандзіры, камісары і байцы Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі—праявілі цуды баявой доблесці і сапраўднага геройства ў абароне свяшчэнных граніц нашай сацыялістычнай радзімы.

З іменем Сталіна на вуснах яны ішлі на штурм варожых пазіцый, разграмілі зарваўшыхся японскіх правакатараў і выкінулі іх за межы савецкай тэрыторыі. Японская дыпламатыя, якая раней прыбегла да наглага шантажу, прымушана была прасіць аб мірным урэгуляванні хасанскага «інцыдэнта».

Новым довадам таму, што шантаж у адносінах Савецкага Саюза не дасягае мэты, а правы Савецкай дзяржавы знаходзяцца пад надзейнай абаронай, з'явіўся для японскіх рэакцыянераў вынік нашых перагавораў з Японіяй па рыбалоўнаму пытанню. Савецкі ўрад адмовіўся прадоўжыць канвенцыю аб арэндзе японцамі нашых рыбалоўных промыслаў у адносінах 37 участкаў, якія маюць пэўнае стратэгічнае значэнне. Не дапамаглі ні пагрозы, што раздаваліся з Токіо, якому, натуральна, не хацелася расставацца іменна з гэтымі ўчасткамі, ні антысавецкія ляманты японскіх газет.

Японскаму ўраду прышлося падпісаць пагадненне на ўмовах, выстаўленых СССР, 37 участкаў былі із'яты ў японцаў.

Не здаволіўшыся, як відаць, урокам, атрыманым ля Хасана, японскія правакатары перанеслі сваю актыўнасць на граніцы Мангольскай Народнай Рэспублікі, з якой наша дзяржава звязана доўгалетнімі узамі дружбы.

Планы японскай ваеншчыны ў адносінах МНР вядомы, яна іх не скрывае. У японскай літаратуры апошніх год і ў дакументах, прысвечаных пытанням знешняй палітыкі, не раз вызначалася захватніцкая палітыка самураяў, якая зводзіцца да наступнага:

1) З пункту погляду наступальных планаў японскага імперыялізма на азіяцкім мацерыку МНР, з прычыны яе геаграфічнага становішча,

*) **В. М. Молатаў**, Даклад на III сесіі Вярхоўнага Совета СССР, „Правда" ад 1 чэрвеня 1939 г.

**) **І. Сталін**, Справаздачны даклад на XVIII з'ездзе партыі аб рабоце ЦК ВКП(б) стар. 17, Дзяржпалітвыдат, 1939 г.

цікавіць Японію як плацдарм для вайны супроць Савецкага Саюза, для флангавага ўдару па Сібіры;

2) Захапіўшы МНР, японцы тым самым убілі-б клін паміж СССР і Кітаем;

3) МНР з'явілася-б базай для прасоўвання ў паўночна-заходнія правінцыі Кітая—Суйюань, Нінся, Ганьсу і Сіньцзян;

4) МНР цікавіць Японію і як жывёлагадоўчая база, аўладанне якою ўваходзіць у японскія планы «вялікай вайны», для забеспячэння японскай арміі коньмі, а японскай ваеннай прамысловасці—скурай, шэрсцю, мясам і іншымі відамі стратэгічнай сыравіны.

СССР неаднакроць перасцерагаў японскую ваеншчыну, што яе планы агрэсіі супроць МНР і ператварэння яе ў плацдарм для нападу на Савецкі Саюз сустрэнуць з нашага боку рашучы адпор.

27 лістапада 1934 г. паміж савецкім і мангольскім урадамі адбылося пагадненне аб узаемным падтрыманні ўсімі мерамі ў справе прадухілення і папярэджання пагрозы ваеннага нападу, а таксама аб аказанні адзін другому дапамогі супроць любога агрэсара. 12 сакавіка 1936 г. гэта вуснае пагадненне было замацавана падпісаннем пратакола, артыкул 2-гі якога гаворыць:

> «Урады Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Мангольскай Народнай Рэспублікі абавязваюцца ў выпадку ваеннага нападу на адну са старон, што дагаварваюцца, аказаць адзін другому ўсялякую, у тым ліку і ваенную дапамогу».

На пытанне амерыканскага журналіста Рой Говарда (у бяседзе з ім 1 красавіка 1936 г.), якою будзе пазіцыя СССР у выпадку нападу Японіі на МНР, таварыш Сталін адказаў:

> «У выпадку, калі Японія адважыцца напасці на Мангольскую Народную Рэспубліку, пакушаючыся на яе незалежнасць, нам прыдзецца дапамагчы Мангольскай Народнай Рэспубліцы... Мы дапаможам МНР гэтак сама, як мы дапамаглі ёй у 1921 годзе».

31 мая 1939 г., таварыш Молатаў у сваім дакладзе на III сесіі Вярхоўнага Савета СССР з вычарпальнай яснасцю заявіў:

> «Здаецца, пара ўжо зразумець, каму належыць, што Савецкі ўрад не будзе цярпець ніякіх правакацый з боку японa-манчжурскіх воінскіх часцей на сваіх граніцах. Зараз трэба аб гэтым напомніць і ў адносінах граніц Мангольскай Народнай Рэспублікі. Па існуючаму паміж СССР і Мангольскай Народнай Рэспублікай дагавору аб узаемадапамозе, мы лічым сваім абавязкам аказваць Мангольскай Народнай Рэспубліцы патрэбную дапамогу ў ахове яе граніц. Мы сур'ёзна адносімся да такіх рэчаў, як дагавор узаемадапамогі, які падпісан Савецкім урадам. Я павінен папярэдзіць, што граніцу Мангольскай Народнай Рэспублікі, у сілу заключанага паміж намі дагавора аб узаемадапамозе, бы будзем абараняць гэтак сама рашуча, як і сваю ўласную граніцу. Пара зразумець, што абвінавачанні ў агрэсіі супроць Японіі, выстаўленыя Японіяй супроць урада Мангольскай Народнай Рэспублікі, смешны і недарэчны. Пара таксама зразумець, што ўсякаму цярпенню ёсць мяжа. Таму лепш своечасова кінуць паўтараючыяся ўсё зноў і зноў правакатарскія нарушэнні граніцы СССР і МНР японa-манчжурскімі

воінскімі часцямі. Адпаведнае папярэджанне намі зроблена і праз японскага пасла ў Маскве».

Але правакатары не сунімаюцца, не гледзячы на тое, што яны атрымалі на працягу чэрвеня і ліпеня г. г. рад вельмі павучальных урокаў, не гледзячы на той сумны вынік, якім закончыліся за апошнія тыдні іх неаднаразовыя спробы ўтаржэння значнымі сіламі пяхоты, конніцы, артылерыі, танкаў і авіяцыі ў межы МНР.

Зарваўшыяся японскія ваякі, спецыялісты па апублікаванню хлуслівых і хвастлівых зводак аб сваіх мнімых поспехах, зноў, як год назад ля возера Хасан, атрымалі магчымасць пераканацца ў сіле і магутнасці совецкай зброі, у доблесці Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, часці якой грамілі ворага, у брацкім садружастве з часцямі Мангольскай народнай арміі.

Сталінскае папярэджанне па адрасу падпальшчыкаў вайны зноў атрымала сваё канкрэтнае пацверджанне на страх усім ворагам вялікай і магутнай соцыялістычнай дзяржавы, на радасць усім прыяцелям міру, працоўным усіх краін.

---

„Блокнот агитатора“
№ 22 (256). 1939.

П. Рубінчык

# Аб кнізе Леніна „Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм“

Кніга «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» была напісана Леніным увосень 1908 г. і выйшла ў свет у маі 1909 г. Гэта былі годы сталыпінскай рэакцыі. Эканамічнае развіццё Расіі тэтых год характарызуецца значнымі зменамі. Працэс канцэнтрацыі прамысловасці ў руках больш буйных капіталістычных груп, які пачаўся яшчэ да рэволюцыі 1905 года, узмацняецца. Капіталізм у Расіі становіцца ўсё больш манапалістычным, імперыялістычным. Аднак, некаторае ажыўленне прамысловасці ў Расіі ніяк не гаворыць за тое, што яна перастала быць адсталай у параўнанні з іншымі краінамі Еўропы.

Ленін у артыкуле «Як павялічыць размеры душавога спажывання ў Расіі» пісаў:

> «За поўвека пасля вызвалення сялян спажыванне жалеза ў Расіі ўзрасло ўпяцёра, і ўсё-ж Расія застаецца неймаверна, нябачана адсталай краінай, жабрацкай і поўдзікай, абсталяванай сучаснымі прыладамі вытворчасці ўчацвёра горш Англіі, упяцёра горш Германіі і ўдзесяцёра горш Амерыкі»*).

Царскі ўрад пасля рэволюцыі 1905 года пачаў узмоцнена ствараць сабе на вёсцы апору ў асобе шматлікага класа сялянскай буржуазіі—кулацтва. Сталыпінская палітыка выдзялення сялян з абшчын на хутары дала багацеям вёскі магчымасць разараць маламоцных сялян. Гэта палітыка не здолела падарваць сялянскі рух, чаго дамагаўся царскі сатрап Сталыпін. Праўда, першыя годы ўзмоцненага вылучэння на хутары (1907—1909) адметны некаторым зацішшам, але неўзабаве пракацілася новая хваля сялянскага руху, выкліканая палітыкай самага дзікага тэрору. Годы сталыпінскай рэакцыі адзначаюцца разбойніцкімі набегамі жандармаў і чорнасоценных грамілна рабочы клас. Уся краіна пакрываецца шыбеніцамі. Фабрыканты і заводчыкі прымянялі асабліва суровыя рэпрэсіі: аб'яўлялі лакауты, заносілі ў чорныя кнігі рабочых, якія ўдзельнічалі ў рэволюцыі 1905 года.

Сталыпінская рэакцыя парадзіла распад і разлажэнне ў радах спадарожнікаў рэволюцыі, якія выйшлі з асяроддзя буржуазнай інтэлігенцыі. У гэты цяжкі для рэволюцыйнага руху час яны пачалі прыстасоўвацца да рэакцыі, імкнуліся зжыцца з царызмам. Частка гэтых інтэлігентаў ператварылася ў шпіёнаў царскай ахранкі, у пра-

*) Ленін, т. XVI, стар. 543.

вакатараў рабочага руху. Другая частка прадпрыняла «крытыку» марксізма, прабуючы сваімі выдуманымі «тэорыямі» ўнесці яд разлажэння ў рабочы клас, каб адцягнуць масы ад рэвалюцыі. Гэтыя паны, прыкрываючыся фальшывым сцягам «палепшання» філасофіі марксізма, павялі наступленне на яго асновы. Двурушнікам і перараджэнцам трэба было даць адпор, і гэту гістарычную задачу бліскуча выканаў В. І. Ленін у сваёй выдатнай працы «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм».

Непасрэдным повадам да стварэння Леніным гэтай вялікай філасофскай працы з'явілася неабходнасць выкрыцця рускіх махістаў, якія выступілі ў годы рэакцыі супроць марксісцкай філасофіі пад сцягам «абароны» марксізма.

Аднак гэтым не вычэрпваецца значэнне ленінскай кнігі «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм». Яе з'яўленне адкрыла цэлую эпоху ў развіцці тэарэтычнай асновы бальшэвіцкай партыі—дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма. Гэта кніга з'явілася тэарэтычнай падрыхтоўкай партыі новага тыпу. Ацэньваючы гэту працу Леніна, тав. Сталін яшчэ ў 1924 годзе пісаў:

«Можа быць, найбольш яркім выражэннем таго высокага значэння, якое надаваў Ленін тэорыі, належала-б лічыць той факт, што не хто іншы, як Ленін, узяўся за выкананне сур'ёзнейшай задачы абагульнення па матэрыялістычнай філасофіі найбольш важнага з таго, што дана навукай за перыяд ад Энгельса да Леніна, і ўсебаковай крытыкі антыматэрыялістычных плыняў сярод марксістаў. Энгельс гаварыў, што «матэрыялізму прыходзіцца прымаць новы выгляд з кожным новым вялікім адкрыццём». Вядома, што гэту задачу выканаў для свайго часу не хто іншы, як Ленін, у сваёй выдатнай кнізе «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм»*).

Выкрыўшы, як пераражэнцаў і фальсіфікатараў, багданаўскую кампанію, якая прадпрыняла атаку на марксізм, Ленін бліскуча паказаў, што сабою прадстаўляюць і куды коцяцца гэтыя паны. У артыкуле «Марксізм і рэвізіянізм» Ленін указвае, што Багданаў, Базараў і інш., з'яўляючыся неаюмістамі і неаберкліанцамі, па сутнасці нічым не адрозніваюцца ад іншых рознавіднасцей рэвізіяністаў, што яны таксама плятуцца ў хвасце буржуазнай, прафесарскай навукі.

Далейшыя падзеі цалкам пацвердзілі прадбачанне Леніна аб будучым лёсе эмпірыокрытыкаў. Ад спроб спалучыць філасофію Маркса з ідэалістычнай філасофіяй Маха і Авенарыуса яны адкрыта перайшлі на пазіцыю ваяўнічага царкоўнага мракабесся. Ад спроб ліквідацыі рэвалюцыйнай партыі пралетарыята ў годы рэакцыі яны перайшлі да барацьбы супроць вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі. Падзенне гэтых людзей працягваецца і ў далейшым: яны прымаюць актыўны ўдзел у контррэвалюцыйных шкодніцкіх арганізацыях. Такі бясслаўны шлях нечуванага маральнага падзення і здрадніцтва прайшла большасць «эмпірыокрытыкаў».

У прамой дружбе з «эмпірыокрытыкамі» увесь час былі заклятыя ворагі народа Іуда-Троцкі, Бухарын, Зіноўеў, Рыкаў, Каменеў, Томскі і інш. Яны сустрэлі ў штыкі паяўленне кнігі Леніна «Матэ-

*) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 13—14, выд. 10-е.

рыялізм і эмпірыокрытыцызм» і адкрыта салідарызаваліся з багданаўскай «філасофіяй», выкарыстоўваючы яе для барацьбы супроць марксізма-ленінізма.

* * *

У бяседзе з першай амерыканскай рабочай дэлегацыяй таварыш Сталін класічна паказаў, як Ленін развіваў далей марксізм у цэлым, у тым ліку і філасофію марксізма.

> «Ленін не быў адно толькі выканаўцам вучэння Маркса—Энгельса. Ён быў разам з тым прадаўжальнікам вучэння Маркса і Энгельса. Што гэта значыць? Гэта значыць, што ён развіў далей вучэнне Маркса—Энгельса прыстасоўна да новых умоў развіцця, прыстасоўна да новай фазы капіталізма, прыстасоўна да імперыялізма. Гэта значыць, што, развіваючы далей вучэнне Маркса ў новых умовах класавай барацьбы, Ленін унёс у агульную скарбніцу марксізма нешта новае ў параўнанні з тым, што дана Марксам і Энгельсам, у параўнанні з тым, што магло быць дана ў перыяд даімперыялістычнага капіталізма, прычым гэта новае, унесенае Леніным у скарбніцу марксізма, базіруецца цалкам і поўнасцю на прынцыпах, даных Марксам і Энгельсам. У гэтым сэнсе і гаворыцца ў нас аб ленінізме, як марксізме эпохі імперыялізма і пралетарскіх рэвалюцый» *).

Як ва ўсіх сваіх класічных творах, так і ў «Матэрыялізме і эмпірыокрытыцызме» Ленін цалкам і поўнасцю апіраецца на прынцыпы марксізма. Развіваючы марксізм, Ленін, аднак, разглядае яго не як збор догматаў, не як катэхізіс і сімвал веры, а як навуку, якая не можа стаяць на адным месцы, якая развіваецца і ўдасканальваецца. Ленін узбагаціў марксізм новым вопытам рабочага рэвалюцыйнага руху, новымі ведамі, а паасобныя яго палажэнні і вывады замяніў новымі, адпавядаючымі новым гістарычным умовам.

Метад Леніна, гаворыць таварыш Сталін, з'яўляецца не толькі аднаўленнем, але і канкрэтызацыяй, далейшым развіццём крытычнага і рэвалюцыйнага метада Маркса, яго матэрыялістычнай дыялектыкі. Ленінізм у філасофіі прадстаўляе сабой новы, вышэйшы этап у развіцці філасофіі марксізма. Ленінізм, аднавіў марксізм пасля ўсіх скажэнняў і адступленняў, якія зрабілі апартуністы II інтэрнацыянала. Але ленінізм не толькі аднавіў марксізм, але і развіў яго далей. Эпоха імперыялізма і пралетарскіх рэвалюцый дае надзвычай складаныя формы адносін класаў і класавай барацьбы. Для гэтай эпохі характэрна нябачанае абвастрэнне ўсіх супярэчнасцей. Усё гэта патрабавала свайго тэарэтычнага абагульнення і асэнсення, і гэта вялікае зрабіў Ленін, а пасля Леніна—прадаўжальнік справы Маркса, Энгельса, Леніна—Сталін.

> «Можна сказаць без пераўвелічэння, што пасля смерці Энгельса найвялікшы тэарэтык Ленін, а пасля Леніна—Сталін і іншыя вучні Леніна—былі адзінымі марксістамі, якія рухалі ўперад марксісцкую тэорыю і ўзбагацілі яе новым вопытам у новых умовах класавай барацьбы пралетарыята»**).

---

*) „Пытанні ленінізма", стар. 169.
**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 338—339.

Работы Леніна па дыялектычнаму і гістарычнаму матэрыялізму абагульняюць вынікі развіцця прыродазнаўства пасля Маркса і Энгельса, аналізуюць становішча прыродазнаўчых навук, а ў асаблівасці становішча фізікі, ускрываюць сутнасць і сэнс глыбокага крызіса, пераживаемага навукай у гэты час, і тлумачаць гэтыя працэсы з пункту погляду матэрыялістычнай дыялектыкі. Маркс і Энгельс займаліся абагульненнем прыродазнаўства свайго часу. Яны паклалі асновы дыялектыка-матэрыялістычнай трактоўцы ўсіх пытанняў і праблем прыродазнаўчых навук. «Дыялектыка прыроды» Энгельса прадстаўляе сабой велічную працу. Гэта кніга абагульняе і аналізуе прыродазнаўства XIX века, дае ўзор прымянення дыялектыкі ў прыродазнаўстве. Такім-жа ўзорам прымянення дыялектыкі ў прыродазнаўстве з'яўляецца ленінскі «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм».

Ленін узбагаціў і развіў далей філасофію марксізма, узняўшы яе на новую ступень тым, што з асаблівай сілай падкрэсліў прынцып партыйнасці філасофіі і навукі.

Ленінскі прынцып партыйнасці філасофіі і навукі з'яўляецца канкрэтызацыяй і далейшым развіццём палажэння марксізма аб партыйна-класавым характары навукі і філасофіі, аб рэвалюцыйна-дзейсным характары нашай філасофіі.

У «Матэрыялізме і эмпірыокрытыцызме» Ленін услед за Энгельсам геніяльна паказаў, што ў галіне філасофіі змагаюцца два варожыя адзін другому лагеры—матэрыялістаў і ідэалістаў, якія ў канчатковым выніку выражаюць інтарэсы антаганістычна процілеглых класаў—буржуазіі і пралетарыята, і што абманам і двудушшам з'яўляюцца выказванні махістаў-багданаўцаў, быццам іх філасофія ўзвышаецца над гэтымі двума лагерамі.

Наконт гэтага Ленін пісаў:

> «...За гнасеалагічнай схаластыкай эмпірыокрытыцызма нельга не бачыць барацьбы партый у філасофіі, барацьбы, якая ў канчатковым выніку выражае тэндэнцыі і ідэалогію варожых класаў сучаснага грамадства. Навейшая філасофія гэтак сама партыйна, як і дзве тысячы год таму назад»*).

Ленін завастрыў пытанне аб партыйнасці філасофіі імена таму, што ён услед за Марксам і Энгельсам непасрэдна звязаў тэорыю з практыкай, ператвараў тэорыю на практыцы, бачыў у адзінстве тэорыі і практыкі залог перамогі комунізма. Усякія хістанні ў галіне тэарэтычнай мыслі Ленін разглядаў як прамую шкоду партыйнай справе, а хістаючыхся ў галіне тэорыі людзей—як прамых пасобнікаў буржуазіі. Ленін паказаў арганічнае адзінства філасофіі і палітыкі, неразрыўнае адзінства дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма з палітыкай партыі пралетарыята.

* * *

Работа Леніна «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм»—твор сусветна-гістарычнага значэння. У гэтай працы Ленін абараняе тэарэтычныя асновы большэвіцкай партыі, выкрывае шматлікіх ворагаў марксізма, якія аб'явілі паход супроць гэтых асноў.

---

*) **Ленін**, т. XIII, стар. 292.

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» аб гэтай кнізе Леніна гаворыцца:

«Кніга Леніна з'яўляецца... матэрыялістычным абагульненнем усяго важнага і істотнага з таго, што набыта навукай і, перш за ўсё, прыродазнаўствам за цэлы гістарычны перыяд, за перыяд ад смерці Энгельса да паяўлення ў свет кнігі Леніна «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм»*).

І далей:

«Бальшэвікі хацелі стварыць новую, **бальшэвіцкую** партыю, здольную быць узорам для ўсіх, хто хацеў мець сапраўдную рэвалюцыйную марксісцкую партыю. Бальшэвікі рыхтавалі такую партыю ўжо з часоў старой «Искры». Яны рыхтавалі яе ўпорна, настойліва, не гледзячы ні на што. Асноўную і рашаючую ролю адыгралі ў гэтай падрыхтоўчай рабоце такія працы Леніна, як «Што рабіць?», «Дзве тактыкі» і т. д. Кніга Леніна «Што рабіць?», была **ідэалагічнай** падрыхтоўкай такой партыі. Кніга Леніна «Крок уперад, два крокі назад» была **арганізацыйнай** падрыхтоўкай такой партыі. Кніга Леніна «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі» была **палітычнай** падрыхтоўкай такой партыі. Нарэшце, кніга Леніна «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» была **тэарэтычнай** падрыхтоўкай такой партыі»**).

Кніга Леніна «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм»—гэта класічны твор марксізма-ленінізма, які ў радзе іншых твараэнняў Леніна прадстаўляе тэарэтычную падрыхтоўку нашай партыі. У ёй Ленін дае канкрэтны і грунтоўны разбор, усебаковую крытыку ідэалістычных тонкасцей рэвізіяністаў—ворагаў марксізма, якія прыкрываліся фальшывым сцягам «абароны» марксізма. У гэтай кнізе Ленін адстаяў тэарэтычны фундамент комунізма, тэарэтычныя асновы нашай партыі. У ёй Ленін паказаў, што багданаўская кампанія пляцецца ў хвасце рэакцыйных прафесараў Захада—Маха і Авенарыуса і што гэтыя апошнія ў сваю чаргу цалкам і поўнасцю рэстаўрыравалі філасофію епіскапа Берклі, які ў XVIII стагоддзі выступіў, як вораг навукі і культуры, як мракабес з мракабесаў.

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» гаворыцца:

«Каб ацаніць велізарнае значэнне кнігі Леніна ў гісторыі нашай партыі і зразумець—якое тэарэтычнае багацце адстаяў Ленін супроць усіх і ўсякіх рэвізіяністаў і перараджэнцаў перыяду сталыпінскай рэакцыі, неабходна, хоць-бы каротка, пазнаёміцца з асновамі дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма.

Гэта тым больш неабходна, што дыялектычны і гістарычны матэрыялізм састаўляюць тэарэтычны фундамент комунізма, тэарэтычныя асновы марксісцкай партыі, а веданне гэтых асноў і, значыць, іх усваенне з'яўляецца абавязкам кожнага актыўнага дзеяча нашай партыі» ***).

У гэтай выдатнай працы па марксісцкай філасофіі матэрыялізм характарызуецца наступнымі асноўнымі палажэннямі:

*) Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 97—98.
**) Там-жа, стар. 134.
***) Там-жа, стар. 98.



1. У процілегласць ідэалізму марксісцкі філасофскі матэрыялізм лічыць, што свет не ёсць увасабленне «сусветнага духа», абсалютнай ідэі, «сазнання», а што ён матэрыяльны, што рознастайнасць з'яў свету—гэта розныя віды рухаючайся матэрыі, што законы развіцця свету карэняцца ў ім самім, што адзінства свету заключаецца ў яго матэрыяльнасці.

2. Што прырода, матэрыя ёсць аб'ектыўная рэальнасць, даная нам у адчуваннях, але існуючая незалежна ад адчуванняў і чалавечага сазнання, што само сазнанне ёсць вынік, прадукт матэрыі, што матэрыя пярвічна, а сазнанне ўтарычна, што сазнанне ёсць адлюстраванне быцця, што мышленне не аддзяліма ад матэрыі, якая мысліць.

3. У процілегласць ідэалізму марксісцкі філасофскі матэрыялізм сцвярджае, што свет і законы яго развіцця ўпаўне пазнаваемы для чалавека, што практыка, як сукупнасць рэволюцыйна-пераўтвараючай дзейнасці грамадскага чалавека, з'яўляецца адзіна правільным і даставерным крытэрыем ісціннасці чалавечага пазнання.

Гэтыя тры палажэнні марксісцкага філасофскага матэрыялізма, з гранічнай глыбінёй і чоткасцю сфармуляваныя ў раздзеле IV «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», складаюць сутнасць нашага марксісцка-ленінскага філасофскага светапогляду. Энгельс у сваёй вядомай кнізе «Людвіг Фейербах» пісаў:

> «Важнейшае пытанне ўсёй філасофіі» ёсць «пытанне аб адносінах мышлення да быцця, духа да прыроды...
>
> Філосафы раздзяліліся на два вялікія лагеры адпаведна таму, як адказвалі яны на гэтае пытанне. Тыя, якія сцвярджалі, што дух існаваў раней прыроды... склалі **ідэалістычны** лагер. Тыя-ж, якія пярвічнай лічылі прыроду, належаць да розных школ матэрыялізма»*).

Аналіз сутнасці марксісцкага філасофскага матэрыялізма, даны ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)», з'яўляецца прамым працягам і развіццём гэтага класічнага вызначэння Энгельса.

Супроць непахісных палажэнняў філасофіі марксізма-ленінізма змагаліся і змагаюцца ідэалісты, супроць гэтых-жа палажэнняў выступілі перараджэнцы і рэвізіяністы з багданаўскай кампаніі. Іменна яны ўзнялі на шчыт ідэалістычную філасофію мракабеса Берклі і філасофію Маха, Авенарыуса для таго, каб павесці паход супроць філасофскага матэрыялізма Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

У сваёй кнізе «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» Ленін да канца выкрыў гэтых філасофскіх перараджэнцаў і даў класічнае ізлажэнне асноў светапогляду нашай партыі. Ленін даказвае, што матэрыялізм, як філасофскі светапогляд, бярэ за пярвічнае—матэрыю, лічачы дух, сазнанне, мышленне ўтарычным, вытворным ад матэрыі. Ідэалізм, наадварот, лічыць пярвічным і пачатковым дух, сазнанне, мысль, ідэю, адчуванне, а прыроду, матэрыю аб'яўляе вытворным ад духа, сазнання, адчування. Ленін выкрывае ідэалістычнае вучэнне як рознавіднасць папоўшчыны і падрабязна распрацоўвае пытанне аб чалавечым пазнанні, развівае матэрыялістычную тэорыю пазнання як тэорыю адлюстравання прадметаў мыслю. Ён гаворыць, што «чалавечае мышленне па прыродзе сваёй здольна даваць і дае нам абсалютную ісціну, якая складаецца з сумы адносных ісцін» **).

*) Маркс, „Выбраныя творы", т. I, стар. 334.
**) Ленін, т. XIII, стар. 110.

Абараняючы і развіваючы гэтыя геніяльныя палажэнні матэрыялістычнай філасофіі, Ленін бязлітасна бічуе «эмпірыокрытыкаў» за іх ідэалізм. Ленін паказвае, што «эмпірыокрытыкі», гэтак сама як Мах і Авенарыус, літаральна нічога новага не ўносяць у філасофію, а толькі паўтараюць зады суб'ектыўнай ідэалістычнай філасофіі Берклі і Юма, што яны прыкрываюцца толькі іншымі славечкамі, сутнасць якіх—тое-ж самае, што некалі сцвярджаў філасофствуючы поп Берклі.

Ленін паказвае поўнае супадзенне канцэпцыі Багданава і Берклі. Робячы выпіскі з работ абодвух, Ленін прыводзіць наступныя цытаты: «Дзіўным чынам сярод людзей пераважае думка, што дамы, горы, рэкі, адным словам, адчувальныя рэчы маюць існаванне, прыроднае ці рэальнае, адметнае ад таго, што іх успрымае розум*).

Прывёўшы гэтае месца з Берклі, якое ў самай непрыкрытай форме сцвярджае суб'ектыўна-ідэалістычную мысль аб тым, што няма рэальных прыродных рэчаў па-за чалавечай свядомасцю, Ленін паказвае, што на гэтых-жа пазіцыях стаіць і Багданаў, які ў сваёй фармуліроўцы гэтага-ж пытання толькі прыкрываецца, маскіруецца іншымі славечкамі, каб намерана скрыць сутнасць справы. Ленін цыціруе з пісьма Багданава Плеханаву наступныя словы: «... Махістам у філасофіі прызнаць сябе я не магу. У агульнай філасофскай канцэпцыі я ўзяў у Маха толькі адно—уяўленне аб нейтральнасці элементаў вопыта ў адносінах да «фізічнага» і «псіхічнага», аб залежнасці гэтых характарыстык толькі ад **сувязі** вопыта» **).

Як відаць з пачатку гэтай цытаты, Багданаў не хоча прызнаць сябе махістам. Ленін-жа паказвае, што Багданаў узяў самае асноўнае і самае галоўнае ў Маха, гэтак сама, як апошні ўзяў самае асноўнае і галоўнае ў епіскапа Берклі, а іменна: адмаўленне аб'ектыўнай рэальнасці матэрыі, прыроды. Пры гэтым Ленін паказвае, што Багданаў, адмаўляючы тое, што ён узяў самае галоўнае ў Маха, упадабляецца чалавеку, які сцвярджаў-бы, што ён сябе не можа прызнаць рэлігійным чалавекам, староннікам рэлігіі, у сілу таго, што ўзяў у гэтых староннікаў толькі адно, а іменна: веру ў бога. Гэтым Ленін паказвае, што Багданаў—берклііанец чысцейшай вады.

Калі паставіць пытанне: чаму Берклі, Мах, Авенарыус, Багданаў і яго кампанія выступілі супроць асноўнага сцвярджэння матэрыялістычнай філасофіі, што матэрыя ёсць аб'ектыўная рэальнасць,—то на гэта пытанне ясны і чоткі адказ можна знайсці ў пісаннях Берклі. Гэты філасофствуючы поп выступіў супроць матэрыялізма з адкрытым забралам, выступіў як адкрыты вораг матэрыялізма, у той час як багданаўская кампанія выступіла супроць матэрыялізма нячэсна і ліцамерна, двурушнічаючы на кожным кроку. Адказваючы на пытанне, чаму матэрыя, прырода не з'яўляюцца аб'ектыўнай рэальнасцю, Берклі пісаў: «Я сцвярджаю гэтак сама, як і вы» (матэрыялісты), «што, раз на нас аказвае дзеянне нешта звонку, то мы павінны дапусціць існаванне сіл, якія знаходзяцца па-за (намі), сіл, якія належаць істоце, адметнай ад нас. Але тут мы разыходзімся па пытанню аб тым, якога роду гэта магутнейшая істота. Я сцвярджаю, што гэта дух, вы—што гэта матэрыя» ***).

---

*) Ленін, т. XIII, стар. 19.
**) Там-жа, стар. 47.
***) Цыціравана па Леніну, т. XIII, стар. 25.

Паміж філасофскімі поглядамі Багданава і кампаніі і іх богабудаўніцтвам і богашукальніцтвам—сувязь самая непасрэдная і прамая. У іншай форме Багданаў таксама сцвярджаў, што магутнейшай істотай па-за (намі) з'яўляецца дух. Толькі гэта прыкрывалася туманнымі і замыславатымі «тэорыйкамі» і славечкамі.

У кнізе «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» Ленін асаблівую ўвагу ўдзяліў пытанням навейшага прыродазнаўства. Ён паказаў, што ўсякая спроба сучасных ідэалістаў выкарыстаць у сваёй барацьбе супроць матэрыялізма навейшыя адкрыцці ў галіне прыродазнаўства немінуча павінна пацярпець крах.

Ленін геніяльна паказаў, у чым сапраўдная сутнасць крызіса фізікі ў канцы XIX века.

У канцы XIX века класічная фізіка дасягнула вяршыні свайго развіцця. Навука аб механічным руху матэрыяльных цел была развіта настолькі, што большасці фізікаў яна здавалася абсалютна завершанай. Было даказана, што ўсе целы складаюцца з атамаў, колькасць разнавіднасцей якіх вылічвалася некалькімі дзесяткамі. Была абвергнута ідэя аб тым, што некаторыя целы не маюць вагі, што цеплыня і электрамагнітная энергія ўзаемна ператвараюцца адна ў другую і ў механічны рух. Закон захавання і ператварэння энергіі пасля некаторай барацьбы быў прызнан агульным законам прыроды.

Але далейшыя поспехі фізікі ў XIX стагоддзі, у сувязі з вялікім адкрыццём электроннай тэорыі, парадзілі блытаніну і хістанні ў тэарэтычных поглядах многіх фізікаў, якія з электроннай тэорыі зрабілі асобыя вывады. Яны ўяўлялі сабе, што разам з гэтым адкрыццём рушацца апошнія непадзельныя асновы светабудовы, што пасля таго, як быў даказан рух электронаў унутры атама, знікла тэорыя аб тым, што атам складаецца з частак матэрыі. Радыёактыўны распад цяжкіх атамаў, даследаванне спецыяльным аналізам праменняў, якія вылучаюцца атамамі, навочна паказала, што атамы зусім не непадзельны, а з'яўляюцца складанай сістэмай. У гэты-ж перыяд была даказана электрычная прырода атамаў, якую ў далейшым ужо нельга было зводзіць да механікі.

Рухнула старая механістычная карціна свету. Разам з тым рухнулі і старыя фізічныя ўяўленні аб матэрыі. Калі раней пад матэрыяй разумелі тое, што ўладае пэўнымі, раз назаўсёды данымі ўласцівасцямі (непранікальнасць, інертнасць, маса і т. д.), то цяпер аказалася, што састаўная, толькі што адкрытая частка атама— электрон зусім не ўладае масай у звычайным, механістычным сэнсе слова: яго маса электрамагнітнага характару. Але калі знікла маса, якая лічылася неад'емнай уласцівасцю матэрыі, то як быць з самой матэрыяй: ці не знікла разам з масай і яна? Гэта ўнесла разброд у галавы многіх фізікаў, якія не ўмелі мысліць дыялектычна. І далей. У з'яве радыёактыўнага распаду атамы аднаго элемента ператвараюцца ў атамы другога элемента, пры гэтым маса новага атама менш чым маса адпраўнага. Ці не падае закон аб захаванні масы? Роўным чынам не зразумела, адкуль бярэцца пры распадзе каласальная энергія, якая можа тысячагоддзямі выкідвацца з атама. Апошні прадстаўляецца невычарпальнай крыніцай энергіі. Ці не рушыцца тут і закон захавання энергіі? Усе гэтыя пытанні і сумненні паказваюць, што велізарнейшыя поспехі прыродазнаўства, адкрыцці фізікі не ўкладаліся ў рамкі старых вузкіх разуменняў. Здавалася-б, што рухнулі ўсе старыя ўяўленні, пасаромлены ўсе вядомыя законы.

Так разразіўся крызіс канца XIX і пачатку XX века, крызіс, які адлюстроўвае не крах і застой навукі, а яе поспех і рост.

Ленін у «Матэрыялізме і эмпірыокрытыцызме» геніяльна ўскрыў сапраўдную прычыну і змест крызіса фізікі. Ленін паказаў, што гэта не крызіс фізікі як навукі, а крызіс тэарэтычных асноў у тых буржуазных прафесараў і вучоных, якім чужда была дыялектыка, што яны звіхнуліся ў ідэалізме галоўным чынам таму, што не ведалі дыялектыкі. У сваёй геніяльнай кнізе Ленін паказвае, што **«сутнасць** крызіса сучаснай фізікі заключаецца ў ломцы старых законаў і асноўных прынцыпаў, у адкідванні аб'ектыўнай рэальнасці па-за свядомасцю, г. зн. у замене матэрыялізма ідэалізмам і агнастыцызмам *).

Ленін даў глыбокі аналіз рэакцыйнага характару ідэалістычных плыняў у прыродазнаўстве і ўскрыў іх грамадскі сэнс. Ён паказаў, што кожнае новае адкрыццё ў прыродазнаўстве не адмаўляе, а толькі пацвярджае дыялектычны матэрыялізм. Ён паказаў, што разлажэнне атама на электроны не азначае, што «матэрыя знікла», гэта не крах самой матэрыі, а крах старых, застыўшых паняццяў аб ёй.

> «Матэрыя знікае»—гэта значыць знікае тая мяжа, да якой мы ведалі матэрыю да гэтага часу, нашы веды ідуць глыбей; знікаюць такія ўласцівасці матэрыі, якія здаваліся раней абсалютнымі, нязменнымі, першапачатковымі (непранікальнасць, інерцыя, маса і т. п.) і якія цяпер выяўляюцца, як адносныя, уласцівыя толькі некаторым станам матэрыі. Бо **адзіная** «ўласцівасць» матэрыі, з прызнаннем якой звязан філасофскі матэрыялізм, ёсць уласцівасць **быць аб'ектыўнай рэальнасцю,** існаваць па-за нашай свядомасцю**).

Разам з тым Ленін даказаў, што матэрыя невычарпальна і бясконца ў сваім руху.

Энгельс даў грандыёзнае філасофска-матэрыялістычнае абагульненне прыродазнаўству свайго часу.

У сваёй кнізе «Дыялектыка прыроды» Энгельс наказаў, што тыя прыродазнаўцы, якія ваабражаюць, што яны вызваляюцца ад філасофіі, калі ігнарыруюць або лаюць яе, на самай справе аказваюцца ў палоне ў філасофіі, але, нажаль, большаю часткай самай дрэннай. Старанна лаючы філасофію, яны становяцца рабамі вульгарызаваных астаткаў самых брыдотных філасофскіх сістэм.

Ленін, гэтак сама як і Энгельс, геніяльна паказаў, у палон якой брыдоты і вульгарызаванай філасофіі трапілі тыя прыродазнаўцы, якія лаялі матэрыялістычную філасофію, якія не прызнавалі дыялектыку.

Ленін паказаў, што як немец Мах, француз Анры Пуанкарэ, бельгіец Дзюгем, так і англічанін Пірсон стаяць на адных пазіцыях—пазіцыях філасофскага ідэалізма, фідэізма. Паказаўшы, у якое балота трапіла значная частка фізікаў, Ленін разам з тым паказаў, куды ідзе фізіка.

> «Сучасная фізіка,—пісаў Ленін,—ляжыць у родах. Яна нараджае дыялектычны матэрыялізм. Роды хваравітыя. Акрамя жывой і жыццяздольнай істоты, яны даюць немінуча некаторыя мёртвыя прадукты, сякія-такія адкіды, якія падлягаюць адпраўцы

*) Ленін, т. XIII, стар. 211.
**) Там-жа, стар. 213.

ў памяшканне для нечыстот. Да ліку гэтых адкідаў адносіцца ўвесь фізічны ідэалізм, уся эмпірыокрытычная філасофія разам з эмпірыосімвалізмам, эмпірыоманізмам і інш. і т. п.*)

Ускрываючы сутнасць крызіса тэарэтычных асноў у буржуазных фізікаў, Ленін паказаў, што для ўсяго матэрыялізма ў цэлым адпраўным з'яўляецца філасофскае палажэнне аб матэрыі, якое гаворыць:

> «Матэрыя ёсць філасофская катэгорыя для абазначэння аб'ектыўнай рэальнасці, якая дана чалавеку ў адчуваннях яго, якая капіруецца, фатаграфіруецца, адлюстроўваецца нашымі адчуваннямі, існуючы незалежна ад іх» **).

Ленін паказаў далей, што філасофскае вызначэнне матэрыі ні ў якім разе не супярэчыць, а наадварот—знаходзіцца ў поўнай згодзе з прыродазнаўча-навуковым разуменнем матэрыі.

Ленін геніяльна паказаў, што філасофскае разуменне матэрыі нязменна ў тым выпадку, паколькі яно вызначае адвечныя і нязменныя ўласцівасці матэрыі быць аб'ектыўнай рэальнасцю, і што прыродазнаўча-навуковае разуменне матэрыі змяняема, паколькі мы ўсё больш і больш пазнаем фізічныя і хімічныя ўласцівасці матэрыі. Асноўнае значэнне філасофскага разумення матэрыі, данае Леніным, заключаецца ў тым, што яно абвяргае ідэалізм і папоўшчыну, даказваючы, што няма іншай аб'ектыўнай рэальнасці акрамя матэрыі. Іменна таму ідэалісты ўсіх масцей прабавалі і прабуюць абвергнуць гэтае панящце. Берклі, Юм і махісты-эмпірыокрытыкі на чале з Багданавым выступілі супроць гэтага асноўнага паняцця філасофскага матэрыялізма ў часе абароны ідэалізма. Яны даказвалі, што матэрыя ёсць сукупнасць адчуванняў чалавека, што няма матэрыі па-за адчуваннямі, што матэрыя не ёсць аб'ектыўная рэальнасць.

Ленін разбіў махістаў-эмпірыокрытыкаў і даказаў, што абсурдным з'яўляецца погляд тых фізікаў, якія прышлі да вываду, у сувязі з адкрыццём электронаў, што «матэрыя знікла». Ён геніяльна даказаў, што не матэрыя знікла, а знікла тая мяжа, да якой людзі ведалі матэрыю дагэтуль, г. зн. зніклі такія ўласцівасці матэрыі, якія здаваліся раней абсалютнымі і нязменнымі і якія цяпер выяўляюцца, як адносныя, уласцівыя толькі некаторым станам матэрыі, што засталася і заўсёды застанецца пры ўсіх адкрыццях асноўная ўласцівасць матэрыі быць аб'ектыўнай рэальнасцю, існаваць незалежна ад свядомасці.

Ленін геніяльна паказаў, што прагрэс навукі толькo сцвярджае правільнасць поглядаў дыялектычнага матэрыялізма на матэрыю як аб'ектыўную рэальнасць. Бо адкрыццё навукай электронаў якраз і сцвярджае тое, што матэрыя ёсць аб'ектыўная рэальнасць. Бо рух электронаў унутры атама адбываўся да таго, як людзі аб гэтым даведаліся, а гэта толькі і гаворыць за тое, што матэрыя ў філасофскім сваім вызначэнні ёсць тое, што існуе па-за сазнаннем чалавека, па-за залежнасцю ад сазнання.

Геніяльна паказаўшы, што матэрыя ёсць аб'ектыўная рэальнасць, Ленін у гэтай-жа сваёй працы разгарнуў вучэнне аб тым, што рух, прастора і час ёсць формы існавання матэрыі. Ленін паказаў, што

*) Ленін, т. XIII, стар. 256.
**) Там-жа, т. XIII, стар. 105—106.

погляд дыялектычнага матэрыялізма зводзіцца да таго, што ўсе целы знаходзяцца ў безупынным руху і змяненні, што няма матэрыі без руху, што рух ёсць форма існавання матэрыі, што рух не зводзіцца да механічнага перамяшчэння цел, а абнімае сабой усе чыста змяненні, якія адбываюцца ў прыродзе і ў грамадстве, што больш складанымі формамі руху, чым механічны, з'яўляецца цеплыня, хімічная рэакцыя, святло і электрычнасць, рух арганізма ў сэнсе жыцця арганізма, грамадскі рух, рух у мышленні. Гэтым самым Ленін даказаў, што рознастайныя формы руху складаюцца ў працэсе ўзаемадзеяння з'яў. Ленін далей паказаў, што гэтак сама, як няма матэрыі без руху, няма і руху без матэрыі, што сцвярджэнне, быццам існуе матэрыя без руху,—ёсць ідэалізм, што такое дапушчэнне роўна дапушчэнню таго, што існуе мышленне без мозга.

У цеснай і непарыўнай сувязі з разуменнем руху, як формы існавання матэрыі, знаходзіцца і ленінскае вучэнне аб прасторы і часе:

> «Прызнаючы існаванне аб'ектыўнай рэальнасці, г. зн. рухаючайся матэрыі, незалежна ад нашага сазнання, матэрыялізм неміндуча павінен прызнаваць таксама аб'ектыўную рэальнасць часу і прасторы»*).

Аб гэтым-жа Ленін далей пісаў:

> «Можа ўстарэць і старэе з кожным днём вучэнне навукі аб будове вешчаства, аб хімічным саставе ежы, аб атаме і электроне, але не можа ўстарэць ісціна, што чалавек не можа харчавацца мыслямі і нараджаць дзяцей пры адной толькі платанічнай любві. А філасофія, якая адмаўляе аб'ектыўную рэальнасць часу і прасторы, гэтак сама бязглузда, унутрана-гніла і фальшыва, як адмаўленне гэтых апошніх ісцін»**).

У вучэнні аб прасторы і часе, як аб'ектыўных формах існавання матэрыі, Ленін, як і па ўсіх пытаннях, выкрывае ідэалістычную бязглуздзіцу махістаў-эмпірыокрытыкаў. Ён выкрывае іх погляд аб тым, што не прырода дае нам разуменне прасторы і часу, а мы даем іх прыродзе, бо мы знаходзім іх зручнымі. Ён выкрывае Багданава і Базарава, якія лічылі, што «прастора і час—формы сацыяльнага вопыту розных людзей».

Вучэнне Леніна аб матэрыі і руху, аб прасторы і часе з усёй сілай паказвае, што кніга «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» дапамагла асэнсіць і абагуліць навейшыя адкрыцці фізікі, зразумець сутнасць крызіса яе, што яна ўказала матэрыялістычны шлях выхаду з крызіса прыродазнаўства.

* * *

У «Матэрыялізме і эмпірыокрытыцызме» Ленін разгарнуў сваю велічную тэорыю адлюстравання—тэорыю пазнання дыялектычнага матэрыялізма. Ленін паказаў, што правільнае вырашэнне пытанняў тэорыі пазнання цалкам і поўнасцю залежыць ад вырашэння асноўнага пытання філасофіі: аб адносінах мышлення да быцця. Дыялектычны матэрыялізм вырашае гэта пытанне такім чынам, што

---

*) **Ленін**, т. XIII, стар. 143.
**) Там-жа, стар. 152.

пярвічным і адпраўным з'яўляецца знешні, аб'ектыўны свет, а ўтарычным і вытворным з'яўляецца сазнанне, у якім гэты свет адлюстроўваецца. У працэсе пазнання навакольнага свету складаюцца адносіны паміж суб'ектам і аб'ектам пазнання, што пад аб'ектам пазнання, трэба разумець сам па сабе існуючы знешні свет, матэрыяльную сапраўднасць, а пад суб'ектам пазнання—пазнаючага чалавека, дзейнасць якога накіравана на змяненне навакольнага асяроддзя, што адзінства суб'екта і аб'екта з'яўляецца дыялектычным адзінствам, якое мае асновай гістарычную рэвалюцыйную практыку людзей.

У сваім вялікім вучэнні Ленін паказаў, што дыялектычнае адзінства аб'екта і суб'екта ў пазнанні заключаецца ў грамадскай рэвалюцыйна-пераўтвараючай практыцы, што людзі праз грамадскія сувязі і адносіны пазнаюць і ажыццяўляюць сваё панаванне над прыродай, што склаўшыяся ў працэсе вытворчасці адносіны на базе прадукцыйных сіл складаюць аб'ектыўную аснову гістарычнага працэса. Ленін геніяльна паказаў, што ў вызначэнні сваіх мэт і задач мы выходзілі з аб'ектыўнасці гістарычнага працэса, і ў сілу гэтага комунізм, як наша мэта, з'яўляецца не утапічным, а навуковым.

У сваім вучэнні аб пазнанні, як адлюстраванні чалавекам аб'ектыўнай прыроды, Ленін паказаў, што сродкам і крыніцай пазнання з'яўляюцца пачуцці чалавека, якія даюць «суб'ектыўны вобраз аб'ектыўнага свету», устанаўляюць сувязь сазнання са знешнім светам, што шлях чалавечага пазнання ляжыць «ад жывога сузірання к абстрактнаму мышленню і **ад яго к практыцы**—такі дыялектычны шлях пазнання **ісціны,** пазнання аб'ектыўнай рэальнасці» *).

Ленін далей паказаў, што мышленне бясконца набліжаецца да аб'екта, што адлюстраванне прыроды ў мыслях чалавека трэба разумець не «мёртва», не «абстрактна», не без руху, не без супярэчнасцей, а ў спрадвечным працэсе руху, узнікнення супярэчнасцей і вырашэння іх. Дыялектычны матэрыялізм, як гэтаму вучыць Ленін, стаіць на пункце погляду адзінства мышлення і адчування ў пазнанні, што дыялектычным матэрыялізмам пераможана абмежаванасць сенсуалізма і рацыяналізма. Ленін разгарнуў вучэнне аб практыцы, як крытэрыі ісціны, і паказаў, што поспех чалавечай практыкі даказвае адпаведнасць нашых уяўленняў з аб'ектыўнай прыродай, што толькі ў грамадска-гістарычнай практыцы чалавецтва, якую трэба разумець у самым шырокім сэнсе як рэвалюцыйную пераўтвараючую дзейнасць, што выражаецца ў класавым грамадстве ў барацьбе класаў, даецца крытэрый сапраўднасці чалавечага пазнання навакольнага свету.

* *
*

Велізарную ўвагу ўдзяляе Ленін пытанням гістарычнага матэрыялізма, якія прадстаўляюць сабой пашырэнне палажэнняў дыялектычнага матэрыялізма на вучэнне грамадскага жыцця. Тое, што дана Леніным у пытаннях гістарычнага матэрыялізма, прадстаўляе сабой новую ступень у яго развіцці. Пачынаючы ад кнігі «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» і канчаючы апошнімі працамі, Ленін развіў і ўзбагаціў гістарычны матэрыялізм Маркса—Энгельса, звязваючы яго непасрэдна з палі-

*) Ленін, „Філасофскія сшыткі", стар. 166.

тыкай партыі на розных этапах яе развіцця. Ленінскія работы стаяць у радзе велічных гістарычных работ Маркса і Энгельса.

Ленін лічыў пярвейшай задачай гістарычнай навукі вывучэнне законаў развіцця прадукцыйных сіл і вытворчых адносін, законаў эканамічнага развіцця грамадства. Ён разглядае гістарычную навуку як навуку, якая перш за ўсё цікавіцца гісторыяй працоўных мас, гісторыяй народаў.

Ленін зыходзіць з таго, што чалавечае грамадства не стаіць на месцы, што адзін тып вытворчых адносін змяняецца другім тыпам. Так, першабытнае грамадства змянілася рабаўладальніцкім, рабаўладальніцкае—феадалізмам, феадалізм—капіталізмам, і, нарэшце, капіталістычнае грамадства павінна немінуча змяніцца комунізмам. Пераход ад аднаго ладу да другога ні ў якім разе не працякае гладка, без патрасенняў, без рэволюцыйнай барацьбы і свядомага дзеяння мас.

> «На аснове канфлікту паміж новымі прадукцыйнымі сіламі і старымі вытворчымі адносінамі, на аснове новых эканамічных патрэбнасцей грамадства ўзнікаюць новыя грамадскія ідэі, новыя ідэі арганізоўваюць і мабілізоўваюць масы, масы згуртоўваюцца ў новую палітычную армію, ствараюць новую рэволюцыйную ўладу і скарыстоўваюць яе для таго, каб скасаваць сілай старыя парадкі ў галіне вытворчых адносін і ўцвярдзіць новыя парадкі. Стыхійны працэс развіцця ўступае месца свядомай дзейнасці людзей, мірнае развіццё—гвалтоўнаму перавароту, эвалюцыя—рэволюцыі»*).

У «Матэрыялізме і эмпірыокрытыцызме» Ленін спыняецца на вядомым палажэнні гістарычнага матэрыялізма: «грамадскае сазнанне **адлюстроўвае** грамадскае быццё» **). Гэта азначае, што крыніцу фарміравання духоўнага жыцця грамадства, крыніцу паходжання грамадскіх ідэй і тэорый трэба шукаць, у канчатковым выніку, ва ўмовах матэрыяльнага быцця грамадства, адлюстраваннем якога гэтыя ідэі і тэорыі з'яўляюцца.

Гэта вучэнне Леніна атрымала свой бліскучы працяг у «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)», складзеным пры асабістым удзеле таварыша Сталіна:

> «Які спосаб вытворчасці ў грамадства,—такое ў асноўным і само грамадства, такія яго ідэі і тэорыі, палітычныя погляды і ўстановы» ***).

Адсюль, як гэта выдатна падкрэслена ў IV-м раздзеле гісторыі ВКП(б),

> «не выцякае, што грамадскія ідэі, тэорыі, палітычныя погляды, палітычныя ўстановы не маюць значэння ў жыцці грамадства, што яны не робяць адваротнага ўздзеяння на грамадскае быццё, на развіццё матэрыяльных умоў жыцця грамадства... Што датычыць **значэння** грамадскіх ідэй, тэорый, поглядаў, палітычных устаноў, што датычыць іх **ролі** ў гісторыі, то гістарычны матэрыялізм не толькі не адмаўляе, а, наадварот, падкрэслівае іх сур'ёзную ролю і значэнне ў жыцці грамадства, у гісторыі грамадства» ****).

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар., 124.
**) Ленін, т. XIII, стар. 264.
***) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 115.
****) Там-жа, стар. 110.

Махісты-эмпірыокрытыкі апалчыліся таксама супроць гістарычнага матэрыялізма. Марксізму-ленінізму, які ў аснову даследавання гістарычнага працэса кладзе аб'ектыўнае, матэрыяльнае, грамадскае быццё людзей, яны проціпаставілі бязглуздзіцу суб'ектыўнага ідэалізма берклiанскага тыпу. Іх «довады» супроць гістарычнага матэрыялізма з'яўляюцца паўтарэннем старога «доваду» супроць аб'ектыўнага існавання матэрыі. «Эмпірыокрытыкі» выступілі супроць вучэння марксізма-ленінізма аб аб'ектыўнай законамернасці гістарычнага працэса.

Ленін ушчэнт разбіў і гэты «довад» махістаў-эмпірыокрытыкаў. Ён геніяльна паказаў, што калі матэрыя ёсць аб'ектыўная рэальнасць і развіваецца ў сілу ўласцівых ёй самой законаў, то і гісторыя грамадства не ёсць скапленне выпадковасцей, не ёсць «соцыяльна арганізаваны» вопыт, як гэта захацелася сцвярджаць Багданаву, а развіваецца законамерна. Ленін адстаяў гэту вялікую ісціну марксізма ў барацьбе з махістамі.

Ленін развівае далей вучэнне марксізма аб законах развіцця грамадства. Калі развіццё грамадства ёсць законамерны гістарычны працэс, то адсюль само сабою ясна, што рэволюцыйная дзейнасць пролетарыята і яго партыі асноўваецца не на «добрых пажаданнях», а на законамернасцях развіцця грамадства. Адсюль следуе, што наша барацьба за пабудову комуністычнага грамадства мае сваю аб'ектыўную аснову. Адсюль следуе, што партыя, рабочы клас і ўвесь совецкі народ з'яўляюцца творцамі гэтага неабходнага гістарычнага працэса. Адсюль следуе, што справа партыі Леніна—Сталіна з'яўляецца справай аб'ектыўнага гістарычнага працэса, што яна не магла не перамагчы ў нашай краіне і не можа не перамагчы ва ўсім свеце.

* * *

Таварыш Сталін—вялікі прадаўжальнік вучэння Маркса—Энгельса—Леніна, тэарэтык большэвізма і правадыр працоўных усяго свету. Дзейнасць таварыша Сталіна дае нам яркі ўзор спалучэння вялікай тэарэтычнай магутнасці з выключным па свайму аб'ёму і размаху арганізацыйным вопытам пролетарскага руху. Ва ўсёй сваёй тэарэтычнай і практычнай барацьбе за комунізм таварыш Сталін развівае і ўзнімае на вышэйшую ступень філасофію марксізма-ленінізма—фундамент комунізма, тэарэтычную аснову марксісцкай партыі.

Яшчэ ў ранніх сваіх работах таварыш Сталін развіў і ўзбагаціў марксізм-ленінізм. У 1905 і 1907 гг. выйшлі ў свет «Мімаходам аб партыйных рознагалоссях» і «Анархізм і соцыялізм». У гэтых кнігах таварыш Сталін развівае асновы дыялектычнага матэрыялізма, з выключнай глыбінёй распрацоўвае пытанне аб немінучасці, няўхільнасці соцыялістычнай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята, аб неабходнасці стварэння баявой пролетарскай партыі і развівае яе стратэгію і тактыку. Усе гэтыя глыбока тэарэтычныя пытанні цесна звязаны з непасрэднымі задачамі рэволюцыйнай класавай барацьбы пролетарыята. Таварыш Сталін змагаецца супроць ворагаў марксізма-ленінізма—рэфармістаў і анархістаў і дае класічнае вызначэнне марксізма:

> «Марксізм не ёсць толькі тэорыя соцыялізма, гэта ёсць цэльны светапогляд, філасофская сістэма, з якой лагічна выцякае пролетарскі соцыялізм Маркса.

Гэта філасофская сістэма называецца дыялектычным матэрыялізмам» *).

Развіваючы філасофію марксізма, таварыш Сталін з класічнай яснасцю выкладае ў гэтых артыкулах асновы дыялектыка-матэрыялістычнага светапогляду. Дыялектычны светапогляд заключаецца ў тым, што жыццё разглядаецца ў безупынным росце і развіцці, што грамадскае жыццё не з'яўляецца нечым застыўшым і нязменным, што яно ніколі не спыняецца на адным узроўні, а знаходзіцца ў вечным руху, у разрушэнні і тварэнні. У жыцці з дня ў дзень нараджаецца новае і адмірае старое. Гібель старога—няўхільна, а перамога новага—немінуча.

«Калі, напрыклад, буржуазія губляе глебу і з дня ў дзень ідзе назад, як-бы моцна і шматліка ні была яна сёння, у канцы канцоў яна ўсё-ж павінна пацярпець паражэнне і зыйсці ў магілу... Калі, напрыклад, у жыцці нараджаецца пролетарыят і ён з дня ў дзень расце, як-бы слабы і малалікі ні быў ён сёння, у канцы канцоў ён усё-ж пераможа» **).

У гэтых сваіх працах таварыш Сталін паказаў, што рух мае дваякую форму: эвалюцыйную і рэволюцыйную.

«Рух эвалюцыйны—калі прагрэсіўныя элементы стыхійна працягваюць сваю штодзенную работу і ўносяць дробныя, **колькасныя** змяненні ў старыя парадкі. Рух рэволюцыйны, калі тыя-ж элементы яднаюцца, пранікаюцца адной ідэяй і паскоранымі крокамі імкнуцца да варожага лагера, каб у корані знішчыць стары парадак з яго **якаснымі** рысамі і ўстанавіць новы. Эвалюцыя падрыхтоўвае і дае глебу рэволюцыі, а рэволюцыя ўвенчвае эвалюцыю і садзейнічае яе далейшай рабоце» ***).

Гэтыя глыбокія філасофскія ісціны марксізма-ленінізма таварыш Сталін распрацоўвае ў барацьбе з меншавікамі, якія выхалашчвалі з марксізма рэволюцыйную душу, прапаведвалі толькі эвалюцыянізм і змагаліся супроць рэволюцыянізма, з'яўляючыся ворагамі пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята. Таварыш Сталін дае знішчажаючую крытыку меншавіцкай тэорыі стыхійнасці і абараняе вялікую ленінскую працу «Што рабіць?».

Як гэтыя першыя, так і ўсе паследуючыя работы таварыша Сталіна з'яўляюцца класічным узорам прымянення і далейшага развіцця марксісцкага дыялектычнага метада пры аналізе надта складанай барацьбы класаў. У работах таварыша Сталіна даецца ўзор далейшага тэарэтычнага развіцця марксавай дыялектыкі.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна мы дабіліся індустрыялізацыі нашай краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, пасяховага ажыццяўлення двух сталінскіх пяцігодак, у асноўным пабудавалі соцыялізм у нашай краіне і ўступілі ўжо ў новую паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Работы таварыша Сталіна вучаць нас цэласнаму сінтэтычнаму падыходу да ўсёй ленінскай спадчыны, яны даюць узор сапраўднага

---

*) **Берыя** „Да пытання аб гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі", выд. 1936 г., стар. 59—60.

**) Там-жа, стар. 60.

***) Там-жа, стар. 61.

адзінства лагічнага і гістарычнага аналіза рэчаіснасці, яны грунтуюцца на прынцыпе найглыбейшай партыйнасці ў прымяненні да ўсіх пытанняў.

Таварыш Сталін ва ўсіх сваіх працах, у сваёй класічнай практычнай рэволюцыйнай рабоце паказвае, што асновай дыялектычнага метада з'яўляецца ўменне аналізаваць гістарычную абстаноўку і канкрэтна падыходзіць да вырашэння складанейшых пытанняў, якія ёю высоўваюцца.

У барацьбе з усімі ворагамі марксізма-ленінізма таварыш Сталін паказаў, што асноўным і галоўным у ленінізме з'яўляецца вучэнне аб дыктатуры пралетарыята.

Гэтае вялікае вучэнне марксізма-ленінізма таварыш Сталін адстаяў ад усіх і ўсякіх ворагаў партыі і народа.

У працах таварыша Сталіна раскрыта логіка ўсяго гістарычнага развіцця большэвізма, логіка справы, якая базіруецца на глыбокім гістарычным вывучэнні ўсіх пытанняў. Таварыш Сталін дае канкрэтны гістарычны аналіз ролі пралетарыята і сялянства ў эпоху буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, у эпоху рэволюцыі пралетарскай і пасля ўмацавання совецкай улады. Або ўзяць шэсць гістарычных умоў, у якіх таварыш Сталін дае праграму дзеяння для гаспадарнікаў і адначасова развівае і ўзбагачае тэорыю марксізма-ленінізма, вучэнне аб соцыялізме. Гаворачы аб гасразліку, як непасрэднай практычнай задачы гаспадарнікаў, таварыш Сталін тут-жа вырашае глыбока тэарэтычнае пытанне аб соцыялістычным накапленні, крыніцай якога з'яўляецца соцыялістычная вытворчасць. Гаворачы аб неабходнасці ліквідаваць ураўнілаўку ў заработнай плаце, таварыш Сталін тут-жа вырашае агульна-тэарэтычнае пытанне аб роўнасці пры соцыялізме і разбівае ўсе контррэволюцыйныя тэорыі ўраўнілаўкі.

Таварыш Сталін вучыць нас, што дыялектыка з'яўляецца жывой рэволюцыйнай душой марксізма, і развівае далей асноўны закон, ядро матэрыялістычнай дыялектыкі—закон адзінства і барацьбы процілегласцей. Вялікае вучэнне таварыша Сталіна з'яўляецца далейшым развіццём дыялектыкі Маркса—Энгельса—Леніна па ўсіх пытаннях і праблемах матэрыялістычнай дыялектыкі.

Пытанні аб характары і тыпе процілегласцей, аб дыялектычным адзінстве формы і зместу, сутнасці і з'явы, магчымасці і рэчаіснасці—усе гэтыя катэгорыі матэрыялістычнай дыялектыкі распрацаваны таварышом Сталіным з усёй тэарэтычнай глыбінёю на аснове класічнага аналіза і вырашэння самых вострых праблем соцыялістычнага будаўніцтва. У барацьбе з ворагамі партыі і народа таварыш Сталін адстаяў «карэннае тэарэтычнае аснаванне марксізма»—дыялектыку. У сваёй штодзённай практычнай і тэарэтычнай рабоце таварыш Сталін развівае дыялектыку далей.

Сталінская Канстытуцыя і даклад таварыша Сталіна аб праекце Канстытуцыі СССР—неацанімы ўклад у марксісцка-ленінскую філасофію. У гэтых сусветна-гістарычных дакументах дан выключна багаты аналіз законаў развіцця совецкага грамадства. У іх геніяльна развіта далей вучэнне аб соцыялізме, дан класічны аналіз двух фаз развіцця комунізма, канкрэтна паказаны асновы пабудовы соцыялістычнага грамадства. У дакладзе аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР таварыш Сталін даў непраўзыйдзеную характарыстыку новай пры-

роды рабочага класа СССР, сялянства і інтэлігенцыі, паказаў, якія велізарныя змяненні адбыліся ў нашай краіне. Сталінская Канстытуцыя, як і даклад таварыша Сталіна аб праекце Канстытуцыі СССР, узнімае вучэнне аб соцыялізме на новую, больш высокую ступень.

Даклад таварыша Сталіна на XVIII з'ездзе ВКП(б) з'яўляецца новым каштоўнейшым укладам у скарбніцу марксізма-ленінізма. Ярка асвятліўшы грандыёзны шлях, па якому партыя большэвікоў прывяла краіну да перамогі соцыялізма, абагуліўшы вопыт нашай рэвалюцыі, таварыш Сталін развіў вучэнне аб ролі дзяржавы наогул і асабліва нашай соцыялістычнай дзяржавы. Таварыш Сталін паказаў неабходнасць існавання соцыялістычнай дзяржавы і пры вышэйшай фазе комунізма, калі толькі наша краіна будзе заставацца ў капіталістычным акружэнні.

На пытанне, ці захаваецца ў нас дзяржава таксама і ў перыяд комунізма, тав. Сталін адказаў:

> «Так, захаваецца, калі не будзе ліквідавана капіталістычнае акружэнне, калі не будзе знішчана небяспека ваенных нападаў звонку. Пры гэтым зразумела, што формы нашай дзяржавы зноў будуць зменены, адпаведна са змяненнем унутранай і знешняй абстаноўкі.
>
> Не, не захаваецца і адамрэ, калі капіталістычнае акружэнне будзе ліквідавана, калі яно будзе заменена акружэннем соцыялістычным».

Гэтым геніяльным вывадам таварыш Сталін узбагаціў навуку аб развіцці грамадства, намеціў велічную перспектыву нашага пераможнага шэствія ўперад, да поўнага трыумфу комунізма.

Найвялікшым укладам у развіццё марксізма-ленінізма з'яўляецца «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», які «ўпершыню дае навуковае выкладанне асноў марксізма-ленінізма на прыкладзе ўсёй слаўнай гісторыі большэвіцкай партыі. Выхад у свет гэтага курса «Гісторыі ВКП(б)» стаў магчымым толькі дзякуючы выключнай рабоце над гэтай кнігай самога таварыша Сталіна» **(Молатаў)**.

«Гісторыя ВКП(б)» з'яўляецца энцыклапедыяй марксісцка-ленінскай тэорыі. У ёй выкладзены і далей развіты марксізм-ленінізм, дыялектычны і гістарычны матэрыялізм на аснове найглыбейшага аналіза гераічнай гісторыі большэвіцкай партыі.

> «Ствараючы «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», ЦК ВКП(б) ставіў сваёй задачай наглядна прадэманстраваць сілу і значэнне марксісцка-ленінскай тэорыі, якая навукова раскрывае законы развіцця грамадства,—тэорыі, якая вучыць прымяняць гэтыя законы да кіраўніцтва рэволюцыйнай дзейнасцю пролетарыята,—тэорыі, якая, як і ўсякая навука, безупынна развіваецца і ўдасканальваецца, якая не баіцца замяняць асобныя ўстарэлыя палажэнні і вывады новымі вывадамі і палажэннямі, адпавядаючымі новым гістарычным умовам»*).

Гісторыя ВКП(б)—кніга, якая стаіць у адным раду з вялікімі тварэннямі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Яна—магутная зброя ў барацьбе за трыумф комунізма.

---

*) Пастанова ЦК ВКП(б) „Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам „Кароткага курса гісторыі ВКП(б)".

# Што такое матэрыялізм і ідэалізм

*Тав. Смольнік П. (Плешчаніцкі раён) у сваім пісьме ў рэдакцыю „Большэвік Беларусі“ просіць у сувязі з вывучэннем гісторыі ВКП(б) больш падрабязна асвятліць пытанне: „Што такое матэрыялізм і ідэалізм?“*

***Адказваем на пытанне.***

Асноўным ва ўсякай філасофіі з'яўляецца пытанне аб адносінах мышлення да быцця, духа да прыроды. Што з'яўляецца пярвічным і што ўтарычным, вытворным: прырода ці дух? У залежнасці ад таго, як філасофы адказвалі на гэта асноўнае пытанне, яны падзяліліся на два лагеры. Тыя, што сцвярджалі існаванне духа раней прыроды і, значыць, тым ці іншым чынам прызнавалі стварэнне свету, саставілі лагер філасафаў-ідэалістаў, другая частка, лічыўшая асноўным пачаткам прыроду, далучылася да розных школ матэрыялізма.

Такім чынам, карэнная розніца паміж матэрыялізмам і ідэалізмам заключаецца ў тым, што прызнае той ці іншы філасофскі напрамак за аснову навакольнага свету: прыроду ці дух.

Матэрыялізм і ідэалізм—процілеглыя адзін другому філасофскія напрамкі. Паколькі асноўнае пытанне філасофіі яны выражаюць процілегла, то зразумела, што яны робяць зусім розныя вывады і ў вырашэнні ўсіх астатніх філасофскіх пытанняў.

Ідэалізм за першааснову свету лічыць сазнанне, дух; знешні-ж свет, прыроду, ён лічыць утарычным, вытворным, залежным ад сазнання. Таму ўсе з'явы, што адбываюцца ў прыродзе і чалавечым грамадстве, ідэалізм выводзіць з дзейнасці сазнання. Сазнанне-ж, адпаведна той ці іншай плыні, якой следуе філасаф, называецца ідэяй, душой, воляй, бажаством. Ідэалізм сцвярджае, «што рэальна існуе толькі наша сазнанне, што матэрыяльны свет, быццё, прырода існуе толькі ў нашым сазнанні, у нашых адчуваннях, уяўленнях, паняццях»*).

Ідэалістычны напрамак у філасофіі распадаецца на дзве асноўныя рознавіднасці: на ідэалізм суб'ектыўны, які бярэ за аснову адчуванне, уяўленне, сазнанне, асобнага індывідуума (суб'екта) і ідэалізм аб'ектыўны, які бярэ за аснову сазнанне наогул: сусветны розум, універсальную волю і т. д., існуючыя, па думцы аб'ектыўных ідэалістаў, самастойна, незалежна ад чалавека. Ідэалізм цесным чынам звязан з рэлігіяй і прыводзіць, скрыта ці адкрыта, да папоўшчыны, да ідэі бога.

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 105.

Марксісцкі філасофскі матэрыялізм вучыць, што першаасновай усяго свету з'яўляецца прырода, матэрыя, рэальны аб'ектыўны свет, жыццё. Усё гэта пярвічна. Сазнакне-ж, мышленне і наогул усё духоўнае з'яўляецца ўтарычным, вытворным ад матэрыяльнай асновы. Прырода, матэрыя існуе па-за і незалежна ад сазнання. Сазнанне-ж паяўляецца толькі на самай высокай ступені развіцця матэрыі. Мысль ёсць прадукт дзейнасці чалавечага розуму, а мозг—прадукт высока арганізаванай матэрыі, якая стварылася ў выніку вельмі доўгага гістарычнага развіцця.

Працэс чалавечага пазнання, які развіваецца гістарычна, ёсць, згодна матэрыялістычнаму погляду на сазнанне, працэс адлюстравання ў сазнанні чалавека навакольнай матэрыяльнай рэчаіснасці. Нашы ўспрыманні, уяўленні і паняцці ёсць вобразы прадметаў аб'ектыўнай рэальнасці. Крытэрыем правільнасці пазнання з'яўляецца грамадская практыка. Праверка правільнасці ўспрымання вобразаў, прадметаў аб'ектыўнай рэальнасці, адрозненне ісцінных вобразаў ад ложных выяўляецца на практыцы.

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» прыводзіцца цытата з брашуры Энгельса «Людвіг Фейербах», у якой Энгельс указвае, што самае рашучае абвяржэнне ідэалістаў заключаецца ў практыцы, у эксперыменце і прамысловасці. Аб гэтым-жа гаворыць Энгельс і ў сваім артыкуле «Аб гістарычным матэрыялізме».

> «У той момант, калі адпаведна ўспрымаемым намі ўласцівасцям якой-небудзь рэчы, мы ўжываем яе для сябе,—у гэты самы момант мы падвяргаем беспамылковаму выпрабаванню сапраўднасць або ложнасць нашых пачуццёвых успрыманняў. Калі гэтыя ўспрыманні былі ложны, то і наша суджэнне аб магчымасці выкарыстаць даную рэч па неабходнасці будзе ложна, і ўсякая спроба такога выкарыстання немінуча прывядзе да няўдачы. Але калі мы дасягнем нашай мэты, калі мы знойдзем, што рэч адпавядае нашаму ўяўленню аб ёй, што яна дае той рэзультат, якога мы чакалі ад яе ўжывання, тады мы маем станоўчы довад, што ў гэтых межах нашы ўспрыманні аб рэчы і яе ўласцівасцях супадаюць з існуючай па-за намі рэчаіснасцю» *).

Частка ідэалістычных школ прызнае практыку, але разумее яе, вядома, як практыку духоўную, і ў канцы канцоў ідэалізм адрывае пазнавальную дзейнасць ад практыкі грамадскага чалавека.

Дух, розум, які ідэалізм прызнае за пярвічнае, ёсць звышпрыродная, а, значыць, выдуманая сіла, якая пад назвай бажаства робіцца прадметам рэлігійнай веры. Напрыклад, усе прадстаўнікі ідэалізма адкрыта прызнавалі сувязь сваіх поглядаў з рэлігіяй. Так, англійскі епіскап, суб'ектыўны ідэаліст Берклі, ствараючы сваю філасофскую сістэму, спадзяваўся ўмацаваць рэлігійнасць і знішчыць атэізм, звязаны з матэрыялістычным вучэннем. Ён прапаведваў сваю «тэорыю» аб тым, што быццам-бы рэальна існуе толькі адчуваючы чалавек, а ўсё астатняе ёсць толькі «комплекс адчуванняў», стварэнне чалавечага «я».

Кант, дуаліст па свайму напрамку, заўсёды абмяжоўваў веды, каб даць больш месца для веры. Нямецкі філосаф першай паловы XIX стагоддзя, аб'ектыўны ідэаліст Гегель, звязваючы сваю філасофію з рэлігіяй, лічыў, што філасофскае пазнанне ісціны ўтвараецца

*) **Маркс.** Выбраныя творы, т. I, стар. 304, Дзяржпалітвыдат. 1938 г.

ў форме паняццяў, у той час як рэлігія пасцігае ісціну ў форме пагляндаў. Па поваду слоў Гегеля аб дрэўнегрэчаскім філосафе-матэрыялісте Эпікуры: «у Эпікура няма... канчатковай мэты свету, мудрасці творцы»—Ленін зазначае: «Бога шкада!! сволач ідэалістычная!!» *).

Ленін з асаблівай любоўю адносіцца да вялікіх матэрыялістаў мінулага. Ён старанна законспектаваў кнігу Ласаля аб дрэўнегрэчаскім філосафе Геракліце. У гэтым канспекце Ленін трайной рысай адзначае словы Геракліта:

«Свет, адзіны з усяго, не створан нікім з багоў і нікім з людзей, а быў, ёсць і будзе вечна жывым агнём, які законамерна ўспалымняецца і законамерна пагасае...»

«Вельмі добрае выкладанне пачаткаў дыялектычнага матэрыялізма» **)—пісаў аб гэтым поглядзе Геракліта Ленін.

Ідэалізм—у корані процілеглы навуковаму светапогляду, бо ў ідэалістычных сістэмах з'явы прыроды і чалавечай гісторыі тлумачацца пры дапамозе выдуманай прычыны, а на месцы рэальнай, натуральнай сувязі паміж з'явамі ставіцца фантастычная. Ідэалізм, у якой-бы форме ён ні праяўляўся, заўсёды вядзе да прызнання рэлігіі, бога. Матэрыялізм-жа, які праводзіцца паслядоўна, абвяргае існаванне бога і ўсякіх цудаў і з'яўляецца адзіна навуковай філасофіяй.

Ідэалізм філасофскі «абгрунтоўвае» папоўшчыну, падтрымлівае яе рэакцыйныя імкненні абмежаваць навуку, замяніць навуку рэлігіяй. Ідэалізм і рэлігія зыходзяць з таго, што рэальна існуе толькі адзін дух—бог і што матэрыяльны свет—гэта толькі прадукт ідэі, бога, вышэйшай істоты. Вось чаму Маркс і Энгельс пісалі:

«Усе ідэалісты, як філасофскія, так і рэлігійныя, як старыя, так і новыя, вераць у натхненні, адкравенні, спасіцеляў, цудатворцаў, і толькі ад ступені іх асветы залежыць, ці набывае гэта вера грубую, рэлігійную форму, ці асвечаную, філасофскую ***).

Вось чаму з філасофскім ідэалізмам звязаны інтарэсы рэакцыйных класаў грамадства, якія імкнуцца ў саюзе з папоўшчынай адурманіць сазнанне эксплаатуемых мас і замацаваць сваё панаванне. З філасофіяй матэрыялізма звязаны інтарэсы прагрэсіўных класаў грамадства. Марксісцкі філасофскі матэрыялізм ёсць светапогляд рэвалюцыйнага, адзінага да канца рэвалюцыйна-паслядоўнага класа—пролетарыята. Ідэалагічная барацьба, якую вядуць паміж сабою матэрыялізм і ідэалізм, па самых карэнных пытаннях эканомікі і палітыкі, з'яўляецца выражэннем класавай барацьбы паміж пролетарыятам і буржуазіяй.

Над пытаннем, што з'яўляецца першаасновай свету, чалавечая думка б'ецца з самых старадаўніх часоў. Матэрыялістычны светапогляд выкоўваўся ў барацьбе чалавецтва за перадавую, прагрэсіўную навуку. Як філасофскія вучэнні, матэрыялізм і ідэалізм з'явіліся ў Грэцыі 2.500 год таму назад. Асновапаложнікамі матэрыялістычнага светапогляду былі філосафы старажытнай Грэцыі: Фалес, Анаксімен, Анаксімандр. Яны лічылі, што прырода па сваёй сутнасці матэрыяльна, што ўсе прадметы навакольнай прыроды складаюцца з матэрыі, якая існуе вечна і заўсёды, якая нікім не створана. Але

*) Ленін. „Філасофскія сшыткі", стар. 299.
**) Ленін. „Філасофскія сшыткі", стар. 318.
***) „К. Маркс і Ф. Энгельс", т. IV, стар. 532.

нізкае развіццё прыродазнаўства не давала магчымасці першым матэрыялістам вызначыць самую сутнасць матэрыі, а таму яны лічылі сутнасцю яе ваду, паветра, зямлю. Другі грэчаскі філосаф-матэрыяліст, Геракліт сутнасцю матэрыялістычнага разумення прыроды лічыў вечны, жывы агонь, які законамерна ўспалымняецца і законамерна пагасае.

Ленін вельмі цаніў матэрыялістаў старажытнай Грэцыі, бо іх матэрыялізм, хоць і прымітыўны, не пакідаў месца для бога, як для творцы ўсяго існуючага. Старажытныя матэрыялісты за аснову навакольнага свету бралі прыроду такой, як яна ёсць. Навакольны свет яны ўспрыймалі, давяраючыся органам пачуццяў, што прыводзіла іх да памылковай мыслі аб адушаўлёнасці матэрыі. Яны прабавалі знайсці першаматэрыю ў адной з яе пачуццёвых форм (вада, паветра, агонь). Каштоўным у гэтых спробах было тое, што яны прыводзілі да вываду аб матэрыяльным адзінстве свету, якое пазней было даказана навукай.

У гэты-ж час у старажытнай Грэцыі ўзнікла і другое філасофскае вучэнне—ідэалізм. У грамадстве адбываўся працэс класавага расслаення на рабоў і рабаўладальнікаў, а разам з гэтым і цяжкая фізічная праца, стаўшая ўдзелам рабоў, аддзялялася ад працы разумовай, якой займаўся клас эксплаататараў-рабаўладальнікаў. Ідэолагі пануючага класа высунулі затым тэорыю прыроднага рабства, і процілеглы матэрыялізму ідэалістычны напрамак развіваўся ў адпаведнасці з гэтай тэорыяй, імкнучыся вытлумачыць не законы развіцця прыроды, матэрыяльнай рэчаіснасці, а працэс пазнання прыроды. Такім чынам працэс мышлення стаў выдавацца самастойнай, незалежнай ад матэрыяльных рэчаў сутнасцю.

Шырока матэрыялізм пачаў развівацца ў XVII і XVIII стагоддзях.

Маладая буржуазія—новы ўзыходзячы клас, змагаючыся за больш прагрэсіўны спосаб вытворчасці—капіталістычны, выкоўвала ў барацьбе з паміраючым феадалізмам новую ідэйную зброю—матэрыялізм. Віднейшыя прагрэсіўныя прадстаўнікі маладой буржуазіі пачалі імкнуцца да ведаў. Англійскі матэрыяліст Бэкон, якога Маркс лічыць роданачальнікам англійскага матэрыялізма і вопытных навук, сказаў, што «сіла ў ведах». Бэкону належыць заслуга развіцця вучэння аб матэрыі і руху, як аснове ўсяго існуючага. Ён даказаў, што веды апіраюцца і зыходзяць з матэрыяльнага вопыту, а не з бажэственнага адкравення.

Ленін вельмі цаніў французскіх матэрыялістаў XVIII стагоддзя—Ламетры, Дзідро, Гольбаха, Гельвецыя, якія абгрунтавалі матэрыялізм, рашуча, выступіўшы супроць рэлігіі.

Нямецкі філосаф XIX в. Людвіг Фейербах аднавіў матэрыялізм у яго правах, узяўшы за аснову ўсяго існуючага матэрыяльны свет, прыроду. Але матэрыялізм Фейербаха меў той недахоп, што ён хоць і проціпаставіў гегелеўскай абсалютнай ідэі матэрыяльны свет, як аснову ўсяго існуючага, але не ўзняўся да матэрыялістычнай пераапрацоўкі дыялектычнага метада Гегеля і разам з ідэалізмам Гегеля адкінуў і яго дыялектычны метад. Фейербах не змог глянуць на матэрыяльны свет, як на працэс, як на вешчаство, якое знаходзіцца ў безупынным руху і развіцці. Свой матэрыялізм Фейербах не змог пашырыць на гісторыю.

Але стары, дамарксаўскі матэрыялізм, хоць і быў прагрэсіўны, меў свае недахопы: абмежаванасць, непаслядоўнасць.

Ленін падкрэслівае:

«Асноўным недахопам «старога», у тым ліку і Фейербахаўскага (а тым больш «вульгарнага», Бюхнера-Фогта-Малешотта), матэрыялізма Маркс і Энгельс лічылі (1) тое, што гэты матэрыялізм быў «пераважна механічным», не ўлічваючы навейшага развіцця хіміі і біялогіі (а ў нашы дні варта было-б яшчэ дадаць: электрычнай тэорыі матэрыі); (2) тое, што стары матэрыялізм быў негістарычны, недыялектычны (метафізічны ў сэнсе антыдыялектыкі), не праводзіў паслядоўна і ўсебакова пункту погляду развіцця; (3) тое, што яны «сутнасць чалавека» разумелі абстрактна, а не як «сукупнасць» (пэўных канкрэтна-гістарычна) «усіх грамадскіх адносін» і таму толькі «тлумачылі» свет, тады як справа ідзе аб «змяненні» яго, г. зн. не разумелі значэння «рэволюцыйнай практычнай дзейнасці» *).

Маркс і Энгельс крытычна, творча перапрацавалі ўсе дасягненні навукі аб грамадстве, аб прыродзе, дасягненні перадавой, прагрэсіўнай навукі, што здабываліся ў шматвяковай барацьбе за ўладанне сіламі прыроды, у барацьбе прыгнечаных з прыгнятальнікамі. Маркс і Энгельс стварылі марксісцкі філасофскі матэрыялізм. Яны стварылі светапогляд рэволюцыйнай партыі пролетарыята, перамаглі непаслядоўнасць старога матэрыялізма, узяўшы ўсё лепшае ад старой філасофіі.

Марксісцкі матэрыялізм па свайму метаду і падыходу да матэрыяльнага свету з'яўляецца дыялектычным, чым рэзка адрозніваецца ад астатніх відаў матэрыялізма. Дыялектычны падыход да з'яў прыроды азначае, што матэрыя, якая з'яўляецца асновай свету, не знаходзіцца ў нерухомым стане, а развіваецца, змяняецца згодна дыялектычным законам. Сутнасць гэтых законаў заключаецца ў наступным: свет знаходзіцца ў безупынным руху, змяненні, развіцці. Усе з'явы прыроды знаходзяцца паміж сабою ў непарыўнай сувязі і ўзаемадзеянні. Развіццё свету ідзе па закону, згодна якому павольныя, нязначныя колькасныя змяненні прыводзяць, урэшце, шляхам скачка да змяненняў якаснага парадку. Такім чынам развіццё прыроды, гісторыі адбываецца ў выніку барацьбы процілегласцей.

Старыя матэрыялісты, не разумеючы таго, што прырода прадстаўляе сабой звязанае адзінае цэлае, бралі прадметы, з'явы прыроды асобна, адарвана адну ад другой, па-за іх вялікай агульнай сувяззю. Яны не бачылі ў прыродзе пераходаў, пераўтварэнняў, не разумелі значэння супярэчнасцей і процілегласцей у развіцці, зводзілі ўсё развіццё да безупыннага росту і руху па кругу, які кожны раз паўтараецца спачатку.

Стары матэрыялізм быў абмяжован тым, што не мог пашырыць палажэнняў матэрыялізма на развіццё грамадства. Як толькі старыя матэрыялісты падыходзілі да грамадскіх з'яў і браліся іх растлумачваць, яны ўпадалі ў ідэалізм. Так, напрыклад, французскія матэрыялісты XVIII стагоддзя Гольбах, Гельвецый і інш. сцвярджалі, што чалавек з яго ідэямі ёсць прадукт акружаючага асяроддзя, а на пытанне, чым вызначаецца развіццё грамадскага асяроддзя, якое акружае чалавека, адказвалі: асяроддзе з усімі сваімі ўласцівасцямі ёсць плод поглядаў людзей. Такім чынам ідэі, мыслі ператвараліся ў французскіх матэрыялістаў у прычыну грамадскага развіцця.

*) **Ленін, т XVIII, стар. 10.**

Марксісцкі філасофскі матэрыялізм упершыню ў гісторыі навукі растлумачыў матэрыялістычна чалавечае грамадства.

> «Паглыбляючы і развіваючы філасофскі матэрыялізм,—пісаў Ленін,—Маркс давёў яго да канца, пашырыў яго пазнанне прыроды на пазнанне **чалавечага грамадства» *).**

Стары матэрыялізм не разумеў пераўтвараючай дзейнасці чалавечай практыкі і з'яўляўся сузіральным матэрыялізмам. Стары матэрыялізм не разумеў, што ў матэрыяльнай вытворчасці чалавек змяняе прыроду і самаго сябе, што гэта матэрыяльная практыка складае аснову ўсяго грамадскага развіцця. Такім быў, напрыклад, матэрыялізм нямецкага філосафа Фейербаха.

Марксісцкі матэрыялізм кладзе ў аснову сваёй тэорыі пазнанне, практыку, матэрыяльную вытворчасць. Ён ставіць сваёй задачай не толькі растлумачыць свет, але і змяніць яго. Дыялектычны матэрыялізм ёсць светапогляд марксісцка-ленінскай партыі.

Матэрыялізм, упершыню прыменены Марксам да грамадскага жыцця, азначае, што грамадская свядомасць вызначаецца грамадскім быццём, што ў свядомасці людзей адлюстроўваецца іх матэрыяльнае жыццё, што пануючыя ў даным грамадстве ідэі вызначаюцца спосабам вытворчасці матэрыяльных даброт (яда, адзежа, абутак, жыллё і т. п.), неабходных для існавання людзей. Спосаб вытворчасці матэрыяльнага жыцця людзей вызначае сабой усе грамадскія адносіны, увесь грамадска-палітычны лад і духоўнае жыццё людзей.

> «Калі прырода, быццё, матэрыяльны свет з'яўляецца пярвічным, а сазнанне, мышленне—утарычным, праізводным, калі матэрыяльны свет прадстаўляе аб'ектыўную рэальнасць, існуючую незалежна ад сазнання людзей, а сазнанне з'яўляецца адлюстраваннем гэтай аб'ектыўнай рэальнасці, то з гэтага вынікае, што матэрыяльнае жыццё грамадства, яго быццё таксама з'яўляецца пярвічным, а яго духоўнае жыццё—утарычным, праізводным, што матэрыяльнае жыццё грамадства ёсць аб'ектыўная рэальнасць, якая існуе незалежна ад волі людзей, а духоўнае жыццё грамадства ёсць адлюстраванне гэтай аб'ектыўнай рэальнасці, адлюстраванне быцця.
>
> Значыць, крыніцу фарміравання духоўнага жыцця грамадства, крыніцу паходжання грамадскіх ідэй, грамадскіх тэорый, палітычных поглядаў, палітычных устаноў трэба шукаць не ў саміх ідэях, тэорыях, поглядах, палітычных установах, а ва ўмовах матэрыяльнага жыцця грамадства, у грамадскім быцці, адлюстраваннем якога з'яўляюцца гэтыя ідэі, тэорыі, погляды і т. п.» **).

Такім чынам грамадскія ідэі, тэорыі маюць сваё паходжанне ў грамадскім быцці, у матэрыяльных умовах жыцця людзей. Узнікшы пасля таго, як развіццё матэрыяльнага жыцця грамадства паставіла перад грамадствам новыя задачы,—новыя грамадскія ідэі і тэорыі маюць велізарнейшае значэнне для пераўтварэння грамадства. Навуковыя ідэі, якія правільна адлюстроўваюць законы развіцця грамадскай рэчаіснасці і звязаны з рэвалюцыйнай практыкай, маюць велізарнейшае арганізуючае, мабілізуючае і пераўтвараючае зна-

---

*) Ленін, т. XVI, стар. 350.

**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 109.

чэнне. Яны рэволюцыянізіруюць масы, штурхаюць іх на практычную дзейнасць у пэўным напрамку, на барацьбу за пэўныя мэты, уносяць у матэрыяльную практыку людзей мэтаімкненнасць. Геніяльная ідэя Леніна і Сталіна аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной асобна ўзятай краіне, правільна адлюстроўваючая законы развіцця грамадства ў эпоху імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый, натхніла совецкі народ на барацьбу ва ўмовах зацяжкі сусветнай рэволюцыі і капіталістычнага акружэння. Яна мела велізарнае арганізуючае, мабілізуючае і пераўтвараючае значэнне ў справе пабудовы соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне.

Узброеная геніяльнымі ідэямі марксізма-ленінізма партыя большэвікоў і яе геніяльныя правадыры Ленін і Сталін прывялі рабочы клас у кастрычніку 1917 года да звяржэння буржуазіі і ўстанаўлення класавай дыктатуры пролетарыята. Пад сцягам марксізма-ленінізма партыя большэвікоў мабілізавала рабочы клас і працоўнае сялянства на барацьбу супроць белагвардзейскіх полчышчаў, і вораг быў разгромлен. Узброеная ідэямі марксізма-ленінізма, партыя большэвікоў выкрыла трацкістаў і правых рэстаўратараў капіталізма, як подлых агентаў фашызма, разграміўшы іх асіныя гнёзды. Пад сцягам марксізма-ленінізма перамог соцыялізм у СССР. Наша краіна ўступіла ўжо ў паласу завяршэння будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу да грамадства комуністычнага.

Ідэалізм у прымяненні да грамадскага жыцця азначае, што грамадскае сазнанне, ідэі людзей пярвічны, а матэрыяльныя ўмовы існавання грамадства, умовы вытворчасці ўтарычны, вытворны ад сазнання. Таму ідэалізм адмаўляе ўсякую аб'ектыўную законамернасць у развіцці грамадства і грамадскага жыцця. Гісторыя грамадства ў ідэалістаў ператвараецца ў скапленне «выпадковасцей». Бо раз, па іх сцвярджэнню, грамадскае быццё вызначаецца ідэямі, а ідэй, якія маюць розны напрамак, многа, паколькі існуе многа людзей, то з пункту погляду ідэалізма ў грамадскім развіцці пануе выпадковасць, нечаканасць, і няма ніякіх аб'ектыўных законаў, існуючых незалежна ад сазнання людзей.

Адмаўляючы існаванне аб'ектыўных законаў у развіцці грамадства, ідэалізм выключае навуку аб грамадстве. Тым часам навука існуе толькі тады, калі існуюць незалежна ад свядомасці людзей законы, якія адкрываюцца навукай і правільна тлумачацца ёю. З пункту погляду ідэалізма такіх законаў няма, а калі і ёсць, то яны проста непазнавальны. Значыць, з гэтага пункту погляду не можа быць навукі аб грамадстве. Са сцвярджэння ідэалістаў аб пярвічнасці сазнання выцякае, што тая або іншая форма грамадства залежыць не ад аб'ектыўных акалічнасцей, а ад пажаданняў «выдаючыхся асоб», ад іх розуму. Форма грамадства тады добрая, калі ў вялікіх людзей, у дзеячоў зараджаюцца разумныя, добрыя ідэі, якія заўсёды ажыццяўляюцца. Грамадская форма дрэнна тады, калі выдаючыяся дзеячы схільны да дрэнных ідэй. Выходзіць, што з пункту погляду ідэалізма гісторыя грамадства абгрунтоўваецца на пажаданнях выдаючыхся асоб, на сазнанні, на маралі, на разумных або неразумных пачуццях добрых або злых людзей, але ні ў якім разе не на законамернасцях развіцця грамадства, таму што гэтых законамернасцей, па сцвярджэнню ідэалістаў, няма.

Зразумела, што ідэалістычнае тлумачэнне гісторыі, якое адмаўляе

аб'ектыўную законамернасць у грамадскім развіцці і навуку аб грамадстве, выгадна эксплаататарскім класам. Бо навуковае тлумачэнне аб'ектыўнай законамернасці ў развіцці грамадства даказвае іх немінучую пагібель. Вялікая навуковая тэорыя марксізма-ленінізма геніяльна ўскрыла і растлумачыла аб'ектыўныя законы грамадскага развіцця, даказала немінучую пагібель капіталізма і перамогу камунізма. Адзіна навуковая тэорыя марксізма-ленінізма прадстаўляе ў руках рабочага класа магутнейшую зброю барацьбы і перамог.

Ідэалістамі ў разуменні гісторыі былі соцыялісты-утапісты Сен-Сімон (1760—1825), Шарль Фур'е (1772—1837) і Роберт Оуэн (1771—1858). У сваіх творах яны крытыкавалі капіталістычнае грамадства, яго соцыяльныя, палітычныя і маральныя ўстоі. Але, не разумеючы і не ведаючы сапраўдных законаў грамадскага развіцця, значэння пролетарыята як магільшчыка буржуазіі, утапічны соцыялізм

> «... не ўмеў ні растлумачыць сутнасць наёмнага рабства пры капіталізме, ні адкрыць законы яго развіцця, ні знайсці тую **грамадскую сілу**, якая здольна стаць тварцом новага грамадства» *).

Як ідэалісты, яны зыходзілі з прынцыпа, што ідэі вызначаюць той ці іншы грамадскі лад. Ім здавалася, што даволі прыдумаць ідэальны план і ўгаварыць правячых людзей ажыццявіць яго, каб знішчыць усе жахі капіталізма. Соцыялісты-утапісты лічылі магчымым дабіцца соцыялістычнай перабудовы грамадства шляхам перакавання эксплаататараў у перавазе соцыялізма. Яны разумелі і тлумачылі грамадскае жыццё, гісторыю грамадства з ідэалістычных пазіцый. Іх вучэнне мела характар мар і фантазій, бо яно не магло ўказаць сапраўдных шляхоў выхаду з капіталістычнага рабства.

Жалкія эпігоны вялікіх утапістаў—рускія народнікі, тлумачачы грамадскае жыццё з пункту погляду суб'ектыўнай соцыялогіі, прызнаючы рашаючую ролю ў гісторыі за вялікімі «крытычна мыслячымі асобамі», ігнаравалі працоўную масу і лічылі яе пасіўным «натоўпам», які ідзе за «актыўнымі героямі». Не ведаючы, не разумеючы законаў развіцця грамадства, яны сцвярджалі, што гісторыю робяць не класы і не барацьба класаў, а толькі выдаючыяся асобы. Адсюль іх рэакцыйная тактыка індывідуальнага тэрарызма, неразуменне матэрыяльных асноў і законаў грамадскага развіцця, ігнараванне рабочага класа, сапраўднага творцы гісторыі.

> «Падзенне утапістаў, у тым ліку, народнікаў, анархістаў, эсэраў аб'ясняецца, між іншым, тым, што яны не прызнавалі першынствуючай ролі ўмоў матэрыяльнага жыцця грамадства ў развіцці грамадства і, упадаючы ў ідэалізм, будавалі сваю практычную дзейнасць не на аснове патрэбнасцей развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, а незалежна ад іх і наперакор ім,—будавалі на аснове «ідэальных планаў» і «усеабдымных праектаў», адарваных ад рэальнага жыцця грамадства» **).

Толькі матэрыялістычнае разуменне гісторыі, адкрытае і абгрунтаванае Марксам і Энгельсам, развітае і ўзбагачанае ў новых умовах Леніным і Сталіным, упершыню дало геніяльна правільнае разуменне законаў грамадскага развіцця, дазволіла падыйсці да тлумачэння грамадскіх з'яў гэтак сама навукова, як і да тлумачэння з'яў

---

*) Ленін, т. XVI, стар. 352.

**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 109—110.

прыроды. Яно ўскрыла матэрыяльную аснову грамадскіх з'яў, аб'ектыўную законамернасць гістарычнага працэса.

«Велізарнейшым заваяваннем навуковай мыслі,—пісаў Ленін,—з'явіўся **гістарычны матэрыялізм** Маркса. Хаос і сваявольства, якія панавалі да гэтага часу ў поглядах на гісторыю і на палітыку, змяніліся надзіва цэльнай і стройнай навуковай тэорыяй, якая паказвае, як з аднаго ўкладу грамадскага жыцця развіваецца з прычыны росту прадукцыйных сіл, другі, больш высокі» *).

Дзякуючы матэрыялістычнаму разуменню гісторыі, соцыялізм з утопіі, з мары аб лепшай будучыні чалавечага грамадства ператварыўся ў навуку.

Пашырэнне палажэнняў філасофскага матэрыялізма на вывучэнне грамадскага жыцця і прымяненне іх да практычнай дзейнасці пролетарыята мае вялікае рэволюцыйнае значэнне. Бо калі сувязь і ўзаемная абумоўленасць з'яў прыроды

«... прадстаўляюць законамернасці развіцця прыроды, то з гэтага выцякае, што сувязь і ўзаемная абумоўленасць з'яў грамадскага жыцця — прадстаўляюць таксама не выпадковую справу, а законамернасці развіцця грамадства... гісторыя грамадства перастае быць скапленнем «выпадковасцей», бо гісторыя грамадства становіцца законамерным развіццём грамадства, а вывучэнне гісторыі грамадства ператвараецца ў навуку.

Значыць, практычная дзейнасць партыі пролетарыята павінна асноўвацца не на добрых пажаданнях «выдаючыхся асоб», не на патрабаваннях «розуму», «усеагульнай маралі» і т. п., а на законамернасцях развіцця грамадства, на вывучэнні гэтых законамернасцей» **).

Калі свет і яго законамернасці ўпаўне пазнаваемы і нашы веды аб законах прыроды, правераныя вопытам, практыкай, прадстаўляюць сабой даставерныя веды, якія маюць значэнне аб'ектыўных ісцін, то адсюль следуе, што пазнавальна таксама і грамадскае жыццё, а даныя навукі аб законах развіцця грамадства з'яўляюцца дастаўернымі данымі, якія маюць значэнне аб'ектыўных ісцін.

«Значыць, навука аб гісторыі грамадства, не гледзячы на ўсю складанасць з'яў грамадскага жыцця, можа стаць такой-жа дакладнай навукай, як, скажам, біялогія, здольнай скарыстаць законы развіцця грамадства для практычнага прымянення.

Значыць, у сваёй практычнай дзейнасці партыя пролетарыята павінна кіравацца не якімі-небудзь выпадковымі матывамі, а законамі развіцця грамадства, практычнымі вывадамі з гэтых законаў.

Значыць, соцыялізм з мары аб лепшым будучым чалавецтва ператвараецца ў навуку.

Значыць, сувязь навукі і практычнай дзейнасці, сувязь тэорыі і практыкі, іх адзінства павінна стаць пуцяводнай зоркай партыі пролетарыята» ***).

Марксісцкі матэрыялізм дае ў рукі рабочага класа вастрэйшую зброю барацьбы за сваё вызваленне. Светапогляд Маркса —

*) Ленін, т. XVI, стар. 350.
**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 108.
***) Там-жа, стар. 108—109.

Энгельса—Леніна—Сталіна ад пачатку да канца класавы, партыйны, ён выражае карэнныя інтарэсы самага перадавога, самага рэвалюцыйнага класа—пролетарыята. Іменна таму светапогляд пролетарыята з'яўляецца адзіна навуковым, жыццёва праўдзівым. Дыялектычны і гістарычны матэрыялізм ёсць адзіна правільнае, адзіна цэлае вучэнне, несумяшчальнае ні з якімі забабонамі, ні з якой папоўшчынай, ні з якой абаронай эксплаатататарскага буржуазнага ладу.

Дыялектычны і гістарычны матэрыялізм ёсць тэарэтычны фундамент комунізма, тэарэтычныя асновы марксісцка-ленінскай партыі. Вось чаму «веданне гэтых асноў і, значыць, іх усваенне з'яўляецца абавязкам кожнага актыўнага дзеяча нашай партыі» *).

С. Топаз

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 98.

# *Тлумачэнні некаторых філасофскіх тэрмінаў, якія сустракаюцца ў артыкулах С. Топаза і П. Рубенчыка, змешчаных у гэтым нумары журнала*[1]

АГНАСТЫЦЫЗМ (па-грэчаску «а»—не, «гносіс»—веданне)—філасофскае вучэнне, якое сцвярджае, што чалавечы розум абмяжован, што сапраўдная прырода рэчаў недаступна чалавечаму пазнанню. На гэтым пункце погляду стаялі Юм і Кант, а таксама многія філосафы-ідэалісты (Конт, Спенсер, Мах і інш.). Па вучэнню агностыкаў, відзімы намі свет, з якім мы маем справу ў нашым пазнанні, не ёсць аб'ектыўная рэальнасць, а толькі прадукт дзейнасці нашых органаў пачуццяў і розуму. Агнастыцызм абвяргаецца вопытам і практыкай. Навука з кожным днём пазнае ўсё больш глыбока і ўсебакова з'явы прыроды. Не існуе граніц для нашага пазнання. Няма непазнавае-мых рэчаў. Ёсць толькі розніца паміж тым, што пазнана ўжо, і тым, што яшчэ не пазнана.

ГНАСЕАЛОГІЯ (па-грэчаску «гносіс»—пазнанне і «логос»—вучэнне)—тэорыя пазнання, філософскае вучэнне аб здольнасці чалавека пазнаць рэчаіснасць і зразумець ісціну, вучэнне аб крыніцах пазнання (пачуцці, розум) і формах, у якіх яно адбываецца успрыманне, уяўленне, паняцце, суджэнне, заключэнне розуму і т. д.). Адпраўным пунктам усякай гнасеалогіі з'яўляецца матэрыялістычнае або ідэалістычнае вырашэнне пытання аб тым, як адносіцца наша пазнанне аб акружаючым нас свеце да самога свету. Матэрыялістычная гнасеалогія зыходзіць з таго, што па-за намі і незалежна ад нас існуюць прадметы, рэчы, целы, што нашы адчуванні ёсць вобразы знешняга свету. Ідэалістычная філасофія сцвярджае, што пазнанне чалавека або з'яўляецца адлюстраваннем ідэі (Платон, Гегель), або супадае з самім быццём, якое існуе толькі ва ўспрыманнях чалавека (суб'ектыўны ідэалізм Берклі і махістаў), або прынцыпова адмаўляе магчымасць пазнання свету (агнастыцызм Юма і Канта). У марксісцкай філасофіі няма асобнай навукі гнасеалогіі: матэрыялістычная дыялектыка, якая ўскрывае агульныя законы прыроды, грамадства і мышлення, і ёсць адзіна навуковая тэорыя пазнання. Яна «ўключае ў сябе тое, што цяпер завуць тэорыяй пазнання, гнасеалогіяй» (Ленін).

ДУАЛІЗМ (ад лацінскага «дуо»—два)—філасофскі напрамак, які ў процілегласць манізму пачаткам быцця лічыць не адну, а дзве розныя субстанцыі. Дэкарт, напрыклад, лічыў, што чалавек складаецца з двух незалежных субстанцый: цялеснай і духоўнай—душы і цела.

*) Тлумачэнні ўзяты з „Краткого философского словаря", ОГІЗ, 1939.

Дуалізм прабуе прымірыць і спалучыць матэрыялізм з ідэалізмам. Дыялектычны матэрыялізм стаіць на глебе манізма і адвяргае дуалізм. Прызнаючы рухаючуюся матэрыю першапрычынай усякай з'явы прыроды, ён лічыць сазнанне ўтарычным, вытворным ад матэрыі.

РАЦЫЯНАЛІЗМ (ад лацінскага «рацыо»—розум)—напрамак у тэорыі пазнання, які прызнае розум адзінай крыніцай сапраўднага ведання, у процілегласць **эмпірызму,** які лічыць адзінай крыніцай пазнання ісціны пачуцці. Дыялектычны матэрыялізм перамог аднабокавасці рацыяналізма і эмпірызма, навукова вырашыў пытанне аб пачуццёвым і лагічным момантах у пазнанні, разглядаючы іх у арганічнай сувязі і адзінстве. Пачуццёвы вопыт з'яўляецца адпраўным момантам пазнання, а лагічныя паняцці, г. зн. рацыянальны момант, ёсць пераапрацоўка пачуццёвых даных у галовах людзей. Віднейшымі прадстаўнікамі рацыяналізма былі Дэкарт, Спіноза, Лейбніц.

СЕНСУАЛІЗМ (ад лацінскага «сенсус»—адчуванне)—філасофскае вучэнне, якое прызнае крыніцай пазнання адчуванне. Ленін растлумачыў, што, зыходзячы з адчуванняў, можна ісці па лініі ідэалізма і па лініі матэрыялізма. Сенсуалісты-матэрыялісты (Локк, Гольбах, Гельвецый, Фейербах) лічаць, што адчуванні выклікаюцца дзеяннем на нашы органы пачуццяў прадметаў знешняга свету. Сенсуалісты-ідэалісты (Берклі, Юм, Мах, Авенарыус, Багданаў) сцвярджаюць, што нашы адчуванні ёсць толькі суб'ектыўныя перажыванні і не могуць адлюстроўваць аб'ектыўнага знешняга свету, бо апошні з іх пункту погляду не існуе. Дыялектычны матэрыялізм стаіць на глебе матэрыялістычнага сенсуалізма.

ЭМПІРЫОКРЫТЫЦЫЗМ (філасофія «крытычнага вопыту») або **махізм**—рэакцыйная суб'ектыўна-ідэалістычная філасофская плынь, узнікшая ў другой палове XIX в. у Германіі і Аўстрыі. Аснавальнікамі эмпірыокрытыцызма былі **Авенарыус** і **Мах.** Яны сцвярджалі, што ў аснове ўсіх з'яў ляжаць «элементы свету» або, што тое-ж, «элементы вопыту». Кожная рэч ёсць «комплекс элементаў». Славечкам «элемент» Авенарыус і Мах прыкрывалі той факт, што ў аснову з'яў яны клалі адчуванне, бо іх «элемент» роўназначны адчуванням. Тым самым эмпірыокрытыцызм прымае цалкам асноўную пасылку суб'ектыўнага ідэалізма Берклі. Развіваючы суб'ектыўна-ідэалістычны погляд на прыроду, Авенарыус і Мах даказвалі, што аб'ект (свет) немагчым без суб'екта (свядомасці, адчуванняў), што законы прыроды не маюць аб'ектыўнага значэння, з'яўляючыся формамі сазнання, што немагчыма **аб'ектыўная ісціна.** Пад уплывам Маха эмпірыокрытыцызм набыў некаторае распаўсюджанне сярод натуралістаў-фізікаў. Навейшыя адкрыцці ў фізіцы (расшчапленне атама на электроны і пратоны, адкрыццё электрамагнітнай прыроды атама), якія пацвердзілі правільнасць дыялектычнага матэрыялізма, па думцы буржуазных фізікаў, не здольных да дыялектычнага мышлення, сведчылі аб «знікненні матэрыі, аб немагчымасці пазнання ісціны», аб неабходнасці пераходу на глебу ідэалізма і т. д.

ЭМПІРЫОМАНІЗМ—рознавіднасць эмпірыокрытыцызма або махізма ў Расіі. Аснавальнікам ідэалістычнай філасофіі эмпірыоманізма быў А. А. Багданаў. Ён прабаваў на падставе адзінага (маністычнага) вопыту (адсюль і назва—«эмпірыоманізм») даказаць тоеснасць мышлення і быцця. Ідэалістычная сістэма эмпірыоманізма была ўтворана Багданавым шляхам замены індывідуальнага сазнання, якое выступае ў Авенарыуса і Маха ў ролі творцы прыроды, калектыўным са-

знаннем, шляхам сцвярджэння, што фізічны свет ёсць «соцыяльна-арганізаваны» вопыт «калектыўнага чалавецтва». Крытыкуючы Багданава, Ленін пісаў: «Думаць, што філасофскі ідэалізм знікае ад замены сазнання індывіда сазнаннем чалавецтва або вопыту адной асобы вопытам соцыяльна арганізаваным, гэта ўсёроўна, што думаць, нібы знікае капіталізм ад замены аднаго капіталіста акцыянернай кампаніяй». Зыходзячы з прызнання грамадскага сазнання асновай усяго існуючага, Багданаў аб'яўляў прадуктам сазнання ўсю наогул прыроду. Філасофія эмпірыоманізма Багданава, гэтак сама як і яе аснова—махізм, ёсць філасофія суб'ектыўнага ідэалізма. Эмпірыоманізм быў абаронай папоўшчыны. Ленін ускрыў сувязь эмпірыоманізма з **богашукальніцтвам і богабудаўніцтвам.**

ЭМПІРЫОСІМВАЛІЗМ—суб'ектыўна-ідэалістычная філасофія, разнавіднасць махізма. Ва Францыі яе асновапаложнікам лічыцца А. Пуанкарэ, у Расіі ў годы рэакцыі яе прапагандаваў меншавік П. Юшкевіч. Адмаўляючы аб'ектыўнасць знешняга свету і матэрыялістычную тэорыю адлюстравання, эмпірыосімвалізм прызнае ўяўленне і паняцце не вобразамі матэрыяльнага свету, а толькі сімваламі, умоўнымі знакамі нашых адчуванняў.

# Р Э Ц Э Н З І І

## Кніга аб вялікай перамозе

*І. Ф. Лочмель «Вызваленне Беларусі ад белапольскіх акупантаў» (11 ліпеня 1920 г.). Да дзевятнаццатай гадавіны. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1939 г. Стар. 52. Ц. 85 к. Тыраж 10 000 экз. (на беларускай і рускай мовах).*

Аўтар брашуры «Вызваленне Беларусі ад белапольскіх акупантаў» І. Ф. Лочмель сабраў вялікі і цікавы фактычны матэрыял аб знамянальнай даце ў жыцці беларускага народа—перамозе над польскімі панамі ў вайне 1920 г. з Польшчай.

Кніга складаецца з наступных раздзелаў: «БССР—у агні барацьбы народжаная», «Наступленне белапалякаў на Совецкую Беларусь у 1919—1920 гг.», «Адзінаццаць месяцаў белапольскай акупацыі», «Разгром белапольскіх акупантаў» і «БССР—краіна соцыялізма».

Кнігі аб белапольскай акупацыі выходзілі і раней. Многія факты асветлены ў вышаўшай у пачатку 1939 г. рабоце «К двадцатиголдзю Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі», пад рэдакцыяй Сямёнава і Папова. Але ў кнізе І. Ф. Лочмеля пытанне аб белапольскай акупацыі распрацавана значна шырэй, і выхад яе ў свет трэба вітаць. Яна з'явіцца добрым дапаможнікам прапагандыстам, агітатарам і бяседчыкам.

Кніга мае і некаторыя недахопы, якія зніжаюць яе каштоўнасць. На наш погляд, ва ўступнай частцы трэба было расшырыць раздзел «З мінулага беларускага народа» і даць яго ў храналагічным парадку. Аўтар вельмі правільна гаворыць, што «гісторыя беларускага народа—гэта гісторыя яго доўгай гераічнай барацьбы супроць іншаземных захватчыкаў за сваю незалежнасць, супроць усялякіх прыгнятальнікаў і занявольвальнікаў за свае правы, за сваё вызваленне, за радаснае, квітнеючае жыццё», але ён чамусьці не падкрэслівае той гістарычны факт, што рускі, украінскі і беларускі народы ва ўсёй сваёй гісторыі былі і ёсць неаддзялімы. Слава зброі гэтых народаў уходзіць далёка углыб гісторыі. Вайна 1919—1920 гг. з белапольскай Польшчай яшчэ раз уваскрашае ў нашай памяці гераізм і патрыятызм вялікага совецкага народа. Беларускаму народу асабліва памятны гэты адзін з важнейшых этапаў першай вайны імперыялістычных захватчыкаў супроць СССР.

У дзень 19-й гадавіны вызвалення ад белапольскай навалы беларускі народ не толькі ўспамінаў гераічную барацьбу Чырвонай арміі і совецкага народа, але і напомніў фашысцкім агрэсарам урокі 1920 г. Няхай яны не забываюць, што з таго часу сіла і магутнасць краіны соцыялізма выраслі нязмерна.

У далёкія вякі ўходзіць гісторыя беларускага народа. Рускім, украінцам і беларусам даводзілася ўвесь час змагацца поплеч су-

проць іншаземных захватчыкаў: нямецкіх псоў-рыцараў, літоўскіх князёў, польскіх паноў.

Яшчэ у XIII—XIV вяках польскія паны сілай захвацілі беларускія землі. Аўтар не праў, пішучы, што «у XVI веку панская Польшча прыбрала да сваіх рук Беларусь і Украіну». Не прыбрала, а імення гвалтоўна захапіла беларускія землі. Далей аўтар правільна ўказвае, што перыяд польскага ўладарніцтва быў найбольш цяжкім і змрочным у гісторыі беларускага народа.

> «Польскія паны захапілі многа лепшых зямель у Беларусі і сумесна з беларускімі феадаламі нясцерпна прыгняталі і грабілі беларускі народ. Пры дапамозе ксяндзоў яны навязалі беларускаму народу каталіцкую веру. Шляхам усялякіх гвалтаў і здзекаў праводзілі паланізацыю, і гэтым імкнуліся знішчыць беларускую народнасць.
>
> Нянавісць працоўных да прыгнятальнікаў і захватчыкаў расла. Народ паўставаў, граміў і знішчаў паноў і ксяндзоў, паліў панскія маёнткі. У сваёй барацьбе супроць класавых ворагаў беларускі народ выступаў поруч з рускім і украінскім народамі».

Аўтар у некалькіх словах расказвае аб паўстанні беларускіх сялян на чале з казаком Налівайка ў 1595 г., аб паўстанні рамеснікаў у Магілеве у 1606 г., аб народным паўстанні ў Віцебску ў 1623 г. Аўтар у некалькіх радках упамінае імёны кіраўнікоў казацка-сялянскіх паўстанняў XVII века: Небабы, Міхаенка, Крывашапкі, Гаркушы і Галоты. Упамінае аўтар і аб Крычаўскім паўстанні (1740—1744 гг.). Кніга многа выйграла-б, калі-б гэтыя факты паказаны былі значна шырэй.

Аўтар зусім не ўпамінае аб тым, што польскія паны выступалі ў саюзе з нямецкімі рабаўнікамі. Польскія паны імкнуліся захапіць рускую зямлю, але яе народ на чале з Мініным і Пажарскім у 1611 г. падняўся супроць захватчыкаў, разбіў іх і з ганьбай выгнаў за межы сваёй родзімы.

Трэба было больш падрабязна спыніцца на тым, як беларускі народ змагаўся супроць царскага самадзяржаўя. Усім вядома, што ў 1863 г. беларускія сяляне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага падняліся супроць паноў, забівалі іх, палілі маёнткі. Таксама і ў 1905 г. беларускія сяляне паднімаюцца супроць цара і памешчыкаў.

У раздзеле «Утварэнне БССР» трэба было падкрэсліць, што геніі чалавецтва Ленін і Сталін указалі зняволеным народам шлях да вызвалення ад эксплаататараў.

Аўтар зусім правільна падкрэслівае, што «стваральнікамі дзяржаўнасці беларускага народа з'яўляюцца вялікія правадыры працоўных усяго свету В. І. Ленін і І. В. Сталін». 20 год таму назад па ініцыятыве Леніна і пад непасрэдным кіраўніцтвам Сталіна была створана Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка. 1 студзеня 1919 г. быў апублікован гістарычны маніфест аб утварэнні БССР, поўнасцю аснованы на прынцыпах нацыянальнай палітыкі большэвіцкай партыі.

БССР з'яўляецца дзецішчам ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Яна была ўтворана ў той час, калі іншаземныя захватчыкі сумесна з унутранымі ворагамі—трацкістамі, бухарынцамі, бур-

жуазнымі нацыяналістамі—пачалі вайну супроць маладой совецкай рэспублікі.

Неўзабаве пасля Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі польскія паны мабілізуюць супроць яе контррэволюцыйныя сілы. Тады Чырвоная Армія пад Жлобіным і Рагачовым наносіць рашучы ўдар корпусу Даўбор-Мусніцкага. Але гэта не зменшыла крыважэрнасці польскіх паноў. Совецкі ўрад прымаў усе захады, каб заключыць мір з Польшчай, аднак яна ўпарта адмаўлялася. Пасля краху нямецкай акупацыі, атрымаўшы вялікую дапамогу ад Антанты, яна пачынае наступленне на совецкую рэспубліку, каб закабаліць беларускі народ.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі польскія памешчыкі ўладалі на Беларусі сотнямі маёнткаў. Ім належалі лепшыя землі. Княгіня Гогенлоэ мела 712 тыс. дзесяцін, князь Вітгенштэйн—700 тыс., граф Тышкевіч—296 тыс., граф Патоцкі—240 тыс., у князя Радзівіла у адной толькі Менскай губерніі было каля 200 тыс. дзесяцін зямлі, награбленай у беларускага народа. У сваіх захватніцкіх планах польскія паны не абмяжоўваліся мэтай звярнуць сабе маёнткі, яны хацелі захапіць Беларусь і правабярэжную Украіну, каб пашырыць польскую дзяржаву «ад мора да мора».

Польскія паны былі ў смяротным страху ад блізкага суседства з краінай Советаў. Яны баяліся, як-бы поспехі совецкай улады не паслужылі польскім рабочым і сялянам рэволюцыянізіруючым прыкладам для звяржэння крывавай панскай дыктатуры.

Так ствараліся агрэсіўныя планы Польшчы. 21 красавіка 1919 г. польскія захватчыкі з дапамогай Антанты акупіруюць г. Вільню і пачынаюць захват часткі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

Аўтар прыводзіць вельмі цікавыя матэрыялы аб тым, як арганізоўваўся адпор наступленню ворага. Агульны сход партыйнай арганізацыі большэвікоў г. Менска прымае пастанову: «Правесці мабілізацыю 50% усіх членаў нашай арганізацыі, кандыдатаў і спачуваючых для неадкладнай адпраўкі на фронт. Астатнія 50% праходзяць курс ваеннага абучэння». Па закліку партыі адпраўляліся на фронт атрады добраахвотнікаў з рабочых і сялян. У Гомелі, Бабруйску, Віцебску, Магілеве і іншых гарадах Беларусі праходзілі мабілізацыі.

Беларускі народ не быў адзінокім у сваёй барацьбе. На дапамогу яму прышоў вялікі рускі народ. Брацкая Украіна аказвала харчовую дапамогу. У ліпені 1919 г. для арганізацыі барацьбы супроць белапалякаў прыбыў у Беларусь тав. Сталін, які асабіста кіраваў усімі аперацыямі на заходнім фронце і абаронай Менска.

Рабоча-Сялянская Чырвоная армія і беларускія сяляне пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі нанеслі белапольскім акупантам рашучае паражэнне.

11 месяцаў белапольскай акупацыі з'яўляюцца самымі цяжкімі ў жыцці беларускага народа.

Аўтар падабраў многа фактычнага матэрыялу, але яго можна было-б значна папоўніць. Недастаткова паказана здрадніцкая дзейнасць беларускіх буржуазных нацыяналістаў як у часе вайны з панскай Польшчай, так і ў мірны перыяд.

19-ю гадавіну вызвалення Беларусі ад белапольскіх акупантаў наш народ сустрэў вялікімі дасягненнямі ў галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, навукі і культуры.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна непазнавальна змянілася аблічча краіны, яе народы разгарнулі свае творчыя здольнасці. У брацкім садружастве з усімі народамі СССР вырасла Совецкая Социялістычная Беларусь, як непераможны фарпост вялікай краіны социялізма.

Нямецкія фашысты і іх кампаньёны па асях і блоках ліхаманкава рыхтуюцца да новай вайны. Выгнаныя за межы Беларусі князі Радзівілы, графы Патоцкія і Тышкевічы, паны Скірмунты і Чапскія ўскладаюць свае надзеі на вось Рым—Берлін. Яны мараць аб звароце маёнткаў. Але гэта ім ніколі не ўдасца.

Беларускі народ многа нацярпеўся ад іншаземных захватчыкаў і добра памятае, што толькі дзякуючы брацкай дапамозе рускага народа і працоўных усіх совецкіх рэспублік ён разбіў сваіх ворагаў і адстаяў заваяванні вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

Беларускі народ прасякнут пачуццем гарачага патрыятызма і вялікай любві да сваёй слаўнай соцыялістычнай бацькаўшчыны. Ён ведае, што сіла і нерушымасць вялікага Совецкага Саюза—у брацкім, цесным садружастве ўсіх яго народаў.

Кніга І. Ф. Лочмеля яшчэ раз напамінае беларускаму народу аб тым, што яго спрадвечныя ворагі—польскія паны ў саюзе з нямецкімі драпежнікамі могуць зноў напасці на нашу бацькаўшчыну. Але няхай ведаюць, што беларускі народ разам з усімі народамі Совецкага Саюза, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, разгроміць фашысцкіх агрэсараў на той тэрыторыі, адкуль яны ўздумаюць з'явіцца.

Недахопам кнігі з'яўляецца тое, што ў ёй няма раздзелу аб разгроме нямецкіх акупантаў.

Добра было-б прывесці таксама некаторыя дакументы з часу нямецкай і белапольскай акупацый.

Т. ГАРБУНОЎ.

---



Уп. Галоўліта БССР № 474
Тыраж 7970 экз.
352.000 друк. зн. (6½ арк.)
Здана ў набор 13/VII—39 г.
Падпісана да друку 2/VIII—39 г.

*РЭДКАЛЕГІЯ.*

Друкарня імя Сталіна, Мінск, Дом Друку. Зак. № 802.

*Ад рэдакцыі.*

Папраўка. На 1-ай старонцы ў «Змесце» (11-ы радок знізу) трэба чытаць: «Дваццаціпяцігоддзе першай сусветнай імперыялістычнай вайны».

**ЦАНА 40 кап.**

